Выходзіць з 1932 года.

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

15 ЛІСТАПАДА 2002 г. № 45/4179 КОШТ 328 РУБ.

Ад Міжнароднай супольнасці пісьменніцкіх саюзаў народнаму мастаку Беларусі Міхаілу САВІЦКАМУ ўручана прэмія імя М. ШОЛАХАВА

2



Уладзімір САЛАМАХА: "...Не можа быць ворагаў сярод пісьменнікаў"

3



СУСВЕТНАЯ ДЭКЛАРАЦЫЯ КУЛЬТУРНАЙ РАЗНАСТАЙНАСЦІ ЮНЕСКА

13-14

У Беларусі друкуецца ўпершыню

# СУЗІРАННЕ ЯЗЭПА НАРЦЫЗАВІЧА. СЯБЕ, АЙЧЫНЫ Й СУСВЕТУ

***Калі стамляешся нечага чакаць, а яно — нарэшце здараецца — дык атрымліваецца, нібыта сюрпрыз. Такім сюрпрызам для аматараў прыгожага мастацтва стаў выхад у свет альбома-манаграфіі "ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ", які быў здадзены ўкладальнікам Міколам Купавам у выдавецтва "Беларусь" трынаццаць гадоў таму. Выйшаў жа альбом літаральна днямі ў "Беллітфондзе". Ім распачынаецца новая серыя "Мастакі Беларусі".***

ГРАФІКА АКВАРЭЛЬ



МАСТАКІ МБ БЕЛАРУСІ

**Язэп Драздовіч. Альбом-манаграфія. — Мн.: Беллітфонд, 2002.**

Адразу агаворымся, што ні тэксты, ні ўкладанне не састарэлі, не пацярпелі ад доўгага чакання, мабыць таму, што былі створаны на ўздыме адраджэнскай хвалі канца васьмідзесятых мінулага ўжо стагоддзя, на якія, дарэчы, прыйшоўся і стогадовы юбілей Драздовіча. Прадмову, у якой пададзены даволі падрабязны жыццяпіс і зацікаўлены аналіз спадчыны Я.Драздовіча, напісалі — Аляксей Марачкін, Мікола Купава і Яўген Кулік. Няспешна і пераканаўча даводзяць яны, што ў гісторыі беларускага мастацтва і культуры першай паловы XX стагоддзя Язэп Нарцызавіч Драздовіч — постаць магутная, высакародная і прывабная, асоба адметная, яркая і як сёння прынята казаць, знакавая. Вытокі ягонай творчасці ідуць ад традыцыйна-народнага светаўспрымання, пры тым, што адны пласты ягонага мастацтва можна цалкам аднесці да мастацтва высокапрафесійнага, а іншыя — да мастацтва наіўна самадзейнага. Да фармавання светапогляду Драздовіча — грамадска-культурнага дзеяча, мастака, літаратара і настаўніка — спрычыніліся агульны палітычны

(Працяг на стар. 4)

**Васіль ЗУЁНАК**

# ЭЦЮДЫ



## ПРА ШТО ГАВАРЫЛІ ЗОРКІ...

Геніяльны верш Міхаіла Юр'евіча Лермантава "Выхожу один я на дорогу..." асабліва прыводзіць у захапленне радкамі "Ночь тиха. Пустыня внемлет Богу, и звезда с звездою говорит...", — усіх: ад мудрацоў, літаратурнай крытыкі да юнай школьніцы... І ніхто ніколі не спытаўся: аб чым жа гаворыць тыя зоркі?.. Не сказаў тое і паэт.

У слынным перакладзе Лермантаўскага верша на беларускую мову Аркадзь Куляшоў яшчэ больш аддаліўся ад адказу на гэтае пытанне: "Зорка зорцы голас падае..." Ужо не гавораць зоркі, а проста перагукваюцца, голас падаюць...

А вось Максім Танк — пачуў. Пачуў — і сказаў, пра што гаварылі зоркі. Сказаў у вершы сваім "Падслуханае" амаль праз паўтара стагоддзя пасля Лермантава.

Няцяжка здагадацца, што гаворка ў зорак сёння, мабыць, вялася пра іншае. І ўсё ж Лермантаўскі радок "И звезда с звездою говорит" паслужыў для Максіма Танка не адно толькі эпіграфам, але і тым чуйным камертонам, каб настроіцца на "мову зорак" нашага часу:

*Гэта была першая*
*Пасляваенная ноч.*
*Засыналі змораныя горам*
*Папялішчы,*
*Нівы,*
*Хвалі рэк.*
*Толькі чуць было,*
*Паміж сабою гаварылі зоры:*
*— Асцерагайцеся Зямлі,*
*На ёй — чалавек.*

(Працяг на стар. 5)

# КОЛА ДЗЁН

**На мінулым тыдні без сур'ёзных падстаў "Газпрам" на 50 працэнтаў скараціў пастаўкі газу ў нашу краіну. Пасля таго, як Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка правёў нараду, на якой прагучала крытыка і быў дадзены адпор непрымальным паводзінам пэўных колаў Расіі, "Газпрам" быў вымушаны павялічыць пастаўкі газу ў Беларусь з 50 да 75 працэнтаў аб'ёму, запланаванага раней. Гэтае павелічэнне пазітыўна ўспрынята беларускім кіраўніцтвам, і яно спадзяецца, што ў будучым не ўзнікне падобнага роду сітуацыі, што штучна ствараюцца пэўнымі расійскімі коламі, якія павінны памятаць, што на беларускай зямлі "жыве горды і незалежны народ, які не дазволіць нікому біць сябе нагамі ні з Захаду, ні з Усходу".**

**Пасля наведвання Масквы прэм'ер-міністрам Г. Навіцкім пастаўкі газу ў Беларусь поўнасцю аднаўлены.**

## *КЛОПАТ ТЫДНЯ*

У нашай краіне 1 лістапада пачаўся прызыў грамадзян на тэрміновую ваенную службу. Ён прадоўжыцца да 31 студзеня 2003 года. У ходзе цяперашняга прызыву ва Узброеныя Сілы Беларусі будзе накіравана больш як 10 тысяч чалавек, што на дзве тысячы менш, чым восенню—зімой мінулага года. Гэта стала магчымым дзякуючы рэфармаванню беларускай арміі.

## *ПАСТАНОВА ТЫДНЯ*

Пашпарты грамадзяніна СССР узору 1974 года і пашпарты з гербам "Пагоня" будуць сапраўднымі да 1 ліпеня 2004 года. Адпаведную пастанову прыняў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь. Словам, каб атрымаць дакументы ўзору 1996 года засталося нашым грамадзянам менш чым два гады. На сённяшні дзень новыя пашпарты маюць каля 77 працэнтаў дарослых жыхароў нашай краіны.

## *УШАНАВАННЕ ТЫДНЯ*

У курортнай Юрмале на тэрыторыі санаторыя "Вікторыя-91" да 120-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа пастаўлена скульптурная кампазіцыя па матывах твораў паэтаў-юбіляраў. Яна ўяўляе сабой чатыры вялікія драўляныя скульптуры. Пятая — прысвечана дружбе беларускага і латвійскага народаў. Кампазіцыю выканалі майстры драўлянай скульптуры М. Скляр, А. Пракорын, А. Пушкароў і В. Пятровіч.

## *БЮДЖЭТЫ ТЫДНЯ*

На сённяшні дзень памер мінімальнага спажывецкага бюджэту на кожнага члена "сярэдняй" сям'і з 4 чалавек складае 134503 рублі. Міністэрствам працы і сацыяльнай абароны вызначаны новыя памеры мінімальных спажывецкіх бюджэтаў для асобных катэгорый грамадзян. Так МСБ працаздольнага мужчыны адпавядае 161192 рублям, працаздольнай жанчыны — 163979, пенсіянера — 132767, пенсіянеркі — 132742, студэнта — 120308, студэнткі — 121608, хлопчыка ва ўзросце да 3 гадоў — 102455, дзяўчынкі — 102736 рублям.

## *НЕЧАКАНАСЦЬ ТЫДНЯ*

У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 23 кастрычніка 2002 года № 1455 усе віды дзяржаўных стыпендый навучэнскай моладзі павялічваюцца з 1 верасня ў 1,2 разы. Паколькі пастанова спазнілася да пачатку навучальнага года, за верасень усім студэнтам будзе зроблены пераразлік стыпендыі.

## *ПАДВЫШКА ТЫДНЯ*

З пачатку месяца дзеючыя тарыфы на электраэнергію праіндэксаваны на 7,6 працэнта. Цяпер гарадское насельніцтва за кожную спажытую кВт/гадзіну будзе плаціць 32,3 рублі, а пражываючыя ў дамах, якія абсталяваны электраплітамі — 23,5 рублі. Сельскаму насельніцтву трэба будзе плаціць 23,5 рублі за кВт/гадзіну.

## *МУЗЫКА ТЫДНЯ*

Першы ў свеце музычны твор "Сонечныя кольцы", заснаваны на гуках касмічнага паходжання, выканаў сусветна вядомы калектыў Kronos Quartet. Твор быў напісаны кампазітарам Тэры Райлі на аснове запісаў касмічных гукаў з калекцыі фізіка Дона Гернета з універсітэта амерыканскага штата Айова. У асноўным, музыка, сабраная кампазітарам, складаецца са шчаўчкоў, трэску і піску. Усё гэта дапоўнена гучаннем струнных інструментаў і хору.

# ПАЧАЛАСЯ ПАДПІСКА!

Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на першае паўгоддзе 2003 года на "ЛіМ". Звяртаем вашу ўвагу, што на сённяшні дзень тыднёвік прадаецца не ва ўсіх кіёсках, таму лепей за ўсё падпісацца, каб потым не ездзіць па горадзе ў пошуках патрэбнага вам нумара газеты. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на квартал — 7500 рублёў, на паўгоддзе — 15000 рублёў.

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 4000 рублёў, на квартал — 12000 рублёў, на паўгоддзе — 24000 рублёў.

**Ведамасны індэкс — 63857.**



# МЯНЯЮЦЦА ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ?




Міжнародны эканамічны форум Сабора славянскіх народаў Беларусі, Расіі, Украіны, які меў месца ў Белградзе, у Белградскай вобласці 3—6 лістапада, не ставіў мэту адказаць на ўсе пытанні, вырашыць усе праблемы, што ўзнікалі і ўзнікаюць на плыні славянскіх рухаў у нашых краінах: пытанні з цягам часу, на жаль, множацца, а многія праблемы з нядаўна непрадказальных ператвараюцца ў невырашальныя.

Тры краіны — адзін народ... Якая лічба вызначальная? Тры? Адзін? Трыста мільёнаў, як сведчыць статыстыка аб колькасці нашага славянскага роду на зямлі? Дзе мяжа паміж еднасцю і раз'яднанасцю нашых краін? Які пастулат спрацуе ўрэшце: Расія — і ўвесь славянскі свет ці: славянскі свет — і Расія? Ад чаго, ужо не хаваючыся, адварочваецца Масква, адварочваючыся ад праблем славянскага свету?

Пэўна ж, не гэтыя пытанні сталі на парадку дня форуму (спробы, няхай навобмацак, адшукаць і звязаць нітачкі разарваных повязяў былі настойлівымі і не ва ўсім безвыніковымі), але менавіта яны, агучаныя мной пытанні, працягваюць турбаваць многіх і многіх па завяршэнні работы форуму. І невыпадкова, думаецца, амаль не было на ім гэты раз ні гучных палітычных заяваў, ні безапеляцыйных адозваў: рэальнае жыццё ў любой са славянскіх краін сёння не пакідае месца для голага аптымізму і пустых спадзеваў. Ды і аўдыторыі, на тры чвэрці запоўненыя моладдзю (работа форуму праходзіла ў Белградскім універсітэце), чакалі, а то і маўкліва патрабавалі ад кожнага прамоўцы, сярод якіх было шмат вядомых навукоўцаў, не проста слоў, а прапаноў, што маглі б прывесці да магчымых у сённяшніх умовах рашэнняў.

Няпроста было, пазіраючы ў вочы тых, хто толькі з падручнікаў ведае пра вялікія подзвігі і вялікія страты народаў, яшчэ не так даўно жыўшых у адной краіне — СССР, гаварыць пра веру ў заўтрашні дзень, пра веру ў іх, нашчадкаў нашых. Але як жа — без гэтае веры? Куды — без веры?

Цешыла, прызнацца, у гэтыя дні адно: не толькі нас, людзей больш сталага пакалення, а і маладых яднала пачуццё патрыятызму, у якім ажывала агульная памяць, у якім уваскрасаў гонар за зямлю нашу, за кожны куточак яе, кожным на ягонае роднай мове называемы радзімаю. Дзякаваць Богу, мы перастаём саромецца (як нам навязваецца з усіх бакоў) гэтага пачуцця — значыцца, не ўсё страчана, не ўсё безнадзейна і незваротна.

І даклады, вынесеныя на абмеркаванне ўдзельнікаў навукова-практычнай канферэнцыі, што праходзіла ў рамках форуму, і міжнародны кірмаш, дзе прадстаўнікамі фірмаў і прадпрыемстваў з нашых краін заключаліся шматлікія кантракты і пагадненні аб супрацоўніцтве, і сустрэчы са студэнтамі і выкладчыкамі універсітэта, і знаёмства з музеем вялікай бітвы на Курскай дузе, а потым з помнікамі і храмамі ў Прохараўцы, на прохараўскім полі толькі ўмацоўвалі гэта пачуццё.

І тое, што не-не і даводзілася камусьці з членаў беларускай дэлегацыі "падпраўляць" сяготага з прамоўцаў, апелюючы да гістарычнае праўды і расстаўляючы больш дакладныя гістарычныя акцэнты на памінаемых падзеях далёкай мінуўшчыны, ні ў каго не выклікала пратэсту ці ваяўнічае нязгоды: не так лёгка "размініраваць" поле агульнае нашай гісторыі, калі не знікаюць, а множацца спробы "пераглядзець", а то і перапісаць яе на патрэбу сённяшняму дню.

Ды і падзеі, клопаты гэтага, сённяшняга, дня не назавеш аднагначнымі і для ўсіх зразумелымі: словы "власть предержащих" часта разыходзяцца са справамі, рэальныя справы па пашырэнні інтэграцыі часта падмяняюцца ўзаемнымі папрокамі ці ўзаемнай бяздзейнасцю, лічбы ўзаемаразлікаў у размежаванай граніцамі і заканадаўчымі актамі рынкавай прасторы разыходзяцца, прыводзячы да ўсё новых непаразуменняў... Як спалучыць тыя ніці повязяў, што абарваны і працягваюць абрывацца? Калі сіюмінутныя (часта эфемерныя) выгоды перастануць засціць далягляды супрацоўніцтва? Калі і чым здолеюць нашы дзеці і ўнукі залатаць разадраную, раздзіраемую на кавалкі амбіцыйнымі палітыкамі эканоміку? Ці заквітнее калі-небудзь дрэва славянскасці, дрэва старажытнага славянскага роду, явіўшы свету моцную не толькі духам славянскую цывілізацыю?

Пытанняў больш, чым адказаў, так. І ўсё ж добра, што яны пачынаюць гучаць усё грамчэй, усё настойлівей, — яны адрасаваны ўсім нам. І тым, хто ўпарта даводзіць сабе і свету: мы — славяне! Мы ёсць і будзем! І тым, хто стараецца не помніць ні роду свайго, ні шляху свайго, Госпадам вызначанага на пачатку ўсіх часоў.

Што ж, знакі прыпынку адвольна не мяняюцца. Калі агучаны, гучаць, закранаючы многіх і многіх, пытанні, — адказ не прамарудзіць. І заслуга прамінулага форуму, думаецца, у тым, што ўпэўненасці ў гэтым (няхай самую драбязінку!) дадалося.

**Таіса БОНДАР**
**Белград — Мінск**

# ЗАМІЛАВАНЫ РУСКАЙ ПРЫРОДАЙ



11 лістапада ў Нацыянальным мастацкім музеі адбылося ўрачыстае адкрыццё персанальнай выставы вядомага расійскага мастака, лаўрэата Дзяржаўных прэмій СССР і Расійскай Федэрацыі Валянціна Сідарава. Як ні дзіўна, нягледзячы на ўсе ўзнагароды і ганаровыя званні, мастак дагэтуль персанальных выстаў не меў.

На выставе былі прадстаўлены краявіды родных мясцін В. Сідарава, якія ўяўляюць сабой вобразную хроніку расійскай вёскі некалькіх апошніх дзесяцігоддзяў. Мастак і сёння шукае і знаходзіць некранутую цывілізацыйным уплывам прыроду, занатоўвае знаходкі ў сваіх палотнах. Гэта ягоны свет, ягоная Расія.

На вернісажы прысутнічалі калегі В. Сідарава — мастакі Беларусі і Расіі, афіцыйныя асобы дзвюх краін. За ўнёсак у беларуска-расійскія культурніцкія стасункі мастаку быў уручаны іменны гадзіннік ад Прэзідэнта Беларусі.

Цікава, што акрамя жывапіснай творчасці, мастак займаецца яшчэ і літаратурай. Ён сябра Саюза пісьменнікаў Расіі. А ў жывапісе В. Сідараў лічыць сябе прадаўжальнікам традыцый Левітана і Пластава.

У часе імпрэзы народнаму мастаку Беларусі М. Савіцкаму ад Міжнароднай супольнасці пісьменніцкіх саюзаў была ўручана прэмія імя Міхаіла Шолахава. Такім чынам вернісаж набыў асаблівую ўрачыстасць, стаў беларуска-расійскім святам.

**П. В.**





# ТРЫ ГЛЫТКІ НАСТАЛЬГІІ

## ГЛЫТОК ПЕРШЫ

Ні для каго не сакрэт, што яшчэ задоўга да нашага, пісьменніцкага нечарговага з'езда, што адбыўся нядаўна, як пісала адна газета "атмосфера в писательской среде была накалена до передела". Тым больш, для нас, літаратараў, не сакрэт, што "накалили" (калі сапраўды так) мы яе самі. Пісьменнікі. Мы ж, аказваецца (зноў жа газета, але іншая) "разышліся на розных узбочынах аднаго шляху", па якім, дадам ад сябе, ішлі нашы папярэднікі ажно з часоў стварэння творчай пісьменніцкай арганізацыі — імя якому, вядома ж, беларуская літаратура.

Зрэшты, як бы там ні было, але гэтая "накаленная до передела атмосфера" (во ўжо і іншых слоў у іх няма ў дачыненні да пісьменнікаў), як мне здаецца, свайго дамаглася. А менавіта: у грамадстве, у чытачоў нашых сёння аўтарытэт пісьменніка не такі ўжо, як быў раней. Іншы раз і такое чуеш: "Пісьменнікі... Што ад іх чакаць, якіх твораў..."

Няма нічога горшага за незаслужаную крыўду! А былі ж, ёсць і будуць у нашай творчай арганізацыі, калі яна сама сябе не знішчыць, сапраўдныя вялікія пісьменнікі, выдатныя людзі, творы якіх вядомы ва ўсім свеце. Ды і асабіста, чыста чалавечыя якасці многа каго з нас шмат чаго варты. І такіх літаратараў сярод нас — вельмі і вельмі шмат. У сталіцы. У абласных цэнтрах. У гарадах і гарадках. У вёсках — усюды, дзе жывуць і працуюць сябры нашага СБП. Але...

Прызнаюся, з такімі думкамі, ды з гэтым "але", у якім заключаны многія і асабіста мае, як і іншых, сумненні ў тым, ці сапраўды існаванню СБП нічога катастрафічнага не пагражае, ішоў я на апошнюю перадз'ездаўскую раду. Яна ж, рада тая, і па маім меркаванні, павінна быць наогул самай важнай, самай галоўнай у жыцці нашай творчай арганізацыі — прыём у саюз новых сябраў.

Прызнаюся таксама, як чалавек, які ў свой час, як і кожны з маіх калег (хто раней, хто пазней) перажыў тое хваляванне, якое зараз перажывалі кандыдаты ў прафесійныя пісьменнікі, проста баяўся за іх: а раптам 10 надзей, 10 памкненняў, 10 вер раз і назаўсёды будуць бяздумна знішчаны нашымі шкоднымі і для літаратуры і для людзей звадамі, гульнямі, непрыязнасцю адно да аднаго, ваяўнічасцю. (А як жа! У дарозе дзве ўзбочыны).

Кандыдаты Людміла Андзілеўка, Ніна Гарагляд, Уладзімір Гаўрыловіч, Мікола Захаранка, Ніна Рыбік, Віктар Слінько, Аляксей Філатаў, Сяргей Чыгрын, Алена Якаўлева. Баяўся, што яны, як творцы і як людзі, якраз і могуць так або інакш стаць нявіннымі ахвярамі (упэўнены, тут вельмі важны маральны аспект) непрымірымых змаганняў людзей з розных узбочын. Тады яны, кандыдаты, вядома ж, расчаруюцца ў нашым творчым саюзе (яго даўно ўжо абывацелі, ды і некаторыя пісьменнікі параўноўваюць Бог ведае з чым), і мала таго — надоўга, або назусім зыдуць з таго шляху, які, паўтаруся, называецца беларуская літаратура. (Многія не прымаюць лозунг, нібыта жыццё — барацьба, застаючыся прыхільнікамі іншага: жыццё — перш за ўсё праца).

Так, некаторыя кандыдаты, з кім давялося гаварыць, уступаючы ў саюз не хацелі б, каб гэта была арганізацыя, у якой пісьменнікі варагавалі б між сабой... (Яны, калі ўжо так, не ўяўлялі, што там і як на самай справе было).

У некаторых членаў рады — у многім розныя і жыццёвыя, і палітычныя пазіцыі. А той-сёй з нас упарта навязвае іншым: усё павінна быць так, як я кажу, толькі я, толькі тыя, хто са мной, толькі мы маем рацыю. Вы ж... Часам у такіх "выяснениях отношений и позиций" наогул страчвалася ўсё звычайнае прыстойнае, чалавечае, і той, хто ніколі навату страшным сне не мог уявіць, што такое магчыма ў пісьменніцкім асяродку, проста адыходзіў ад яго.

Асабіста мяне, напрыклад, насцярожвала і тое (як вынік галасавання), што і ў кандыдатаў, як і павінна быць, свае погляды на жыццё. Але ж яднае іх літаратура. Лёсы ж іх, маю на ўвазе, літаратурныя зараз, браліся вяршыць мы, людзі часам палярных палітычных поглядаў. А гэта ў такіх сітуацыях вельмі і вельмі небяспечна! Яшчэ б: будуць галасаваць канкрэтна не супраць кандыдатаў N., або К., а супраць тых членаў рады, якія далі ім рэкамендацыі. (Што паробіш, калі іншы раз і ў нас, асобных творцаў, перамагае не пісьменнік са здаровым поглядам на рэчаіснасць, а якісьці зласлівенькі чалавечык са сваёй "адпаведненькай" псіхалогіяй...)

І ўспомніліся мне чамусьці можа, 20—25-гадовай, а то і большай даўнасці часы ў пісьменніцкім асяродку тыя, калі маё пакаленне ішло ў літаратуру — фактычна, яго, як і іншыя пакаленні, вялі старэйшыя пісьменнікі.

Я тады працаваў у Дзяржкіно і ў саюз не хадзіў, але тым не менш адчуваў шчырыя клопаты пра мой літаратурны лёс Нікіфара Еўдакімавіча Пашкевіча, Васіля Цімафеевіча Віткі, Алеся Харытонавіча Асіпенкі — у кіно працавалі хто стала, хто ў сцэнарнай калегіі на "Беларусьфільме". Адчувалася іх шчырасць, добрае слова. І ніхто з іх ніколі не пытаў у камсамоле ты, ці не, у партыі, або не... Раілі: ідзі ў рэдакцыі часопісаў, нясі прозу. Прозу ж маю тады яны яшчэ не чыталі, чыталі мае сцэнарыі, газетныя рэцэнзіі, публіцыстыку...

Аднойчы асмеліўся і пайшоў. У "Маладосць". Пачуццё такое — як у храм іду: літаратура ж!.. А ў рэдакцыі ў адным пакоі сядзяць недасяжныя мне (звышлюдзі — пісьменнікі!) Іван Данілавіч Сіпакоў і Уладзімір Максімавіч Дамашэвіч... Апошні дзень тыдня... "Што ў вас: проза, паэзія, крытыка?.." — пытаюць. "Апавяданні, здаецца", — адказваю. "Але, гэта да мяне, — спакойна, зычліва кажа Уладзімір Максімавіч. — Пакіньце. Я з панядзелка ўжо ў адпачынку, але прыходзьце, прачытаю..."

Думаю, тым калегам, каго ўпершыню надрукаваў У. М. Дамашэвіч, дастаткова гэтага, каб успомніць тую маладосцеўскую "атмасферу", якая панавала тады там. І таксама думаю, што да слёз ім крыўдна зараз за тое, як не па-пісьменніцку, наогул не па-чалавечы на апошнім з'ездзе, зганялі Уладзіміра Максімавіча з трыбуны толькі за тое, што гады змянілі голас, запал... (А зганялі мы, самі пісьменнікі, як і іншых калег, быццам сваіх заклятых ворагаў...).

Так, ішоў я тады на тую апошнюю перадз'ездаўскую раду і ўсё больш хваляваўся: мы ж, ад каго залежыць быць або не быць у нашай творчай арганізацыі ў самым пачатку названым кандыдатам — такія розныя. У многім не можам паразумецца. Вось з-за нашых непаразуменняў некага і пакрыўдзім...

І яны, кандыдаты — таксама розныя. І па жыццёвым, і па творчым вопыце. (Перачытайце хаця б тыя іх біяграфічныя звесткі, што даў "ЛіМ" у нумары ад 4 кастрычніка гэтага года).

Боязна было ад усяго сказанага тут і не сказанага. Да ўсяго, яшчэ бачу: той-сёй, хто ўчора між сабой (і са мной) вітаўся — абыходзіць: не ў яго "лагеры". Во праўду напісаў у "ЛіМе" ад 20.09 гг. Сяргей Далідовіч: "Хто не з намі, той супраць нас?" Во яшчэ адзін жахлівы (а можа, усвядомленая пазіцыя?) лозунг, заклік, ці як яго там, які ведаем з якіх часоў уеўся ў свядомасць наогул асобных нашых людзей і знішчае ўсё чалавечае да іншых, не згодных з табой...). А тут яшчэ чую: "Хто рэкамендаваў N.? А хто К.? Так і хочацца крыкнуць: ды такі ж пісьменнік і чалавек, як і мы з табой!" Не крыкнеш — горш N., або К., зробіш. Тутужо К., або N., з твае ласкі і саюза і літаратуры адцураецца...



Вось, скажам, бліжэй за ўсіх знаёмы мне Валодзя Гаўрыловіч. Многія калегі былі ўстрывожаны яго літаратурным лёсам. Чалавек ён своеасаблівы, сарамлівы, для яго архіважна што і як іншыя скажуць. У зусім юным Валодзевым узросце надрукаваў яго першыя апавяданні У. М. Дамашэвіч у "Маладосці". І сёння яны, праз дзесятак гадоў здаюцца не благімі. А больш таго: бачна, што пісаў чалавек здольны (не я, іншыя так кажуць, хто перачытваў). І раптам адзін "мэтр" ці то не чытаючы, як след, ці па якой іншай прычыне падрэзаў крылы юнаму творцы на самым узлёце, надзеі нават не пакінуў (умеем!).

Як знік Валодзя. Знешне спакойны Гардзей, які пэўны час вёў у "Маладосці" прозу пастаянна казаў: "Хлопцы, дзе знік Гаўрыловіч?"

Ды нідзе не знік. Ігар Валасевіч, добры, у многім самабытны празаік, якога не прынялі ў саюз, бо нібы стары, аднойчы вярнуўшыся з камандзіроўкі з Жыткавіцкага раёна, сказаў: "Знайшоў Гаўрыловіча!" І нас туды неўзабаве павёз. І, амаль праз дзесяць гадоў сказалі мы Валодзю: "Пішы, хлопча!" Прызнаюся, сказалі гэта "Пішы хлопча!", чужое, якое з нейкага часу стала нашым маладосцеўскім. Што да мяне асабіста, дык ім, гэтым: пішы, хлопча, мяне некалі абнадзеілі і ўсцешылі, як, ведаю, і шмат каго іншых колішні галоўны рэдактар "Мастацкай літаратуры" Павел Андрэевіч Місько. Тады, помніцца, ён "прычэсваў" маю першую кніжку перад наборам "На ўзмежку радасці" і была ў гэтым надзея. І паэт Уладзімір Паўлаў, тады ўжо аўтар узорнай для мяне аповесці "Яжэліха", і мой рэдактар, паэт, гумарыст Рыгор Яўсееў, паведамляючы, што мне, пачаткоўцу, пакінулі тыраж у 12000 казалі: "Місько падтрымаў: трэба!" Таксама, у тую нашу зусім не афіцыйную, без камандзіроўкі паездку ў Жыткавічы да Гаўрыловіча мы сказалі Валодзю: "Давай творы. Завязём у рэдакцыю..."

Кажу гэта не для таго, каб пахваліцца перад іншымі, якія мы харошыя. Тым больш, не я так Валодзю казаў, а іншыя, а каб засведчыць: такая зычлівасць старэйшых да маладых заўсёды прысутнічала ў нашай літаратуры. Што да майго ўласнага вопыту, калі ўжо так, дык, ніколі не забуду як некалі ў той жа "Маладосці", куды я зайшоў ужо другі раз і прынёс апавяданняў больш чым трэба незнаёмы мне, як чалавек, але добра знаёмы як пісьменнік Мікола Сымонавіч Гіль, (я якраз перачытваў яго "Ранішнія сны", "Таццянін чэрвень"), які быў у рэдакцыі сказаў дакладна наступнае: "Давай я занясу ў рэдакцыю, прачытаю". І забраў! Прачытаў. Больш таго, надрукаваў у чарговым нумары "ЛіМа".

Сёння, можа ўжо ні Мікола Сымонавіч, ні Павел Андрэевіч не памятаюць гэтых вялікіх асабіста для мяне, тады пачаткоўца "дробязей". Але ведаю, ад іншых чуў: такая іх чалавечая і пісьменніцкая сутнасць — дапамагаць...

І гэта я ўспомніў. У той, здавалася б, не зычлівай "атмосфере", якая адчувалася ў СБП (а можа, мне так здавалася) перад той апошняй перадз'ездаўскай радай, калі прымалі ў творчы саюз маладых літаратараў. А яшчэ падумаў, што ўсе яны, так званыя кандыдаты ў сябры саюза друкаваліся ў розных выданнях: "Маладосці", "Полымі", "Нёмане", "ЛіМе", "Беларусі" і іншых і, мабыць, ніхто там, у рэдакцыях, не друкаваў іх, зыходзячы з палітычных прыхільнасцяў, сваіх і чужых, а — зыходзячы з аднаго, з мастацкіх якасцяў твораў. (Ужо чуем, пасля з'езда, маўляў, у нас — сапраўдная літаратура, у іншых выданнях — не, і г. д.). Што тычыцца "Маладосці" і яе аўтараў кандыдатаў, дык тут ужо і Казімір Камейша, і Віктар Гардзей, і Анатоль Казлоў (якраз бачыў, і быў сведкам) і ставіліся да ўсіх з павагай, шчыра, пачалавечы. (Сёння, кажуць, такое не ў "модзе"...). І, вядома ж, Генрых Далідовіч, які нярэдка амаль перапісваў цэлыя старонкі таго або іншага (маладога) празаіка, угледзеўшы за яго "каструбаватым" радком сапраўдныя здольнасці літаратара. Чуў ад кандыдатаў, як шмат увагі надавалі ім Алег Антонавіч Лойка, Алесь Лявонцьевіч Петрашкевіч, Адам Восіпавіч Мальдзіс, Васіль Аляксеевіч Жуковіч, Сяргей Іванавіч Законнікаў, Мікола Сямёнавіч Купрэеў, Васіль Сцяпанавіч Макарэвіч, Васіль Васільевіч Зуёнак, іншыя нашы старэйшыя і больш вопытныя і ў жыцці і літаратуры сябры саюза. А таксама тыя, да каго я магу звярнуцца на "ты" — Алесь Марціновіч, Леанід Дранько-Майсюк, Леанід Галубовіч, Анатоль Дэбіш, Барыс Пятровіч. Ды апрача іх — шмат хто іншы з пералічаных рэдакцый, з абласных аддзяленняў Саюза беларускіх пісьменнікаў. Але, розныя... Дык няўжо сапраўды мы, пісьменнікі, на радасць некаму і на смех людзям дажыліся да таго, што "хто не з намі, той супраць нас?" Па якім праве адны бяруць на сябе смеласць навязваць іншым свае погляды? І чаму ў нашай творчай арганізацыі столькі непрыязі між тымі, хто прытрымліваецца розных і жыццёвых і літаратурных пазіцый?...

Пра гэта не хацелася думаць. Адно: ды ўвогуле не можа быць ворагаў сярод пісьменнікаў. Інакш сама наша творчая арганізацыя, як такая, губляе ўсялякі сэнс...

Я павінен тут з радасцю папрасіць прабачэння ў членаў былой рады: дарэмна думаў, доўга жывучы ў "атмосфере, накаленной до передела", што не пераможа здаровы сэнс. На справе ж аказалася, кандыдаты аднагалосна тайным галасаваннем былі прыняты ў сябры нашага творчага саюза. (Між іншым, такое, каб аднагалосна, здаецца, адбылося ўпершыню за ўсю асабіста мне вядомую гісторыю СБП). Больш таго, ці не ўпершыню на той радзе разглядаліся кандыдатуры і тых, хто па розных прычынах не мог прысутнічаць на ёй. Ведаем жа, як нібыта з-за гэтага — не можа прысутнічаць — некалькі год запар не выстаўляюць на раду кандыдатуру аднаго празаіка, які згодна са сваёй дзяржаўнай службовай пасадай пастаянна знаходзіцца за мяжой (Вось, яна, моц нашага пісьменніцкага бюракратызму, ці што іншае?) Але тое, што прадэманстравала ў адносінах да "навабранцаў" тая рада на сваім апошнім пасяджэнні перад з'ездам, мяркую, дазваляе пра многае, што рабілася ў нашай творчай арганізацыі, задумацца з надзеяй. І няхай на гэты конт у кожнага будуць свае думкі. І ў мяне — таксама.

**Уладзімір САЛАМАХА**




# СУЗІРАННЕ ЯЗЭПА НАРЦЫЗАВІЧА. СЯБЕ, АЙЧЫНЫ Й СУСВЕТУ









(Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1)

уздым у Беларусі на пачатку мінулага стагоддзя, а таксама складаная палітычная і грамадска-культурніцкая сітуацыя ў тагачаснай Заходняй Беларусі.

У дачыненні да мастака нярэдка выпадае выкарыстоўваць прыметнік "першы". Язэп Драздовіч стаўся заснавальнікам гістарычнай тэматыкі ў беларускім выяўленчым мастацтве, а таксама распачынальнікам Скарыніяны – менавіта яму належаць першыя творы, прысвечаныя ўсходнеславянскаму першадрукару. Ягоныя жывапісныя і графічныя серыі "Жыццё на Сатурне", "Жыццё на Марсе" і іншыя адкрылі ў беларускім мастацтве касмічную тэматыку.

Вынікам бясконцых падарожжаў і нястомнага вывучэння айчыннай культуры сталі графічныя серыі і альбомы "Вільня", "Гальшаны", "Глыбокае", "Крэва", "Ліда", "Любча", "Меднікі", "Навагрудак", "Трокі" дый іншыя.

Паглыбленае вывучэнне гісторыі прывяло творцу і да навуковых вышукаў. Ён прымаў удзел у раскопках некаторых археалагічных помнікаў, зрабіў мноства фальклорных запісаў, актыўна супрацоўнічаў з Віленскім Беларускім музеем імя Івана Луцкевіча і з Беларускай акадэміяй навук у Мінску. І яшчэ адна адметная грань у творчасці Я. Драздовіча – гэта маляваныя дываны, у якіх праявіліся найлепшыя якасці творцы ў дэкаратыўна-ужытковым мастацтве і ягоная арганічная повязь з народнымі традыцыямі.

Захапленне ж нацыянальнай гісторыяй і касмічнай тэматыкай знайшлі свой арганічны працяг у літаратурнай творчасці. У 1924 годзе Язэп Драздовіч пачаў раман на гістарычную тэму "Гарадольская пушча", а ў 1931 напісаў і праілюстраваў уласнаручнымі гравюрамі навукова-папулярную працу па небазнаўстве "Нябесныя бегі". Адметнае слова сказаў творца і ў паэзіі, а летапіс жыццёвага і творчага шляху, а таксама самыя патаемныя думкі даверыў ён дзённікавым старонкам.

Але ж альбомы па мастацтве прызначаны найперш на тое, каб іх глядзець. Глядзець, здзіўляцца і захапляцца. А здзіўляцца і захапляцца ёсць чым. Узяць хаця б фотаздымкі, размешчаныя ў той жа прадмове. Якія шляхетныя, высакародныя абліччы, якія нечаканыя краявіды! Натуральна, на большасці з іх – Язэп Драздовіч. Вось ён з маці і братамі Кастусём і Геранімам. Дзісна, 1907г.; у форме жаўнера 188-га палкаізіі, дзе вучыўся на фельчара пры вайсковым шпіталі. Саратаў. 1911 г.; настаўнік Менскай беларускай гімназіі. Камароўскае прадмесце, 1920 г. (нават уявіць нялёгка, бо цяпер Камароўка – ледзь не цэнтр горада!); на святкаванні Купалля. 1925 г., Я.Д. сярод выкладчыкаў і вучняў Глыбоцкай школы. 1925 г.

Уласна рэпрадукцыі з твораў мастака размешчаны ў чатырох раздзелах – "Графіка. Акварэль", "Жывапіс", "Маляваныя дываны", "Пластыка".

Першы з іх – самы вялікі паводле аб'ёму. Надзвычай цікавыя тут напрацоўкі мастака ў кніжна-часопіснай графіцы. Гэта праект аздобы газеты "Наша Ніва", вокладка "Першага беларускага календара на 1910 г. выдання "Нашай Нівы", а таксама віртуозна-лаканічная вокладка кнігі паэзіі Канстанцыі Буйло "Курганная кветка". Архітэктурныя эцюды 1915-1916 гадоў нямала не саступаюць аналагічным замалёўкам геніяльнага каталонца Антоніа Гаўдзі, а "Вогнішча" і вокладка зборніка "Струны" з прысвячэннем кампазітару А.Грыневічу маглі б паспрачацца ў вышкталцонасці з графікаю знакамітага чэха Альфонса Мухі. Уражваюць варыянты краявідаў "Стадолішча" з рознай ступенню стылізацыі, найвышэйшая ступень культуры апрацоўкі аркуша ў далікатным маляванні тушшу пяром. Ну а беларускія пачатку мінулага стагоддзя маюць, акрамя ўсяго, і неацэнную дакументальную каштоўнасць. Свет даўніны адкрываецца ў гістарычных узнаўленнях партрэтаў беларускіх князёў. Трагічна і разам з тым пабытавабудзённа гучыць аркуш "Смерць брата Гераніма", як старанна і з любоў'ю намаляваныя ўспрымаюцца этнаграфічныя замалёўкі з серыі "Піншчына". Ну а малюнкі з бясконцымі цэрквамі, званіцамі, замчышчамі і замкамі, вежамі, міжвулічнымі крыжамі, капліцамі і вёскамі і не назавеш інакш як патрыятычным мастакоўскім подзвігам! Нават у, здавалася б, фантастычных сатурнянскіх і марсіянскіх краявідах Драздовіча, у ягоных хвойнікавых пальмах з лёгкасцю згадваюцца і прачытваюцца беларускія абрысы і матывы. І мімаволі тут напрошваюцца параўнанні не на нашу карысць. Замалёўкі парэшткаў Троцкага замка канца дваццатых гадоў мінулага стагоддзя мімаволі выклікаюць у памяці ягоны цяперашні, "паштовачны" лоск і дагледжанасць, якія здолелі надаць замку летувісы.

І хіба творчасць Драздовіча не блізкая па маштабе здзейсненага і задуманага спадчыне Велеміра Хлебнікава?! Хіба ж ягоная мастакоўская асоба, калі весці гаворку пра "касмічны" жывапіс і графіку, саступае постаці ягонага сучасніка (Міколы Чурлёніса), якога, калі пакарыстацца модным сёння словам, здолелі як след "раскруціць" нашыя суседзі-летувісы?! А калі пакінуць убаку няспраўджаныя амбіцыі ды гістарычныя крыўды, дык Драздовічава сімвалічна-алегарычная і амаль плакатная "Пагоня", аздобленая заклікам "VIVAT ALBARUSSIA LIBERTA", і сёння гучыць надзвычай надзённа. Як мара пра гарманічнае і дасканалае грамадства ўспрымаюцца касмічныя палотны мастака "Касмаполіс", "Трывеж. Панарама Месяцавага горада", "Артаполіс. Горад палацаў" і іншыя, да якіх прымыкаюць сваёй прасветленасцю і сімвалічнай значнасцю "Руіны Навагрудскага замка".

Пластыка Язэпа Драздовіча -- гэта пераважна рэзь па дрэве, нярэдка з паліхромнай падмалёўкаю. Тут досыць выразна прасочваюцца два накірункі. Першы – партрэты сваякоў: маці, братоў Баляслава, Кастуся, Стафана і блізкіх па духу людзей : Янкі Пачопкі, Антона Грыневіча, а таксама аўтапартрэтныя выявы. Другі – відавочнае даследаванне беларускай народнай і касцёльнай і драўлянай скульптуры: "Святая", "Арханёл", "Анёлы", "Маці Божая з дзіцем".

Завяршае альбом-манаграфію неабходны для спецыялістаў і досыць поўны навуковы апарат– рэзюме на ангельскай, нямецкай і рускай мовах, поўны каталог твораў на беларускай і ангельскай мовах, а таксама бібліяграфія.

Чаго ў гэтым выданні нестае, дык гэта Драздовічавых дзённікавых запісаў ці хаця б урыўкаў з іх – ягоных найцікавейшых развагаў пра жыццё, пра




творчасць і пра мастацтва. А ўспрымаліся б яны тутвельмі арганічна.

Творы Драздовіча, адлюстраваныя ў альбоме, захоўваюцца сёння ў Нацыянальным музеі Летувіскай Рэспублікі, Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, Нацыянальным Мастацкім музеі Беларусі, у Музеі старажытнай беларускай культуры НАН Беларусі, у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі, у Музеі Якуба Коласа, у гісторыка-культурным запаведніку "Заслаўе", у іншых зборах і фондах, а таксама ў прыватных калекцыях. Альбом гэты – важкая цагліна ў помнік выдатнаму сыну беларускай зямлі.

Наступнай і вельмі патрэбнай магло б стаць стварэнне музея Язэпа Драздовіча ў нашае сталіцы. Тым болей, што месца для яго ўжо прадвызначана камернай скульптураю Ігара Голубева, што стаіць у Траецкім прадмесці. Адна з камяніц, хай сабе й невялікая на 6-7 залаў (Графіка, Акварэль, Жывапіс, Маляваныя дываны, Пластыка, Літаратурная і навуковая дзейнасць) магла б арганічна нанізацца на экскурсійныя і турыстычныя маршруты па беларускае сталіцы.

Што ж тычыцца распачатае серыі "Мастакі Беларусі", то хочацца верыць, што ў ёй неўзабаве пабачаць свет манаграфіі "Фердынанд Рушчыц" дый іншыя, якія належна і годна рэпрэзентуюць залаты фонд нашага выяўленчага мастацтва.

**Уладзімір СІЎЧЫКАЎ**

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

## ЧОРНАЕ НАКАНАВАННЕ?..

Драўляная маска макондэ з Мазамбіка (музей Ліндэн, Штутгарт) вельмі падобная на аблічча Пушкіна, Аляксандра Сяргеевіча, — у блізкім пакаленні парастка ад афрыканскага дрэва... Голас крыві...

І ці не голас наканавання, бо: як мішэнь — кругамі — упрыгожанне, што аздабляе маску, — між вачэй, над пераноссем... Такія ж у яе дзве "мішэні"-завушніцы і яшчэ адна — на барадзе... А разам усе яны, калі глядзець на маску, утвараюць своеасаблівы крыж. І з-за яго ці на фоне яго, — Пушкін... Такое містычнае падабенства...

Чорны крыж Пушкіна?..

Яловыя вывараці якраз і служаць надзейным сховішчам, пад іх навесам — выдатныя ўмовы для ваўчынага жытла: засяляй — і пладзіся.

P.S. Згадаем яшчэ — як аргумент — верш выдатнага латышскага паэта Яна Райніса "Зламаныя сосны", — непакорныя сосны Балтыкі:

*Зламаў выносныя сосны ўраган.*
*На дзюнах стаялі — мора ў нагах.*
*Хацелі, гордыя, у далі зірнуць,*
*Не ўмелі хавацца і спіны гнуць...*

(Пераклад Рыгора Барадуліна).

Зламаныя сосны, сімвал нязломнасці. Нязломнасці духу, нязломнасці памкнення да свабоды...

Здаецца, тут можна паклікаць на падмогу і паэтычны вобраз з верша Аркадзя Куляшова:

*А што, як зямлю нашу выпусцяць з рук*
*Сасна і бяроза?..*

Бачым: не толькі сасна трымаецца за зямлю, але, тым часам, і саму зямлю трымае ў сваіх руках, аберагаючы і ратуючы, — такая моц у яе каранях!..

Знікла музыка, — і дзякаваць богу, сказаць бы... Але... але зніклі і дзеці: лецішча пуставала, — яно ж, па беднасці нашай...

У чыгуначнікаў жыццё не замірала, — тыя багацейшыя, выходзіць... Нават і рамонт зрабілі, падфарбавалі ўсё... О — і шыльда новая... І чытаю... а дзе ж маё ўлюбёнае — "цэнтар"? Ёсць, ды ўжо не тое самае, ужо: "центр" — усё правільна, бо па-руску. І "чыгунка" знікла — ёмкае слова, у якім і памяць яшчэ жыла — гукавая — пра чуханне паравоза з гонкімі гудкамі. З'явілася: "железная дорога"...

Засаромелася "беларуская чыгунка" свайго слова?.. Як бывае з тымі, для каго беларуская мова з'яўляецца і рабочай і моваю звычайных — будзённых і штодзённых — зносін: апынуўшыся ў больш-менш людным асяроддзі (у транспарце, у краме...) раптам пачынаюць яны, калі іх двое, ужо не размаўляць, а ледзь не перашэптвацца між сабою, прыглушваюць, прыніжаюць голас, як баючыся роднага слова, прыглушваючы і прыніжаючы тым самым сваю беларускасць, сваю нацыянальную годнасць... А тыя, што ў "асяроддзі" — таксама ж беларусы! — пачынаюць са здзіўленнем альбо з паблажлівай усмешкай пазіраць на "шаптуноў"... А хто-небудзь незадаволена, але з веданнем справы яшчэ і буркне суседу: "националисты..."

А калі б не гэтак — а калі б у сумоўі з тымі двума загаманіў увесь гэты аўтобус ці гэтая чарга, замаганіла вуліца, школа, універсітэт, горад... І ўсе па-беларуску, і ўсе з годнасцю... Па-гаспадарску, а не з тым прыніжэннем, што мова беларуская не вартая і не здольная "ахапіць " і "данесці" ўсю "веліч дум", народжаных у некаторых галовах... Не з пагардлівым, грэблівым прамаўленнем "на мове" асобных фраз, каб штосьці прынізіць, з кагосьці пакпіць (а праўду кажучы, слова наша ох і вострае ў гэтым сэнсе!..), а з дзяржаўнай мудрасцю і ўсведамленнем сказанага калісьці вялікім польскім паэтам, нашым земляком Адамам Міцкевічам у лекцыі студэнтам Калеж дэ франс, што мова беларуская надзвычай гарманічная, багатая і мілагучная, з самымі старажытнымі славянскімі каранямі...

Калі ж, калі загаворым мы, беларусы, па-беларуску, — паўсюдна і на поўны голас? Калі наступіць яно, беларускае поўнагалоссе?..

**Васіль ЗУЁНАК**

# ЭЦЮДЫ

### ў літаратурна-лінгвістычных колерах

## КАРАНІ

Ёсць у Чэхава цудоўнае апавяданне "Белалобы", — цудоўнае сваёй псіхалагічнай насычанасцю: "характары" двух, так бы мовіць, прадстаўнікоў жывёльнага свету — старой, умудронай драпежніцкім досведам ваўчыцы і па-дзіцячы наіўнага і цікаўнага шчанюка — выяўляюцца па-чалавечы каларытна, дэталёва, пераканаўча і дакладна, што становяцца ў дастойным шэрагу літаратурных герояў, узорам класічных вобразаў...

І ёсць у гэтым апавяданні адзін штрышок, які не дае мне спакою вось ужо ці не больш паўстагоддзя, — выклікае нязгоду, скажам так... "...года три назад во время сильной бури вывернуло с корнем высокую старую сосну, отчего и образовалась эта яма" (у якой жыла ваўчыца з ваўчанятамі)... Колькі б ні перабіраў я ў памяці лясных бураломаў, павалаў і завалаў — ніяк не магу прыгадаць сасновую вывараць...

Не-не, не тое што веры не даю Антону Паўлавічу: магло быць... Ураганы ды смерчы і не такое ўтварыць здольныя... Але ж — сосны... Можа, хто і бачыў калі, можа і яму, Чэхаву, на вочы трапілася такая? Можа... А ў мяне — ну, проста, душа не ляжыць, каб пагадзіцца...

Вясковыя хлапчукі знаюць: якія хвацкія, калі асцярожна выцягнуць з пясчанай зямлі, атрымліваюцца бізуны з каранёў маладой сасёнкі, — метраў пяць-сем, не меней. А калі гэтакая "каранёвая сістэма" ўвекавуецца?! Хто ездзіў па дарозе ў сасновым бары, помніць, па якіх пакручаных, вузлаватых, нязрушаных каранях дрогка скачуць колы фурманкі. А на старых вырубках: не даводзілася карчаваць сасновыя пні — смалякі на распал, на падтопку, а то і на паліва, ці нарыхтоўваць матэрыял для смалакурні? Паспрабуй-тка выбавіць з зямлі, вывернуць, вырваць з глыбіні галоўны, стрыжнявы корань сасны... Ого! — колькі поту пральеш, падкопваючы ды падважваючы яго вагаю... Сапраўдныя ж прамыслаўкі ў такіх выпадках дынамітныя "шашкі" выкарыстоўваюць...

А вы кажаце — вываразь: з такімі каранямі (нагадваю: да дзесятка метраў у радыусе) сасна хутчэй зламаецца, чым "вывернецца". Так яно і бывае звычайна...

Вось елка — тая падае пад націскам ветру, падае з вывернутымі каранямі, прыхапіўшы добры лапік прыствольнай імшанай глебы, утвараючы згаданую вываразь з ямайлаўжом пад ёю. Такія карані ў елкі — не надта доўгія, не раскідзістыя і не глыбінныя, а верхавыя: вільгаці ім хапае, не трэба, высільваючыся, здабываць ды шукаць яе, бо расце ельнік па мясцінах нізінных, добра ўвільготненых...

## НЕПАЎТОРНАСЦЬ

Мастацтва было свабоднае да таго часу, пакуль яно гаварыла воляю — голасам, прароцтвам, іменем — багоў (час першабытны, першародны, час Антычнага росквіту). Потым яго "прыручылі", навучылі абслугоўваць. І яно само пачало старанна вучыцца гэтаму — вынаходзіць, "спасцігаць" сакрэты майстэрства, шляхі "акупацыі" душы...

Дэкларацыйным апагеем на гэтым "фронце", пэўна, сталася Ленінская "Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура" — звод рэкамендацый, як служыць... У тым нявольніцкім фрэнчы мы пахаджаем і сёння, — хто б і як не крычаў у свеце аб сваёй незалежнасці, — чалавечай і мастацкай...

І ўсё ж: геній чалавецтва (у яго сутнасным праяўленні: ствараць, — не падмяняючы Бога, а каб наблізіцца да Яго, узвысіцца духам яшчэ тут, на зямлі, зліцца з Яго веліччу, — творча ўзнаўляць мастацкую мадэль свету) ніхто і нішто не можа ні скарыць, ні спыніць. Такая Боская воля: быць у вечным руху, у развіцці, у празе дасканаласці чалавечай, прасвятляючы душу існасцю Яго...

Мастацтва, калі яно сапраўднае, калі яно — не рамесніцтва (паводле згаданых рэкамендацый), што выдае сябе за мастацтва, — не можа быць не новым, як не можа быць не новым кожны чалавек, творца гэтага мастацтва. Гэта яго душа, яго свет — а ён непаўторны, ён адзінкавы ў Боскім выяўленні...

І ў гэтай непаўторнасці — свабода.

## ПОЎНАГАЛОССЕ

Больш трыццаці летаў з вёснамі і восенямі, здаралася — і зімой, хадзіў па гэтай дарозе. Калі быў пры службе, то выпадала і двойчы: з Лысай гары да электрычкі і з электрычкі да Лысай гары. І заўсёды з замілаваннем і добрай усмешкай чытаў: "Дзіцячы аздараўленчы цэнтар Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі". Падабалася мне гэтае: "цэнтар" — поўнагалоссе, замацаванае на шыльдзе невядомым мастаком, — насуперак зацверджаным нормам арфаграфіі з гэтакім кароткім, здушаным рыканнем: "цэнтр"... Поўнагалоссе, якое маўкліва і выгодна радавала пасля галаваломнага і бесперапыннага (пэўна, заядлы меламан быў у кіраўніках) гарлання ў суседнім дзіцячым лецішчы двух рэпрадуктараў — каб з двух бакоў узяць у "шлягерныя ціскі" малых слухачоў-пакутнікаў...

Так было... Ды апошнім часам тутэйшыя парадкі здорава памяняліся.



## ЛЯЦЕЛА ЗЯРНЯТКА...

Дзень быў ціхі, бязветраны. Такія бываюць звычайна ў канцы жніўня, калі і ў людзей, і ў птушак, ды і наогул у прыродзе, наступае часовае адхланне ад прыпарнага клопату: у адных ад жніва, у другіх — ад завіханняў ля гнязда, каб накарміць ды паставіць на крыло ўежлівае патомства.

Ніхто не шастаў, не мітусіўся. І ў гэтай нерухомай цішыні раптам аб'явілася штосьці лятучае. Не сказаць, каб жывое, але як жа яно тады без ветру? — ляціць сабе і ляціць... Можа, павучок які? Бываюць такія асеннія падарожнікі. Але таго адзіная павуцінка нясе — і толькі... А гэты — бачна ўжо, бо добра наблізіўся — увесь у гэтакіх бліскучых павуцінках, але тырчаць яны быццам шорстка натапыраныя, вожычкам. І чорненькая крапінка амаль мікраскапічна высвечваецца ў самым цэнтры гэтага "вожычка"... Цяпер ужо ясна: зярнятка нейкае. Накшталт дзьмухаўцовага. Толькі ў таго "апярэнне" для палёту — парашуцікам, а тут — паўсцінкі пухірыкам, ва ўсе бакі...

Тым часам лятунчык, параўняўшыся са мною, ужо і аддаляцца пачаў. Ну што ж — хай ляціць, — я чапаць яго не стаў, хоць, можа, і пустазелле якое нясе ў агарод. Але ж гэтак прыгожа ляціць... То і няхай сабе...

Толькі тое падумаў — а ён: тут-яктут — вяртаецца. І зноў жа гэтак плаўна, роўненька — не думаючы ні зніжацца, ні ўзлятаць вышэй...

О то ўжо яшчэ цікавей: з чаго б гэта ён? — і што прымусіла яго вярнуцца? Якая вятрынка? Які скразнячок?.. Няма і ў паміне ні таго, ні другога, а ён такія развароты робіць...

І ўсё ж... І ўсё ж, здаецца, адгадку падказалі кветкі. Пэўна, трымала яго ў стане той, ледзь не касмічнай, бязважкасці клумба асенніх астраў, гэтых зямных зорак восені (хто не знае: "астра" ад грэчаскай astron — "зорка"). Над ёю якраз (ды не над адною, а над цэлым сузор'ем!) і планіраваў лятунчык. З усіх бакоў была ўжо голая зямля — а тут: самая квецень. Яе дыханнем і жыў ягоны палёт, трымалася вышыня. Бо, сапраўды: неяк адхіліўся ён крышачку ад клумбы і ціха пачаў асядаць... Тут я і падабраў яго. І ў карабочак асцярожненька палажыў (ці пасадзіў?).. Не таму што пустазелле, а каб спытацца ў людзей: чыё гэта зярнятка такое разумнае?..

Выявілася: бадзякова... Што ж, бадзяк дык бадзяк. Не басяк... Той самы "татарнік", з жыццястойкасцю якога параўноўваў Леў Мікалаевіч Талстой у "Хаджы-Мураце" характар каўказскага горца, чачэнца: "Какая, однако, энергия и сила жизни... Как он усиленно защищал и дорого продал свою жизнь..."

## «...А ПАЛУБЫ НЕТ...»

Само па сабе, на пачатку, пры зараджэнні сваім, слова было вобразам. З часам, набыўшы абагульняльны сэнс, намінатыўную функцыю, зрабілася яно эмацыянальна нейтральным, "выпраменьваючы" толькі інфармацыю. Аднак сэнсавая зарадка яго, як энергія атама, "спіць" да пэўнай пазіцыі, да моманту ўзнікнення "крытычнай масы": у нейкі момант яна ствараецца — і вынікае выбух...

Спакойная, апавядальная танальнасць песеннага тэксту: "На палубу вышел — сознанья уж нет, в глазах у него помутилось..." — разгортваецца ў поўнай згодзе з музычным ладам баладнай песні — разгайданай марской прасторы: у вусцішнай хадзе хранометра смерці — рытмы пачуцця трагічнай асуджанасці...

Не да месца гаварыць аб паэтычных прыёмах у такіх выпадках. Ясна: словы тэксту адэкватныя спакою небыцця, прынамсі, яго прадчуванню...

А вось нехта ўзяў і парадаксальна перайначыў, памяняў усяго адно слова, як бы пасмяяўся, няхай сабе і не да выпадку, — і выбухнуў той "парадокс" энергіяй паэтычнага вобраза: "На палубу вышел — а палубы нет, в глазах у него помутилось..." І куды таму "сознанья нет" да "палубы нет"... — асабліва, калі ты выйшаў на яе... Адно слова — а як перавярнула ўсё... Які абрыў, які абвал у бездань...

Во гэтак і гаворыць паэзія — у моманты, непадуладныя прозе жыцця... Слова выбухае...

"Паэзія павінна быць, як дынаміт", — любіў жартам паўтараць паэт Мікола Аўрамчык, — тоячы пад гэтым сур'ёзны і глыбокі сэнс...

# «ВЯСЁЛКА" Ў "ДЕТСКОЙ ЛИТЕРАТУРЕ»

"Калісьці беларуская "Вясёлка" вельмі сябравала з рускім "Мурзілкам", украінскім "Барвінкам", літоўскім "Генісам", латышскай "Зілітай", малдаўскай "Звёздачкай", азербайджанскім "Геярчынам", кіргізскім "Байчэчэкеем"... І ўсіх аб'ядноўваў часопіс "Детская литература", — так піша Уладзімір Ліпскі, галоўны рэдактар часопіса "Вясёлка", А словы гэтыя, як і ўвесь яго артыкул "Радуга надежды", змешчаны ў маскоўскім часопісе "Детская литература" № 4, 2002 г.



РАДУГА НАДЕЖДЫ

(К ЮБИЛЕЮ БЕЛОРУССКОГО ДЕТСКОГО ЖУРНАЛА "ВЯСЁЛКА")

Галоўны рэдактар Уладзімір ЛІПСКІ

"Вясёлцы" некалькі месяцаў назад споўнілася 45. Ёсць пра што расказаць, успомніць... Часопіс, як вядома, арганізаваў і быў першым яго рэдактарам знакаміты беларускі дзіцячы пісьменнік, уладальнік Дыплома імя Х. К. Андэрсена Васіль Вітка. Яго ж імем названа штогадняя часопісная прэмія за лепшы твор года для дзяцей. У "Вясёлцы" працавалі Еўдакія Лось, Анатоль Грачанікаў, Сяргей Грахоўскі... І сёння лепшыя традыцыі часопіса працягваюць яго супрацоўнікі Уладзімір Ліпскі, Мікола Маляўка, Мікола Чарняўскі, Тамара Тарасава, мастак Яўген Ларчанка. А аўтарамі "Вясёлкі" з'яўляюцца паэты і празаікі — ад народных пісьменнікаў Івана Шамякіна і Івана Навуменкі да самых маладых. Пра ўсё гэта і апавядае Уладзімір Сцяпанавіч у "ДЛ". Шкадуе, што абарваліся многія сувязі, як з дзіцячымі часопісамі, так і з дзіцячымі пісьменнікамі былога Савецкага Саюза. У тым жа нумары "ДЛ" расказваецца, як у пачатку сёлетняга лета ў горадзе Феадосіі ў Крыме прайшоў міжнародны фестываль дзіцячых пісьменнікаў "Кімерыйскія музы", у якім прынялі ўдзел літаратары і выдаўцы Расіі, Украіны і Беларусі. Адной з лепшых кніг, адзначаныдыпломам, стала там кніга "Нам засталася спадчына" выдавецтва "Вясёлка" і выдатна афармленая мастаком Яўгенам Ларчанкам.

Артыкул У. Ліпскага ілюстраваны каляровымі выявамі вокладак "Вясёлкі", фотаздымкамі Янкі Маўра, Васіля Віткі, Янкі Брыля, групавым партрэтам сённяшніх супрацоўнікаў часопіса пісьменнікаў У. Ліпскага, М. Маляўкі, М. Чарняўскага.

Працягвае артыкул У. Ліпскага рубрыка "Аўтары "Вясёлкі" — дзецям". Тут змешчаны вершы Міколы Чарняўскага "Дзень ветлівасці" і Артура Вольскага "Чарнічка і лісцік", апавяданні У. Ліпскага "Мама" (Малітва сына) і Даіра Слаўковіча "Разумны аловак".

**Яўген ХВАЛЕЙ**

КРЫТЫКА

# ЗАКРАТАВАНАЕ СЭРЦА

"Сыс, вершы" — цёмным золатам выведзена на вокладцы новай кнігі Анатоля Сыса, якая выйшла пры падтрымцы прыхільніцы творчасці паэта Валянціны Якімовіч. Існаванне такіх адданых аматараў, папраўдзе, цешыць сэрца не менш, чым сам выхад кнігі.

На жаль, новая кніга Анатоля Сыса таксама больш належыць гісторыі, чым сучаснасці: амаль усе вершы, якія ўвайшлі ў яе, ужо вядомыя. "Пан Лес", "Агмень" і "Ягамосць"( гэтая кніга так і не выйшла асобным зборнікам) — даўно зрабіліся беларускім міфам. Аднак з'яўленне іх пад адной вокладкай цікавае не як перавыданне і не як збор твораў. "Сыс" - паэтычны арыенцір, па якім яшчэ не адзін год будуць вымярацца каардынаты нацыянальнага.

Далёкі ад эталона ў прыватным жыцці, Анатоль Сыс увасабляе класічную традыцыю айчыннай літаратуры. Творчасць яго стала неаддзельнай ад гісторыі нацыянальнага пісьменства адпачатку, калі абраў настаўнікамі Багрыма, Цётку, Купалу, Багдановіча. А яшчэ Гаруна, Каганца, Жылку, Танка, Панчанку, Караткевіча, Разанава... Не для датаў і святаў згадваў Сыс гэтыя імёны — выбудоўваў іерархію, і што дзіўнага, што на вяршыні апынуўся ён сам? Праблема ў тым, што класікі былі для яго не столькі папярэднікамі, колькі старэйшымі суразмоўцамі. Ён гаварыў да іх і на іхняй мове. Паэт размінуўся з сучаснікамі гэтак жа, як сама сучаснасць размінулася з беларускасцю.

Знакаміты верш "Вятры маю цалуюць галаву" пра бюст, які "сябры паставілі на пляцы", па нейкіх прычынах не ўвайшоў у новую кнігу. Між тым, без яго дзёрзка эгацэнтрычнай заўвагі "з Беларусі не сышоў Прарок", дзякуючы пазнейшым вершам, уся паэзія Сыса перачытваецца ў іншым ключы — не як творчасць чалавека-помніка, не як дадатак да "адыёзнай постаці" літаратурнага скандаліста, а як адбітак нашых з вамі духоўных пошукаў.

Нашых з вамі — незалежна ад таго, ці прымаеце вы яго асобу. Кожны, хто думае па-беларуску — трошачкі Сыс.

*Нам мова далася крывёю,*
*ды выпаленымі вачыма,*
*хавалі яе, як зброю,*
*насілі, як горб за плячыма.*
*Сяклі яго гостраў шашкай,*
*да костак нагайкай білі*
*і царскай і зверху, ласкай,*
*ды мы яго ўсё ж любілі,*
*хоць рос ён ад сініх шнараў,*
*ад позіркаў воч варожых,*
*ды мы яго, быццам рану,*
*хавалі — свой скарб заможны...*

Мова — наш Бог і наш Горб — гэта максіма, якую Сыс вывеў не столькі для сённяшніх чытачоў, колькі для іх дзяцей, нашых нашчадкаў. Яна ўжо пачутая і прынятая маладым пакаленнем, якое прыйшло ў літаратуру, дзякуючы Сысу. Дзякуючы той пераконваючай інтанацыі, якая і вылучыла яго паэзію сярод адраджэнскай хвалі васьмідзесятых. Якая розніца — моцны ці слабы сам Сыс, калі ён змог паклікаць не падманваючы, не абяцаючы блізкіх выгодаў, малочных рэкаў і кісельных берагоў?

Мажліва, мы і ёсць упартыя ідэалісты, якія не жадаюць асіміляваць, прыпадабняцца, яднацца не на раўнапраўных умовах. Тыя, хто любіць Радзіму насуперак логіцы сучаснасці. І дзяды нашы любілі яе гэтак жа — варта перачытаць таго ж Купалу, які для Сыса — ікона. "...колькі б нас пасля Купалы ні жыло — плюнеш — не паэты — самазваншчына," — максімалізм моманту, але ж гэта і ўзровень, па якім ён мерае сваю паэзію. Новая кніга яшчэ раз пацвердзіла высокі мастацкі стандарт, зададзены нам усёй папярэдняй літаратурай, і вытрыманы паэзіяй Сыса. Яго сутнасць— не ў звароце да святых паняткаў — мова, Айчына, Бог, — а ў своеасаблівасцях выбудовы сістэмы вобразаў, якія апелююць не столькі да рэальнасці сённяшняга дня, колькі да рэальнасці вечнасці.




*Мне на сэрцы золатам*
*вышывалі краты,*
*кроў балюча крапала на маю*
*душу*
*з голкі дыяментавай аж у тры*
*караты —*
*вось якое дзіва я ў грудзях*
*нашу, —*

мастацкая рэканструкцыя вобраза "закратаванага сэрца", які належыць Алесю Філіповічу (першы радок катрэна — цытата з яго верша) — натуральны працэс ператварэння мастацкага тропу ў архетып. Талент Сыса не толькі ў такіх знаходках-перачытаннях, арыентаваных на знешняе. А ёсць тыя, што можа і высока ўзнесліся, але засталіся «завязанымі» на сваю асобу, сваё эга. Хаця і ў глыбінях уласнай душы можна адшукаць нешта агульнае для ўсіх людзей, шырэйшае за асабістае – так «паветраны шарык» можа зрабіцца «гарой». А можа і не зрабіцца, можа ўзносіцца на сваёй тонкай нітачцы ўсё далей і далей ад зямлі...

# ПРА СЫСА

**1.**

Не раз мне даводзілася назіраць за тым, як малююць дзеці гадоў трох-пяці. Вось на белым лісце з'яўляюцца першыя мазкі... А праз некалькі хвілін ужо дзівішся: карціна выглядае настолькі прыгожай, настолькі жывой, што, здаецца, не кожны мастак здолеў бы паўтарыць гэты няхітры малюнак. Міжволі радуешся «таленту» дзіцёнка, але праз нейкую хвіліну мусіш засмуціцца: перад тваімі вачамі дзіця мазок за мазком замалёўвае свой «шэдэўр», кладзе на ліст адна за адной «непатрэбныя» лініі і плямы. У выніку малюнак ператвараецца ў нешта стракатае ці шэрае, дзе і разабраць што-небудзь цяжка. Можна, вядома, на нейкім этапе забраць у дзіцёнка малюнак, змясціць яго ў рамку. А можна прaназіраць усё ад пачатку да канца: «нараджэнне», «жыццё» і «смерць».

Нешта падобнае я бачу і ў творчасці Анатоля Сыса: «Агмень» («нараджэнне»), «Пан Лес», які раскрывае ва ўсёй паўнаце творчы патэнцыял паэта («жыццё»), і «Ягамосць» (не скажу «смерць», але несумненна рэгрэс). Дзве першыя кнігі пад адной вокладкай шмат для каго, як мне здаецца, выглядалі б значна мацней, чым тры. У вершах, што потым склалі «Ягамосць» (гэта некалі адзначыў Пацюпа), Сыс моцна сыходзіць у сваю асобу: яго погляд робіцца ўжо арыентаваным не на знешняе, не ў свет, а на сябе.

Але ёсць не дзве, а тры кнігі пад адной вокладкай – жыццё смяецца над чалавечымі жаданнямі (забраць) і ўяўленнямі (аб прыгажосці і вартасці), выдумаўшы самім жа чалавекам. І разам з жыццём смяецца (як яго выказнік) сапраўдны (наколькі ён сапраўдны) паэт. Але часта і паэт ідзе на саступкі віньетцы чалавечых уяўленняў. Так і Сыс пабаяўся размясціць спачатку першую сваю кнігу «Агмень», затым «Пан лес» і апошняй «Ягамосць». Ён, як гэта і прынята, пачаў са сваёй візіткі – кнігі «Пан лес», а ў сярэдзіну «запхнуў» слабейшую – «Агмень». Мяне самога калісьці вучылі пісаць вершы: «Галоўнае, каб пачатак і канец былі моцныя, а сярэдзіна можа быць так сабе». «Гэтак прынята, такім створаны чалавек, што запамінае толькі пачатак і канец, а таму – інверсія неабходная». Але чаму жыццё іздзе інакш?

**2.**

Ёсць паэты-«горы» і ёсць «паветраныя шарыкі». Гара, як вядома, сама ствараная з зямлі і на зямлю ж абапіраецца. Горы бываюць вялікія і малыя, але яны – горы: іх нясе зямля, і разам з тым яны ўздымаюць зямлю. А паветраны шарык... Мы можам надзьмуць яго гелiем і, калі нітка будзе дастаткова доўгаю, ён уздымецца на дзесяткі кіламетраў. На жаль (а можа, і на радасць), шарыкі маюць тэндэнцыю лопацца.

Але рэдка можна сустрэць паэта-«гару» ці паэта-«паветраны шарык» у чыстым выглядзе – рэальны паэт у нечым падобны да аднога, а ў нечым да другога. Так «вяршыня» можа адасобіцца ад «гары» і сама стаць «паветраным шарыкам».

Да чаго я ўсё гэта? Да таго, што ёсць паэты, якія абапіраюцца на традыцыі свайго народа (ці шырэй), яго перажыванні, уяўленні, мары, стэрэатыпы, і адначасова ў сваіх творах як бы канцэнтруюць, «уздымаюць» іх – яны (гэтыя паэты) арыентаваныя на знешняе.

Вазьміце ў рукі дзве кнігі – «Пан Лес» А. Сыса і «Штольні вясны» В. Слінко, і вы зразумееце пра што я гавару: хто такі паэт-«гара» і паэт-«паветраны шарык». Але калі гаварыць пра тры кнігі Сыса пад адной вокладкай – пра кнігу «Сыс» як пра нешта цэлае, і параўнаць яе з гарой, то ў гэтай «гары» вяршыня ўжо пачынае набываць самастойнае жыццё – страчваць ранейшыя сувязі і арыенціры.

**3.**

Голы па пояс (гэта ў лепшым выпадку), лысы і барадаты А. Сыс – з аднаго боку (плюс яшчэ яго занадта ўжо эпатажныя паводзіны). З другога – нашы новыя «прыстойныя» паэты (прыстойна апранутыя, прыстойна ў паводзінах, з «прыстойнымі» вершамі), якія прыкрываюцца, што тым фігавым лістком, "Эўропай", еўрапейскім ладам мыслення...

Так, А. Сыс вычвараецца, часам ён страшэнна брыдкі, але ў яго яшчэ не разбураны той стрыжань, полюсамі якога з'яўляюцца дабро і зло – у яго яшчэ няма рэлятывізму адносна гэтых паняццяў (я гавару пра творчасць). Любоў у А. Сыса ёсць любоў, здрада ёсць здрада, адчай ёсць адчай (прынамсі, так было да нядаўняга часу).

Ну а нашы паэты з «еўрапейскім мысленнем»? Чытаеш іх вершы, вершы бездакорныя па стылістыцы, і не можаш ніводзін «запомніць у твар»...

**Усевалад ГАРАЧКА**

### Удакладненне

Шаноўныя чытачы, з-за недагляду рэдактара аддзела крытыкі была дапушчана памылка ў артыкуле В. Максімовіча "Абнаўленне духу" ("ЛіМ", № 42 ад 25.10.02 г.).

У 22-м радку зверху 3-га слупка гэтага артыкула поўны сказ павінен чытацца так: "Больш за тое, высакародная ідэя гуманістычнага паразумення немагчымая без істотнага карэннага перагляду жыццёвага, маральна-этычнага, эстэтычнага, сацыяльнага, гістарычнага кодэксу, без хрысціянскага прызнання роўнасці ўсіх перад усімі".

Перапрашаем аўтара артыкула.

а ў іх актуалізацыі для сённяшняга моманту. Такія вобразы адлюстроўваюць і трагічнасць нацыянальнага светагляду, і трагізм асабістага лёсу паэта: "Калі краты распілаваць,// атрымаецца шэсць крыжоў.// Калі шэсць начэй не спаць,// а бадзяцца адно з нажом,// рукі выберуць крыж — не нож,// і таму не паўтары// святатацтваў маіх, нябож,// каб не каяцца на алтары," — чытаем у другім вершы, які яшчэ раз нагадвае, што выбар, зроблены Сысом — на карысць святла, а права на сумненні — неад'емнае права мастака і асобы. "А хто не верыць, ведайце, Багрым пачаў з кажана, скончыў жаўрукамі..." Паступова кажаны сысовага сэрца перакідваюцца птахамі, а сам ён вяртаецца да нас праз кнігу, і не шэкспіраўскім блазнам, а сляпым правідцам, які збіўся з дарогі.

*Я думаў,*
*вершы мае відушчыя,*
*аж пакуль не аслепнуў сам*
*ад маланкі самім жа пушчанай,*
*я гарэў, як бязбожны храм,*
*сам сабе я ў ім здаўся богам,*
*адпускаў сам сабе грахі —*
*грызла ганак, вяла дарога*
*зноў на д'яблавыя кругі,*
*ад яго я вяртаўся ў поўсці*
*і калі цалаваў свой крыж,*
*ён адбіткам жахлівым помсціў,*
*бы люстэрка ці д'яблаў віж,*
*і тагды я складаў малітву,*
*можа ў соты свой самасуд,*
*той малітвай, нібыта брытвай,*
*сашкрабаў у адчаі бруд,*
*і ў адчаі я рэзаў вочы,*
*і жахаўся крыві сваёй,*
*і жагнаўся — набожна, тройчы, —*
*і агідны жывёльны лой*
*з гострай брытвы маёй малітвы,*
*быццам гной, патыхаў маной...*

"Самасуд" — усё сысова жыццё ў літаратуры. Яго чалавечы лёс — незайздросны. Але паэтычнае жыццё, прамільгнуўшае маланкай — узорнае, шчаслівае ў вачах паэтычных спадкаемцаў, якія сэрцам прымуць слушнасць паэтавай заўвагі: "Ёсць агідныя словы... Агідных паэтаў няма".

"Сыс" — найлепшая паэзія для нялепшых часоў.

**Ганна КІСЛІЦЫНА**

# НАВЕДАЛІ ВАЙСКОЎЦАЎ

Даўно заўважана: у вайсковых падраздзяленнях рэспублікі пісьменнікаў, ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны сустракаюць вельмі гасцінна: і прымаюць, і слухаюць іх расказы аб гераічным мінулым Радзімы, творчасці з асаблівай павагаю, і цеплынёй. На вялікі жаль, усё менш і менш побач з намі нашых старэйшых таварышаў па пяры... Ды і не кожны з іх сёння мае магчымасць па стане здароўя выязджаць да сваіх удзячных чытачоў, выступаць перад імі.

Менавіта таму выступленне Уладзіміра Федасеенкі, удзельніка партызанскага руху на Гомельшчыне, празаіка, аўтара некалькіх раманаў, перад шматлікай аўдыторыяй палка сувязі з'явілася прыемным падарункам маладым абаронцам Радзімы.

Уладзімір Федасеенка расказаў аб сваім баявым юнацтве, прыгадаў цікавыя эпізоды з жыцця і дзейнасці народных мсціўцаў.

З такой жа цікавасцю слухалі сувязісты і Уладзіміра Карызну — аўтара тэксту гімна Рэспублікі Беларусь. У зале гучалі песні на словы паэта.

На пачатку гэтага месяца група літаратараў у складзе старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў — Алеся Пашкевіча, Уладзіміра Карызны і Яўгена Каршукова правялі літаратурную сустрэчу ў вайсковай акадэміі.

У заключэнне гутаркі Алесь Пашкевіч падараваў гаспадарам-вайскоўцам кнігі.

**Я. ІВАНОЎ**

# СУЧАСНЫ РАМАН-МІФ

Раман Віктара Казько "Бунт незапатрабаванага праху" — адзін з найскладанейшых і адметных твораў у сучаснай літаратуры. Увогуле, прывабнасць прозы гэтага пісьменніка праяўляецца, напрыклад, у жаданні амаль пастаянна спасылацца на думкі і развагі аўтара, але пры гэтым часта не абысціся адным-двума сказамі, бо цытаваць творы Казько няпроста: "заўсёды нешта абрываецца па-жывому..." (Т. Грамадчанка). Блізкае нам адчуванне знойдзем і ў артыкуле Г. Мігай "Боль бунту" ("ЛіМ", 2001, 13 красавіка), які вельмі цікавы выкладам думак аўтара. Аднак, мы мусім звярнуць увагу на тыя моманты, што падаюцца нам спрэчнымі. Па-першае, "нелінейная кампазіцыя" (Конан У., Званарова Л., "Наш современник", 1987, № 11) была ўласціва ўжо "Хроніцы дзетдомаўскага саду". На структуру гэтага рамана меў уплыў прынцып арганізацыі мастацкай прасторы, якая адпавядае міфалагічнай, з сакральным цэнтрам хаты і саду. Па-другое, думка пра жанр "Бунту.." як "рамана-светаадчування" небеспадстаўная і, безумоўна, мае права на існаванне. Але, трэба зазначыць, аўтарам цытаты, прыведзенай Г. Мігай, з'яўляецца І. Афанасьеў ("Полымя", 1988, № 7), які так вызначыў жанр "Хронікі...".

Невыпадкова мы вяртаемся менавіта да гэтага рамана. Твор быў "межавым" у творчай эвалюцыі В. Казько і ўзнік у выніку пошуку новай эстэтычнай структуры, у якой ён змог бы найпаўней рэалізаваць уласны ідэйна-мастацкі досвед. На нашу думку, "светаадчувальнасць" (у значэнні, прапанаваным І. Афанасьевым) — спецыфічная рыса ўвогуле творчасці пісьменніка 90-х г.г., якая ў "Бунце..." праявілася найярчэй.

І ўжо абсалютна дакладнай і справядлівай лічым думку Г. Мігай пра ўзнікненне ў беларускай літаратуры зусім новай сінтэтычнай формы. На наш погляд, "Бунт незапатрабаванага праху" з'яўляецца раманам-міфам. Гэта мы паспрабуем даказаць, супастаўіўшы твор В. Казько з раманам Г. Маркеса "Сто год адзіноты", бо вывучэнне міжлітаратурных кантактных сувязяў дапамагае ўбачыць эстэтычную адметнасць і самабытнасць нацыянальнага мастацтва. Ды і прычыны для такіх паралеляў ёсць. Казько ў беларускім літаратуразнаўстве даўно лічыцца "беларускім Маркесам".

Міфалагізм абодвух раманаў мае двухпланавы характар, што выяўляецца ў інтэлектуальным спасціжэнні "двайной" свядомасці чалавека і ў складанай дынаміцы суадносінаў часу і прасторы, жывога і мёртвага, памяці і забыцця і другіх універсальных катэгорый. Маркес праз створаную ім мастацкую мадэль гісторыі сямейнага роду Буэндыя падае гісторыю чалавечай свядомасці — ад міфалагічна-цэласнага ўспрымання да індывідуалістычна-адчужанага. На думку Казько, міфалагічнасць мыслення — прыроджаная якасць, што існуе заўсёды. Празаік паказвае трансфармацыю свядомасці чалавека пад уплывам часу, што апынуўся ва ўладзе бальшавіцкай імперыі. Кампазіцыйна падпарадкаваўшы падзейную гістарычна-палітычную канву філасофскай, мастакі сімвалічна ўзнавілі светаўладкаванне, у аснове якога ляжыць грэх разлады (Маркес) і грэх атаясамлення чалавека з Богам (Казько).

Самай страшнай хваробай мінулага веку, людской і сусветнай свядомасці пісьменнікі вызначаюць адзіноту. Іх погляд роднасны экзістэнцыяльнаму, паводле якога яна — трагічнае наканаванне ўсяму чалавецтву. У творах побач з ёй кантрапунктам гучыць тэма ўяўлення. У гэтай сутнаснай якасці міфамыслення празаікі бачаць магутную творчую сілу, якая ўпрыгожвае свет. Але пагарджанне адрозненнем імавернага і неверагоднага прыводзіць да гібелі, на чым і фіксуецца ўвага ў раманах.

У Казько адзінота запаланяе раманную атмасферу з самага пачатку. Яе мастацкая інтэрпрэтацыя грунтуецца на міфалагічна-рэлігійнай традыцыі пустэльніцтва, асабліва моцнай у кельтаў, пашыранай у хрысціянскім вучэнні, абжытай літаратурай (вобраз рабінзанады). Вялікі сэнс гэтай з'явы ў тым, што адсланёная ад свету душа навучаецца быць пільнай і відушчай, здольнай спасцігаць законы зямныя і касмічныя ў іх адзінстве. Не дзіўна, што Георгій, "усведамляючы, што навокал яго на светлавыя гады, да бясконцасці прасцёрта адзінота", усё ж "здолеў злучыць, паяднаць усе гэтыя часы". У адрозненне ад калумбійскага празаіка, В. Казько разглядае самоту сучасніка яшчэ і як ачышчэнне, праз якое ён павінен прайсці, каб вярнуць цэласнасць жыццеадчування.

У XX ст. чалавека якраз і пазбаўлялі ўмення слухаць сябе і Сусвет і ўвесь час змушалі яго да калектыўнага існавання. У ім адсутнічала чалавечая рэфлексія, бо "змагацца і перамагаць — доля і лёс калектыву". Стаўка рабілася не на магчымасць рэалізацыі творчага пачатку асобы, а на падаўленне яго. Як і ў Маркеса, у Казько адзінота ёсць адчужэнне чалавека ад самога сябе, сваёй духоўнай існасці. Але беларускі пісьменнік падыходзіць да яе разумення з іншых пазіцый: яго цікавіць не індывідуальная і грамадская, а зямная і боская іпастасі ў чалавеку. Пасля страты духоўнага паразумення падсвядомасць выгадавала монстра, што паказана ў творы Казько, ці "дзіця са свіным хвосцікам", якое ў канцы маркесавай кнігі адкрыта названа калумбійцам "міфалагічным монстрам". Узровень свядомасці чалавека настолькі нізкі, што "цікаўнасць адно да аднаго толькі цялесная". У Маркеса пра гэта сведчыць міфалагема інцэсту.

Галоўная небяспека хаваецца ў тым, што ігнараванне праўды і канкрэтыкі рэальнасці пагражае ўзнікненнем сацыяльных міфаў, якія выкарыстоўваюцца ў якасці афіцыйнай прапаганды хлусліваў дзяржаўнай палітыкі, ствараючы культ ідалапаклонства прыведнаму. Яны ж атручваюць памяць. Асабліва блізкая нашаму нацыянальнаму вопыту маркесаўская карціна-фантасмагорыя расстрэлу забастоўшчыкаў. Іх жыццё, кажучы ўжо словамі В. Казько, стала "прахам незапатрабаваным", таму што смерць рабочых афіцыйна адмаўляецца, а людзьмі прымаецца хлусня. У першы раз пра безадказнасць перад жыццём макондаўцам нагадала эпідэмія соннай хваробы, што была знакам страты гістарычнай памяці. Але падараваны часам шанс пазбегнуць сваёй гібелі не былі імі выкарыстаны: мінулае і мёртвыя былі забітыя яшчэ раз забыццём. І гэта ўрок і перасцярога сёння найперш беларусам, свядомасці якіх адкрылася неафіцыйная праўда пра жахлівую савецкую рэчаіснасць — Курапаты і Сіблаг.

Тэма "незапатрабаванага праху" (бяспамяцтва і яго выніку — распаду душы жывога чалавека на атамы, як гэта адбываецца з ёю, па сучасных навуковых гіпотэзах, пасля смерці) раскрываецца беларускім празаікам шырэй і глыбей. Яна была актуальнай для нацыянальнага жыцця заўсёды.

В. Казько раскрывае д'ябальскі характар бальшавізму. Моц зла празаік бачыць "у непазначанасці, невыразнасці", у знішчальным характары яго сілы і бязмежнай часава-прасторавай пранікальнасці. С. Алексіевіч, якая даследуе ў сваёй творчасці катэгорыю зла, таксама сцвярджае яго няўлоўнасць: "Яно разлітае ўсюды і ва ўсім, яно безаблічнае". Абагуленасць вобраза Паляўнічага дасягаецца сімвалічным увасабленнем у ім характэрных тыповых рысаў: невыразнасць абліччa, наяўнасць вусоў, няпэўны ўзрост, змена масак на твары, невялікі розум. Можна здагадацца, што гэта воблік дзяржаўнага камуністычна-сталінскага апарату. Фантасмагарычная карціна пагоні за гігантам (Духам, душой) —пераасэнсаваны празаікам казачны вобраз-матыў гульні з бразготкай. Але мастацкая з'ява куды больш жахлівая, таму што яна — з нашага рэальнага жыцця. З Святланай Алексіевіч Віктара Казько яднае яшчэ адна думка: толькі страх за будучае можа вярнуць сёння душу на пакінуты ёю Алімп, а значыць, і выратаваць свет.

Раман В. Казько будуецца адпаведна нацыянальнай міфапаэтычнай канцэпцыі мыслення і жыцця. Геаметрычна яе можна перадаць формай сферы, дзе верхняя палавіна абазначае імкненне да Космасу, а ніжняя нязменна скіравана на "вяртанне да сябе". Структура твора абапіраецца на розныя катэгорыі міфа. Адзін з іх — гераічны. Казько прытрымліваецца агульнага кампазіцыйнага канону, але выкарыстоўвае толькі тое, што не супярэчыць яго філасофіі. Дзеянне твора будуецца вакол біяграфіі Германа (жыццёвы лёс Надзеі, па сутнасці, падпарадкоўваецца асноўнай лініі галоўнага героя). Важным структурным элементам з'яўляецца незвычайнае нараджэнне персанажа. Можна зразумець страх і пакуты прыёмнага бацькі Германна, выгадаванага на народным маральна-этычным вопыце. Прыход дзіцяці ў свет — адна з вялікіх сакральных з'яў, таму, як паказана даследчыкамі міфалогіі і фальклору, існуе такая вялікая колькасць табу, абярогаў, рытуалаў і т. п. Мужчынам па традыцыі ўвогуле забараняецца прысутнічаць пры родах і хадзіць у адведкі. А Гаўрылу давялося быць у ролі бабкі-павітухі пры сапраўды выключных у жыцці і літаратуры ўмовах, ды яшчэ назіраць, як дзіця жывіцца малаком мёртвай маці (гэта павер'е шырока распаўсюджана ў славянаў).

Чалавек з'явіўся з праху зямнога і дыхання Бога, набыўшы боскую здольнасць тварыць, а з дапамогаю Сатаны і другую яго якасць — свабоду выбару. З гэтае прычыны чалавек заўсёды вымушаны весці спрэчку з сабой у межах боскай і д'ябальскай якасцяў сваёй натуры. Настойлівасць Германна вырабіцца з хаосу няведання ўспрымаецца як творчае наследаванне пісьменнікам сусветна вядомага матыву "барацьбы з Богам". Змаганне героя за імя ёсць праяўленне бунту, імкнення да рэалізацыі наканаванага яму.

Паводле міфалагічнай свядомасці, кодам чалавечага лёсу з'яўляецца імя. "Год, дзень і час нараджэння — гэта паспанне нам аднекуль", "дакумент, загад", "пісьмовае прадказанне" долі і жыцця. Адна з мянушак Германна — Агасфер, паказвае, што ў вобразе-персанажы замацаваны праклён (вечны падарожнік) і магчымасць пакаяння і выратавання. Згодна з каляндарным міфам, якi ў рамане зліваецца з гераічным, у вобразе героя ўвасоблены боскі дух.

Раман В. Казько не проста ўтрымлівае ў сваёй структуры пэўныя міфалагічныя сюжэты, але сам паўтарае агульную схему тварэння, уяўляе мастацкі цыкл узнікнення з Хаосу Космасу, які пачалі падтрымліваць Макрыян і Надзея — сапраўдная каралева жыцця. Паняцце "надзея" — гэта тое, на што можна спадзявацца і што можа адбыцца, у адрозненне ад яе сястры мары-ілюзіі. Германн набыў урэшце выяву ісціннага Януса, двухаблічнасць якога сімвалізуе цэласнасць — сувязь антыномій, і які ўяўляецца з 365-цю пальцамі па колькасці дзён гадавога цыклу.

В. Казько перакананы, жыццё (міфалагема "цудадзейнай гліны") — найчаро́ўнейшае рамяство. Але яно "не перадаецца словам: дадзена чалавеку — сам дадумаецца, не — нічога не зробіш". Згадка пра Вялікдзень — межавы час, які адраджае ўсё жывое, — пакідае надзею, што людзі, ушанаваўшы культ зерня і зямлі, не дазволяць вяртання "праху", а паспрыяюць працы думкі і душы вечнаму ўзнаўленню жыцця і Духу.

З Г. Маркесам В. Казько аб'ядноўвае імкненне да абагульнення свету і ўвасаблення яго ў міфапаэтычнай мадэлі. Нягледзячы на падабенства — стылістычнае, праблемна-тэматычнае, жанравае, арыгінальны твор Казько патрабуе канстатацыі самабытнасці яго таленту. Мастацкая адметнасць рамана В. Казько ёсць вышэйшая форма духоўна-творчага "кантакту" двух аўтараў. "Бунт..." адпавядае раманумiфу высокай ступенню ўвасаблення міфалагічнага светаадчування, стварэннем вобраза галоўнага героя паводле міфаўзора, выкарыстаннем міфалагічнага хранатопу, майстэрскім перайманнем стылю міфа. Фундаментальнымі прынцыпамі міфалагічна-мастацкай мадэлі свету з'яўляюцца законы дваістасці і адзінства ўсяго існага, узнаўлення свету праз свядомасць персанажа. Стылістычная тэхніка выяўлена ў асаблівым тыпе метафар, паралелізме, кадзіраванні інфармацыі на ўзроўні вобразаў прыроды. Найгалоўнейшая роля ў замацаванні матэрыялу ў адзіную міфаструктуру належыць лейтматывам адзіноты, бунту, уяўлення, адказнасці, памяці і іншых.

**Галіна ДРУК**

# МЕЛЮЦЬ ЖОРНАВЫ ЧАС

З Хоцімскага раёна, з вёскі Чарняўка, ад паэта Міхася Карпенкі прыйшла сумная вестка: памёр рускі пісьменнік Мікалай Данілаў. Памёр і мне знаёмы Мікалай Данілаў. З ім сустрэўся ў Ашхабадзе. Пісаў пра яго творчасць, пра раман "Жаркая Кушка". Ведаю, што яго "Гарачай Кушкай" цікавіўся і наш зямляк-літаратар Мікола Калінковіч.

Ужо пасля, у Беларусь вярнуўшыся, даведаўся, што ён, Мікалай Данілаў, у Вялікую Айчынную вызваляў наш край. Пачаўшы ліставацца з ім, не шмат даведаўся пра повязь колішняга салдата, а пасля і афіцэра-пагранічніка з Беларуссю. Аб чым і шкадую.

А некалькі гадоў назад Мікалай Данілаў даслаў мне раман "Жорнавы". Значная частка яго — пра Магілёў, царскую стаўку ў 1917 годзе. Сярод герояў "Жорнаваў" — і наш суродзіч генерал Міхаіл Бонч-Бруевіч.

Апошнія некалькі дзесяткаў гадоў Мікалай Сцяпанавіч жыў у Маскве, пісаў не толькі прозу, але і вершы, займаўся публіцыстыкай. Светлая памяць аб гэтым чалавеку — у гэта верыцца — будзе жыць і сярод яго сяброў у Беларусі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# «КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ» — НОВЫЯ СУСТРЭЧЫ

Чарговы нумар бюлетэня "Кантакты і дыялогі" будзе цікавым усім, каму неабыякава тэматыка даследавання беларускага жыцця ў свеце. Гэтую традыцыйную для выдання тэму працягваюць даследаванні Алеся Баркоўскага і Юрыя Грыбоўскага. Іх матэрыялы "Што ведаюць у Якуціі пра Якуба Коласа" і "Беларускі нацыянальны рух у польскіх узброеных сілах (1912—1947)" адрозніваюцца глыбінёй даследавання праблем беларускага жыцця мінулага.

Добра знаёмы беларускім чытачам кандыдат філалагічных навук Юры Лабынцаў працягвае свае даследаванні ў галіне скарыназнаўства і спыняецца на новых фактах з гісторыі беларускага кнігадрукавання. Сенсацыйнай знаходкай у галіне скарыназнаўства з чытачамі дзеліцца доктар мастацтвазнаўства з Варшавы Вальдэмар Дэлюга, які знайшоў у калекцыі Курніцкай бібліятэкі Польскай акадэміі навук гравюру Дабравесце з "Малой падарожнай кніжкі" Францыска Скарыны. Яна была ўклеена ў папяровы кодэкс другой паловы XVI стагоддзя. Выява гэтай невядомай раней гравюры ўпрыгожвае вокладку дзевятага нумара бюлетэня "Кантакты і дыялогі" за 2002 год.

Рэдакцыя "Кантактаў і дыялогаў" прапануе чытачам навіны з жыцця беларускай дыяспары ў Расіі, Украіны, Эстоніі, ЗША, Бельгіі, Польшчы, хроніку беларусазнаўчага жыцця, а таксама, рэцэнзіі на беларусазнаўчыя выданні, што выйшлі з друкарань Інстытута Сярэдне-Усходняй Еўропы ў Любліне, у "Бібліятэцы "Беларускага гістарычнага агляда", Інстытуце Усходняй Славяншчыны ў Шчэціне...

Пад рубрыкай "Нашы дыялогі" журналіст Анатоль Мяльгуй прапануе чытачам выдання гутарку з вядомым калекцыянерам, уладальнікам прыватнага музея выяўленчага мастацтва ў Старых Дарогах Анатолем Белым.

Разам з усімі беларускімі навукоўцамі-беларусазнаўцамі рэдакцыя "Кантактаў і дыялогаў" смуткуе з выпадку заўчаснай смерці ў Чэхіі вялікага сябра Беларусі, даследчыка і перакладчыка беларускай літаратуры, аднаго са стваральнікаў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Вацлава Жыдліцкага, а таксама з выпадку смерці ўладыкі Мікалая, мітрапаліта Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на эміграцыі.

Новы нумар бюлетэня "Кантакты і дыялогі" быў выдадзены дзякуючы руплівым намаганням рэдактара Адама Язэпавіча Мальдзіса.

**А. МІТРАНОВІЧ**

## ПАЭЗІЯ

**Мне здаецца, што гэтыя паэтычныя тэксты трэба не тое што патлумачыць (як патлумачыш паэзію!!), а *папярэдзіць...***

**Не раздражняйся, шаноўны чытач, з першых радкоў пакуль няўцямных табе лірычных фантасмагорый...**

**Адкладзі газету ўбок, адсапіся... Балазе, вершы кароткія. Набяры ў лёгкія чыстага прахалоднага паветра — і пачні чытаць нанова — мройліва, з падсвядомым прыпамінам уласнага — і паступова ты прасвятлееш, адчуўшы ў сабе мажлівасць палёту...**

**Так бывае, падчас, калі вяртаешся позняй парою дадому, а насустрач табе няведама адкуль вынырне з пацёмкаў чужы чалавек... Сысці ўбок, збегчы, схавацца, але — позна — ён ужо блізка — і табе нічога не застаецца, як дрыготка стрымана размінуцца з ім, ледзь згледзеўшы яго смутны сілуэт і — о! — раптам, з палёгкай адчуць, што вы з ім проста *"запозненыя"* аднадумцы, якія ідуць насустрач *адным шляхам...***

**Яшчэ чутны ў цемрыве ягоныя крокі, яшчэ можна азірнуцца, і зразумець свой беспадстаўны страх перад іншым чалавекам, яшчэ можна...**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

### Юры ЧАРНЯКЕВІЧ



•

*На шызым гадзінніку*
*Сыроваткай згушчаных*
*Дзён —*
*Малекула сонца*
*Заўтра (так смешна)*
*Істужка неба*
*Сінечай кранецца*
*Тваіх валасоў.*

*Падрыжы, мой шэры,*
*Лошыца пачуццяў,*
*Мрояў і відзежаў**
Santa simplicitas*.

*Мора — да каленяў,*
*Травы — аж па локаць.*
*Не ўкусіць. Не прыгнуць.*
*Паралельна.*

*Сыдземся на кропцы.*
*Вылецім стралою*
*Да сухіх вантробаў*
*Вывернем кішэні.*

*Сыдземся на кропцы.*

•

*Парань душу.*
*Пазногцямі прайдзіся*
*Старыя шнары*
*Зачапі, адкрый.*
*Стралой — наскрозь —*
*І да вышыняў,*
*Высяў*
*Загавары.*
*Парухай языком*
*Падвоеным.*
*Слабо?*

*Да сэрца —*
*Адзінаццаць мірыядаў.*
*Да лёгкіх —*
*Мільёны куль...*
*Да безназоўнага —*
*Два крокі.*

*Дык спыніся,*
*Друід*
*Начных маіх*
*Трывог.*

•

*Сарамлівай дзяўчынай —*
*Ранкам прачынацца.*
*Высвятліваць сонцам*
*Усе кампаненты*
*Сябе,*
*Як рэнтгенам.*

*І расшпіліўшы*
*Заплечнік падзей,*
*Разглядваць пад мікраскопам*
*Ідыёмы,*
*Устойлівыя спалучэнні*
*Самотных Багалюдзей.*

•

*Вылезці на паверхню.*
*Неба ў кратах*
*Лізнуць языком*
*Сягонняшні дзень*
*Выццам бы як у дарозе*
*Блізкасць часовых*
*Відзежаў,*
*Суладдзе з любым*
*Падарожным,*
*Што поруч ідзе.*

•

*Між табою*
*І ценем маім —*
*Пустата*
*Пацёртыя сонцам*
*Шпалеры*
*І сонмы людзей —*
*Каляндарыкаў —*
*Калейдаскопаў.*

•

*Старыя дарогі*
*І духі начныя*
*На іх.*
*Старыя знаёмцы,*
*Размовы маўклівага*
*Міма,*
*Світанне*
*У снах*
*На далонях заспаных,*
*Чужых,*
*Анямелых...*

•

*Вільготнымі бліскамі*
*Сонная плынь.*
*Гэта канец.*
*Адкаркуйце мінулае*
*Лета*
*І піце.*
*На трыста стагоддзяў*
*Забудзьцеся на*
*Кавалкі бурштыну*
*Ў грудзях,*
*На кроплі*
*Па падваконні ілюзій,*
*На сённяшні вечар,*
*На ўсё.*

*Гэта канец.*
*Пачатковае альфа*
*Ці алеф.*
*Крычма крычаць.*
*Боўдзілам быць*
*Усміхацца.*

---

*Santa simplicitas.(лац.) — святая прастата

### Таццяна СІВЕЦ



*На скрыжаванні, бы*
*на скразняку,*
*Спыніліся, ахутаныя слотай,*
*Дзве сутнасці вячэрняй адзіноты,*
*Пазбаўленыя прывідных пакут.*

*Адна, нібы ліхтарная саната,*
*Сплывала ў лінгвістычную раку.*
*І непрывычны вуснам каракурт*
*Нязручнасцю атручваў*
*кансананты.*

*Другая, бы нязваны паслугач,*
*Цягнулася дарогаю канатнай*
*Над плоскасцю чужых*
*каардынатаў*
*У мёртвую прастору ланцуга.*

*А вечар дыхаў прыкраю лавандай*
*І мары, быццам пацеркі, лыгаў.*
*Здавалася, дзяціная туга*
*Адна з той адзінотаю суладна.*

*На струнах галубінага крыла*
*Трымцела крышталёвае глісанда,*
*І прышласць, прадказаная*
*Касандрай,*
*У морак аметыставы плыла...*

### Літургічны трыпціх

1

*Мы сутыкнуліся на Круглай*
*Пад літургію аквілону.*
*Нібы з бемольнага палону,*
*Мы сутыкнуліся на Круглай.*

*У полымі чужых харугваў,*
*У цемрыве чужых праклёнаў,*
*Мы сутыкнуліся на Круглай*
*Пад літургію аквілону.*

*Нібы знямоглае літанне,*
*Гучала "Dona nobis pacem".*
*Святло струменіла скрозь*
*пальцы,*
*Нібы знямоглае літанне.*

*Мы акаладай прывітання*
*Злучылі рукі, каб не ўпасці...*
*Нібы знямоглае літанне,*
*Гучала "Dona nobis pacem".*

2

*Вы расказалі мне пра цішыню*
*Акафістам, настоеным на глогу.*
*Разбіўшы нерашучасці аблогу,*
*Вы расказалі мне пра цішыню.*

*І я малілася блакітнаму агню,*
*Каб, захінуўшы ад пагляду злога,*
*Вы расказалі мне пра цішыню*
*Акафістам, настоеным на глогу.*

*Не зведаўшы гатычнае тугі,*
*Мы не адчулі смутку "Recordare".*
*І патаналі ў прозе каляндарнай,*
*Не зведаўшы гатычнае тугі.*

*Сінеча, ператвораная ў гімн,*
*Лілася мірам на камень алтарны.*
*Не зведаўшы гатычнае тугі,*
*Мы не адчулі смутку "Recordare".*

3

*І прарасло эфірнае святло*
*З каменняў адамантавага*
*змроку...*
*Сустрэўся вецер з вінаграднай*
*гронкай —*
*І прарасло эфірнае святло...*

*За ім ляцела галавы на злом,*
*Яго сачыла аслабелым зрокам.*
*І прарасло эфірнае святло*
*З каменняў адамантавага*
*змроку...*

*Lux aeterna, выратуй мяне*
*Ад мораку зямное адзіноты,*
*Ад хворай летуценнасці*
*блакнотнай,*
*Lux aeterna, выратуй мяне*

*Агнём, які бясконца палымнець*
*Асуджаны над філіграным*
*кнотам,*
*Lux aeterna, выратуй мяне*
*Ад мораку зямное адзіноты!*

---

Dona nobis pacem (лац.) — "Даруй нам мір", Recordare (лац.) — "Памяні", Lux aeterna (лац.) — "Адвечнае святло". радкі з рэквіема.

# ЗАЛАТЫ ПЯРСЦЁНАК

Уладзімір МІХНО

Неба ўсё наскрозь свіціцца дзіркамі, праз якія прасочваецца вада, імжакаю палівае зямлю. Халодны, пранізлівы вецер ганяе злыя, азызлыя хмары, ірве іх на шматкі. Вецер задзімае за каўнер, збівае з ног, здзекуецца з парасона: пачварна выварочвае яго, з рук вырывае, спрабуе паламаць. Халодная позняя восень, лістапад і школьныя канікулы, хаця які там лістапад, калі на дрэвах ужо няма ніводнае, хаця б для прыліку, лісцінкі. Наадварот, усё смялей залётваюць белыя мухі, і часам скоўвае калюжыны на асфальце лёгкі марозік. Сядзець бы дома, ля відзіка, ці, дастаўшы альбом, маляваць звычайным простым алоўкам асеннія пейзажы, паглядваючы за акно. Ды не сядзіцца сёння Каці Канапацкай дома і не малюецца. Пакуль яшчэ на працы бацькі, пакуль не ўсчалася ў хаце сварка-калаверць, яна, Кацька, маленькай шэрай мышкаю выскоквае ў пад'езд і — на вуліцу, няхай сабе халодную, дажджлівую і агідную, абы далей ад гэтага мёртвага музея імпартовай мэблі, які бацькі яе называюць хатаю. Ці ж хата, калі няма тут ні цеплыні, ні ўтульнасці, адно варожасць. Каму патрэбен той крышталёвы посуд ці пазалочаны гадзіннік на сцяне, каму адлічвае ён хвіліны шчасця?

Абы не сядзець дома, Каця паўдня швэндаецца па горадзе, абараняючыся парасонам ад калючага ветру. Зазірнула ці не ў кожны газетны шапік, хаця нічога там купляць не збіралася. Заходзіла пагрэцца навату прадуктовыя магазіны, і там, вядома ж, нічога не брала, дзякуй Богу, не галодная, адно рабіла выгляд, што разглядае вітрыны, але — пачала спатыкацца аб калючыя, падазроныя позіркі прадаўцоў. Зразумела, што трэба сыходзіць, але куды? На вуліцу, дзе рэдкія прахожыя, спяшаючыся па сваіх пільных справах, таксама здзіўлена паглядваюць на яе, дачку начальніка міліцыі, мусіць, думаюць, што з дому выгналі ў такую залеву. Пракляты раённы гарадок, дзе ўсе, бадай, адзін аднаго ведаюць... Браты па няшчасці — камунальнікі, нягледзячы на непагадзь, падагналі машыну і развешваюць па горадзе чырвоныя палотнішчы: "Са святам Кастрычніка, дарагія таварышы!". Літары трапечуцца на ветры, іх цяжка чытаць. Які ў лістападзе кастрычнік, і якіх віншуюць таварышаў, Каці нецікава, ёй толькі дзіўна, няўжо між людзей ёсць яшчэ таварышы? Як паглядзіш — адны ваўкі. І ў яе, у Каці, акрамя зайздроснікаў, нікога па жыцці, здаецца, й не было — ні таварышаў, ні сяброў. А чаму зайздросцяць? Багаццю? Дык хіба ў ім шчасце? Усе дзяўчаты ў яе класе ходзяць на "дэнс", сябруюць з пацанамі, а некаторыя нават і жывуць з імі... Ці мо проста выхваляюцца? І толькі яна — адна...

Зайсці яшчэ ва універмаг. Гэты вялікі, прасторны трохпавярховы магазін самы прыгожы ў іх гарадку. Праўда, кажуць, узвялі яго на старых нямецкіх могілках, мо таму яшчэ новы будынак ужо развальваецца, і ўначы там, казалі, блукаюць здані. Ну і што, затое днём тут заўсёды поўна народу, і не страшна зусім, а цікава, бо чаго тут толькі няма. Каця любіць разглядваць вітрыны. Праўда, шыкоўная і вельмі дарагая мэбля, з якой прадаўцы пылінкі здзімаюць, яе мала цікавіць, такая нагадвае пра дом. Вабяць яе прыгожыя, вялізныя мяккія цацкі на другім паверсе: забаўныя малпачкі смешна крыўляюцца, з-за шкла горда пагладае леў — зусім як жывы...

—Поторопитесь, покупатели, закрываемся. Короткий день...

...Мядзведзікі гуляюць адзін з адным, як кацяняты. За іх гульнёю раўніва назірае калматы чорны пудзель, сапраўдны, толькі што не гаўкае...

Каця раптам адчула, якая яна стомленая, здарожаная, а тут, сярод любімых яе цацак, нібы ў казцы, было цёпла, утульна і так хораша! І не важна, што ёй шаснаццаць. Бывае, мы гуляем у казку ўсё жыццё... Маленькая, безабаронная дзяўчынка міжволі прысела, абшчапіла аберуч пудзеля і ад шчасця закрыла вочы, усяго на хвілінку... Адно імгненне доўжылася казка...

Каця расплюшчыла вочы і не паверыла... Яе любімыя звяры раптам сталі бясколернымі, аднолькава шэрымі і нават страшнымі, бо ў залі не было святла. Дзяўчынка схапіла свой мокры парасон, ускочыла, кінулася да выхаду, ды вялізныя шкляныя дзверы не хацелі адчыняцца. Яна спалохана азірнулася і, не ўбачыўшы нідзе: ні ля касы, ні за прылаўкам — ніводнага чалавека, зразумела, што трапіла ў пастку. Не верыла, што яе адну маглі зачыніць у магазіне. Такога ж не бывае, хіба ў кніжках... Зірнула на гадзіннік, было яшчэ не так позна, але за вокнамі ўжо шарэла, да таго ж, выў і грукаўся ў шыбы шалёны вецер, барабаніў па падваконні дождж. Зрабілася вусцішна, Каця ў адчаі закрычала, загрукала ў акно, аднак, вецер куды больш нахабна і настойліва ламіўся ў вокны з тага боку, і адчайных яе крыкаў ніхто не чуў. Разбіць акно і клікаць на дапамогу? Але ж яна ніколі ў жыцці не разбівала вокнаў, дый хіба вылезеш з другога паверху? Каця грукалася да знямогі то ў вокны, то ў дзверы, але яе так ніхто й не пачуў. Успомніла, тут дзесьці павінен быць тэлефон. Пазваніць маці дадому ці бацьку на працу? Атрымаць добры наганяй, яшчэ й сораму набрацца, але ж не начаваць тут, ва універмагу. Шукала тэлефон па ўсёй залі, бачыла ўсё: цацкі, апаратуру, золата за шкляною вітрынаю, на якое сёння нават не зірнула, хаця не так даўно ўпадабала тут адзін вельмі прыгожы пярсцёнак і нават пашкадавала, што такога ў яе пакуль няма. Сёння даражэй за золата здаваўся ёй звычайны тэлефонны апарат, але ў залі яго не было. Тэлефон апынуўся ў падсобцы, за зачыненымі дзвярыма. Каця зразумела, што "ўліпла" грунтоўна, што, мабыць, давядзецца тут пеклавацца аж да раніцы. Добра, калі яшчэ заўтра, на свята, будзе працаваць магазін. І ўсё роўна, за ноч бацькі падымуць увесь горад, бо яна ж ні разу ў жыцці не сыходзіла з дому нанач. А мо бацька нап'ецца, яны з маці пачнуць лаяцца, ды не заўважаць, што яе, Каці, няма? Зрэшты, ёй зараз па-любому... Ад безвыходнасці і бездапаможнасці прыйшоў адчай. Няўцямна зняла боты, паставіла іх побач з парасонам і, падабраўшы ногі, села, як дома, на прыгожую дарагую канапу, абшчапіла калматага чорнага пудзеля, заплакала. Не помніла, колькі плакала, ды заснула...

Вецер за акном спяваў ёй калыханку і барабаніў-падыгрываў на падаконніку дождж...

...Вецер мацнеў, заплятаўся ў вяршалінах сосnаў, радасна гушкаўся, завываў. Каця ведае, гэта вые нячыстая сіла, якую дрэвы не пускаюць сюды, на могілкі. Яна стаіць ля бабулінай магілы і ўспамінае, як бабуля, калі была жывая, расказвала: на могілках доўгі час, бывае, нават дзесяткі гадоў, блукаюць душы памерлых, якія не знайшлі сабе супакою на небе. Душы-валацугі трымаюцца таго месца, дзе ляжаць нябожчыкі, з гадамі яны марнеюць, становяцца ценямі, зданямі, ды не могуць пакінуць зямлі... Раптам уверсе нешта завішчэла, раз, другі, трэці, быццам гострым шылам па шкле, а ці зубамі... Клацнула-шчоўкнула, як бы чые іклы дабраліся да горла ахвяры... Падзьмуў вецер, сіверам абдаў і дажджом. Каці зрабілася холадна, яна ніжэй прыпала долу, прытулілася да халоднай гранітнай пліты. Думалася, што родны чалавек і тут, на могілках, яе сагрэе, аднак, шчаку апякло, як лёдам... Дзяўчына адкрыла вочы, убачыла вялізную змрочную залу, доўга не магла зразумець, дзе яна. Праз вокны ў залу лілося прывіднае жаўтлявае святло — на вуліцы гарэў ліхтар. Раптам па сцяне, звіваючыся, папаўзлі два цені. Ці людзі, а ці пачвары пасоўваліся марудна, на вачах вырастаючы. Сэрца спудзілася, забілася трывожна, ледзьве не выскачыла з грудзей.

—А-а-а-а-а, ма-мач-ка! — колькі было моцы, закрычала дзяўчына, закрыла рукамі твар і не бачыла, як цені, спалохаўшыся яе крыку, кінуліся ў розныя бакі, стаіліся-схаваліся за вітрынамі. Пачула толькі мяккі шоргатпа падлозе, як бы хто прабег у шкарпэтках...

...Двое маладых людзей крадком прабіраліся па цёмных вуліцах горада, смела падстаўляючы твар непагадзі. Хаваючыся ад ліхтароў, яны асцярожна наблізіліся да універмага дварамі, шуснулі пад казырок, куды ўдзень пад'язджалі разгружацца машыны з таварам. Казырок быў шырокі, быццам для іх, для Кекса з Пакетам, зроблены. Пачаўшыся аж пад вокнамі другога паверха, ён ледзьве не даставаў да зямлі. Дастаткова ўхапіцца, падцягнуцца на руках, і ты на даху. Кекс так і зрабіў, сігануў спрытна, як кот. Хіба яму прывыкаць? За свае семнаццаць гадоў ён не лазіў хіба што на Эйфелеву вежу. Пакет жа стаяў унізе і лаяўся, крыў на чым свет.

— Не бубні, руку давай, гангстэр хрэнаў...

— Прыдумаў, табе і дня другога не было, аж з каўняра ліецца...

— Са штаноў не ліецца?.. Мастацтва, брат, патрабуе ахвяраў. Давай жа руку, падцягвайся! Ты не Пакет, ты мех з пілавіннем, цябе толькі на бойню, ды на мяса. У вышэйшую катэгорыю трапіш...

Нарэшце абодва апынуліся на даху. Кекс дастаў з кішэні прысмочку, да якой на шнурку быў прывязаны гостры шкларэз. Прыляпіўшы прысмочку да акна,



спрытна акрэсліў вакол яе акуратную акружнасць велічынёю з добры лаз, асцярожна пастукаў па шкле і, аберуч падтрымліваючы, каб не разбіць ды, крый Божа, не пашкодзіць правадоў сігналізацыі, выставіў шыбу. Такім жа макарам, толькі ўжо смялей, расправіўся з падвойнай шыбаю, на якой сігналу не было. Папярэдзіў Пакета:

— Вострае, не абрэжся. Нам твая група крыві тут без патрэбы.

— А боты? Здымаць хіба? Сляды ж будуць...

— Усе культурныя людзі разуваюцца, калі заходзяць у дом. І — не забудзь пальчаткі.

У адных шкарпэтках краліся яны да запаветнай вітрыны. Золата было на месцы, акурат пасля прывозу, яго так многа — вочы разбягаюцца: пярсцёнкі, завушніцы, ланцужкі, яшчэ й з камянямі каштоўнымі — цэлае багацце. Можна купіць сабе кватэру, машыну, можна нарэшце вылезці з кратовай нары на свет Божы і стаць чалавекам. Надакучыла быць Кексам, прыкра, калі цябе ядуць поедам, глытаюць жыўцом, каб потым зрабіць дзярмом. І ўсе мы ў дзярме па вушы. Бацька ў канторы лускае дапатопнымі драўлянымі костачкамі, падобнымі да масажора. Маці, нянечка, па дзіцячым садку вечна з гаршчэчкам бегае. І было б за што бегаць ды лускаць. За тыя паперкі, якія нельга назваць грашыма, бо што ж за грошы такія, калі за іх нічога не купіш. Дый тыя затрымліваюць па паўгода. Вывесілі вунь на вуліцах сцягі, абклалі нас тымі сцяжкамі чырвонымі, як ваўкоў, і думаюць, што ўсе мы такія дурні, што нічога не разумеем. Камусьці ўсё жыццё парыцца ў кратовых норах, а камусьці раскашаваць у катэджах. Паспрабуй, пабудуй сабе катэдж, не накраўшы. Не, ён болей не хоча быць Кексам, а хоча Кірылам Аляксандравічам. А грошы не пахнуць...

Пакет — лох, а губа не дура. Золата выграб усё ў свае кішэні, аж пазвоньвае ім. Яму, Кексу, адзін пярсцёнак застаўся. Затое які! Прыгожы, нічога не скажаш. Адзін, мабыць, на паўкавалка баксаў пацягне. Нічога, нікуды Пакет-дэбіл не дзенецца, падзеляць золата пароўну, бо разам жа магазін бяруць.

Затарыўшыся, хлопцы, як і дамаўляліся, нічога болей, акрамя золата, не бралі, памкнуліся, было, на выхад. І — пранізлівы крык скалануў гнятлівую цішыню залі:

— А-а-а-а-а, ма-мач-ка!

Хлопцы кінуліся, хто куды, безвач, са страху схаваліся за вітрынаю, калаціліся, як асінавыя лісты на золкіх асенніх вятрах. Хвіліну, пакуль прайшоў калатун, у залі было ціха. Пацаны агоўталіся першыя. Асцярожна высунуў нос з-за вітрыны Кекс, убачыў на канапе... дзяўчыну з падкурчанымі нагамі, у абдымках чорнага калматага пудзеля. Як у казцы! Дзяўчо падалося яму зусім маленькім, бездапаможным. Страх спакваля пачаў праходзіць, прыйшло здзіўленне. А мо ён спіць, мо гэта проста лялька? Дзяўчына ў водсвеце жоўтага вулічнага ліхтара была і сапраўды падобнай да лялькі: нерухомы, усё адно як васковы, тварык без аніводнай крывінкі, але такі ж прыгожы, які бывае толькі на малюнках, у казках, была б лялькаю, каб не калаціліся каленкі.

—Адкуль ты, прынцэса?! — усклікнуў Кекс, сам таго не чакаючы, усклікнуў і спалохаўся свайго голасу. Ён зразумеў, што выдаў сябе і Пакета, і — ляснецца, мусіць, іхняе золата.

—Прын-цэса! — заварушыўся між цацак Пакет, няўклюдны, як барсук, звінеў залатымі кішэнямі, бы званцамі, — Уліплі, блін, засвяціліся! Усё праз цябе, усё праз твой доўгі язык, філосаф... І скуль яна, нячыстая сіла, бралася? Што зараз рабіцьмем? Цякаць, цякаць трэба, ногі выносіць... Хутчэй...

—Чакай, — працэдзіў Кекс праз зубы, — ты лох, Пакет! Сведкаў... не пакідаюць...

—Дык што? Мачыць будзем? — зніякавеў той. — Макрухі нам не хапала... Зірні ты, а яна нічога сабе... Мо трахнем спачатку, га?

Ды на паўслове сціх, злавіўшы спапяляючы сяброкоў пагляд.

—Т-ты — аднаклетачнае! Інфузорыя! Вось зараз цябе трахну! — Кекс з кулакамі рушыў на прыяцеля, змусіўшы яго адступіць. — Праз фортачку вылеціш.

—Пажартаваць ужо нельга, — бурчэў Пакет.

—Не бойся, мілая, — Кекс падышоў бліжэй да дзяўчыны, якая ад страху ўсё яшчэ не магла вымавіць ні слова, толькі глядзела на яго вялікімі, спалоханымі вачыма, у якіх было столькі адчайнай, нямой просьбы аб літасці, што хлопец здзівіўся, няўжо ён і сапраўды такі страшны, — ніхто цябе тут не кране. Ты бачыш, ён пажартаваў.

Ды вочы ўсё роўна не хацелі верыць.

—Скажы, што ты пажартаваў, пудзіла агароднае. Паўтары яшчэ раз, а то я зараз вытрасу з цябе ўсю трухню...

—Я ж і кажу... — апраўдваўся спалоханы Пакет ужо лагадней, бо ведаў, што жарты з сябруком кепскія, асабліва калі той падсядзе на каня. Вось толькі што з Кексам здарылася, ён ніяк не мог зразумець...

Кекс і сам не мог зразумець, што з ім здарылася. Золата — у кішэні. Тое, аб чым так доўга марылі з Пакетам, збылося. Паўгода рыхтаваліся, пралічылі кожны крок, кожную дробязь. І ўсё ў іх атрымалася. Застаецца толькі непрыкметна знікнуць і... і яшчэ ніколі ён не быў так блізка да шчасця. Але — золата раптам паблякла, быццам яго й не было. Золата бляск зацьмілі вялікія, незвычайныя, незямныя вочы, якія просяць паратунку. Дзіва, ад яго залежыць зараз нечае шчасце. Трэба сціснуць у кулак волю, выкінуць праз акно пачуцці, трэба дзейнічаць рашуча, сапраўды ўцякаць адсюль, як хутчэй, хвастом сляды замятаючы. Але —няма волі, згас яго ледзяны, уладарны голас, якога ўсе заўсёды баяліся. Няма рашучасці, а пачуццё, незразумелае, дзіўнае, дасюль невядомае, запоўніла ўсю яго свядомасць, абяззброіла. І словы вылятаюць зусім не тыя, якія зараз патрэбны:

— Даруй, мы напалохалі цябе, але ж не бойся, не плач...

— Вы... вы не будзеце мяне забіваць?

— Ну, што ты, як можна? Хіба магчыма забіць самую прыгажосць? Хочаш, я падару табе гэты пярсцёнак? Ты толькі супакойся... — Кекс прысеў побач з незнаёмкай на канапу, дастаў пярсцёнак, асцярожна дакрануўся да яе ўсё яшчэ дрыжачай далані, акуратна надзеў на палец. — Бачыш, які ён прыгожы? Як і ты..

— Ні фіга сабе, — сплюнуў Пакет, — мы яшчэ й не дзялілі золата, а ён ужо раздае... Вось што, маладыя людзі, вы сабе можаце тут кахацца і да раніцы, а я пайшоў. Я пакуль яшчэ на нары не хачу. І табе, Кекс, дарэчы, не раю... А ты, аднак, не промах, гы-гы, на канапе, ва універмагу... А што, я б таксама не супраць... двух зайцоў забіваеш...

— Кацiся!..

Пакет імгненна растварыўся ў цемры, толькі яго і бачылі. Багацце прыдало спрыту...

— Ты мяне... ты...

— Не слухай яго. Супакойся. Бачыш, з галавой чалавек не дружыць. Заміж галавы — мякіна. Ну, я ж яго вылаўлю... А мы — мы ж яшчэ не знаёмыя з табой. Хто ты, таямнічая прыгажуня? Як цябе завуць?

— Каця.

(Заканчэнне на стар.12)

# «ВАЛЕЎСКІЯ МУЗЫКІ»

Ансамбль народных інструментаў Валеўскага СДК ведаюць не толькі на Навагрудчыне, але і далёка за яе межамі. Сёлетні год выдаўся "гарачым" для гэтага творчага калектыву: паездкі, выступленні перад гледачамі. "Валеўскія музыкі" ўдзельнічалі ва Усебеларускім фестывалі Нацыянальных культур у Гродне. Пазней выступалі з вялікай цікавай праграмай "Сёмуха ў Валеўцы" перад мясцовымі сялянамі, далі канцэрт да Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. На Дзень чыгуначніка ансамбль запрасілі ў Баранавічы для ўдзелу ў святочным канцэрце. А потым быў "агеньчык", арганізаваны Валеўскім СДК для механізатараў сельгаспрадпрыемства "Свіцязь", "Дажынкі-2002", дзе ўшанавалі перадавікоў уборкі, а самадзейныя музыкі радавалі іх любімымі песнямі.

Кіраўніцтва іншых гаспадарак таксама запрашала "Валеўскіх музыкаў" выступіць на мясцовых урачыстасцях. І паўсюль, у тым ліку на раённых "Дажынках", ансамбль ды яго галасісты саліст Мікола Гірэйка, мелі вялікі поспех у гледачоў.

# ...І СВАЕ АРТЫСТЫ

Гродзенскае вучылішча мастацтваў пачало новы навучальны год у статусе каледжа. Гэта дало магчымасць арганізаваць многаступенчатую адукацыю ў супрацоўніцтве з Беларускім універсітэтам культуры. Лепшыя выхаванцы каледжа атрымаюць шанц прадоўжыць навучанне ў сталічнай ВНУ, прычым пачынаючы не з першага, а адразу з другога курса. У выніку выпускныя экзамены для лепшых (перспектыўных) навучэнцаў будуць нібы сумяшчацца з уступнымі, прымаць іх будуць сумесна выкладчыкі каледжа і ВНУ, а дыплом з адзнакай "выдатна" ў злучэнні з рэкамендацыяй каледжа зробіцца для выпускніка пуцёўкай адразу на 2-гі курс універсітэта культуры. Дамоўленасць наконт гэтага ўжо дасягнута.

З пачатку навучальнага года ў Гродзенскім каледжы мастацтваў адкрылася новая спецыяльнасць: артыст тэатра і кіно. Будучых "зорак" (а іх восем) навучаюць не толькі выкладчыкі, але і прафесіяналы-практыкі, артысты абласнога драмтэатра. Такім чынам, яны рыхтуюць папаўненне для сваёй жа сцэны. Усе васьмёра пачаткоўцаў — т. зв. "цэлевікі", бо ім ужо гарантавана будучая праца ў калектыве гэтага тэатра.

Да наступнага навучальнага года распрацоўваецца праграма новай сістэмы — сумеснымі намаганнямі каледжа і ВНУ.

**Яўген ЛАПЦЕЎ**
**г. Навагрудак**

# ДА ЮБІЛЕЮ АЛЕСЯ АДАМОВІЧА

Да 75-годдзя з дня нараджэння Алеся Адамовіча адкрытую лекцыю для студэнтаў філфака БДУ прачытаў доктар філалагічных навук, загадчык аддзела тэорыі літаратуры Інстытута літаратуры НАН Беларусі, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя У. Калесніка М. Тычына.

Цікавыя факты з жыцця і творчасці Алеся Адамовіча, рысы яго характару, адметнасць яго асобы — усё тое, пра што цяжка вычытацьу падручніках і афіцыйных біябліяграфічных даведніках — пра гэта будучыя філолагі маглі даведацца, што называецца, з "першых вуснаў".

На лекцыі прысутнічалі: загадчык кафедры беларускай літаратуры XX стагоддзя, прафесар Л. Сінькова, член-карэспандэнт НАН Беларусі, прафесар А. Лойка, заслужаны работнік вышэйшай школы В. Казлова, прафесар Д. Бугаёў, старшы выкладчык Л. Карпаў, дацэнт В. Максімовіч, дацэнт А. Верабей, дацэнт кафедры методыкі выкладання беларускай літаратуры Н. Рашэтнікава, супрацоўніца аддзела тэорыі літаратуры НАН Беларусі Ю. Масарэнка.

**Н. К.**



*Пяць пытанняў да старшыні журы Міжнароднага фестывалю "Сожскі карагод", прафесара Юліі ЧУРКО*

# СЦЭНА ЖЫЦЦЁ ДОЎЖЫЦЬ

**— Трэці раз прайшоў у Гомелі Міжнародны фестываль харэаграфічнага мастацтва "Сожскі карагод". Юлія Міхайлаўна, вы зноў працавалі там на чале конкурснага журы і, напэўна, можаце не толькі рабіць высновы пра дынаміку творчых тэндэнцый, але і меркаваць наконт арганізацыйнага ўзроўню імпрэзы. Вашы ўражанні?**

— Гэта быў найбольш прадстаўнічы і яскравы "Карагод" у параўнанні з ранейшымі. Нездарма яго назвалі самым маштабным святам творчых калектываў пасля "Славянскага базару". У гомельскім фестывалі ўдзельнічала больш як 3,5 тысячы чалавек з 15 краін. Яго панарама ўражвала не проста разнастайнасцю, а і маляўнічасцю, наватстракатасцю: этнаграфічныя традыцыі ды акадэмічны балет, карнавальнае шэсце ды турнір па спартыўных танцах, эстраднае шоу ды дзіцячая народнасцэнічная харэаграфія, мастацтва пантамімы ды вечаровыя імпрэзы з феерверкам... Да фестывалю было прымеркавана святкаванне 860-годдзя Гомеля. Таму горад выглядаў асабліва ўрачыста, выступленні ўдзельнікаў і гасцей "Сожскага карагода" падзіліся ў розных залах, на розных пляцоўках. Ва ўсім адчувалася зацікаўленая, прафесійная, самаадданая праца арганізатараў, гарадскіх уладаў, добрая падтрымка спонсараў (іх, дарэчы, было каля 600).



Адзначу нестандартны, творчы падыход мэра Гомеля Леаніда Барабанава да вырашэння праблем, звязаных з правядзеннем такога поліфанічнага і масавага свята, ды яшчэ ў складаных эканамічных варунках. Упершыню галоўны рэжысёрскі клопат быў ускладзены не на сталічных мэтраў, а на таленавітых гомельскіх спецыялістаў новага пакалення — тых, што прыйшлі на змену славутым А.Рыбальчанку, І. Серыкаву. Мне прыемна адзначыць працу харэографаў, пастаноўшчыкаў Пятра Свярдлова (мастацкі кіраўнік ансамбля "Гомій", ганараванага, дарэчы, новым званнем "Заслужаны аматарскі калектыў") ды Анатоля Карповіча. Дзякуючы ім дынамічна і эфектна выглядалі ўсе масавыя відовішчы: урачыстае шэсце па вуліцах, якое наважваўся — ды марна! — сапсаваць халодны дождж; карнавал, у стракатасці якога было весела і дзецям, і жвавым бабулькам; урачысты канцэрт на сцэне Лёдавага палаца...

Журы, дарэчы, працавала даволі напружана — па 7 гадзін у дзень.

**— І якія ж высновы зрабіла журы?**

— Мы з калегамі (а поруч працавалі Валерыя Уральская, галоўны рэдактар маскоўскага часопіса "Балет", Пятрас Скірмантас, намеснік дырэктара Нацыянальнай школы мастацтваў імя Чурлёніса ў Вільні, знаны ў свой час артыст Літоўскага балета, Валянцін Шаўчэнка, народны артыст Украіны, вядомыя беларускія спецыялісты) адзначылі павышэнне ўзроўню народна-сцэнічнай харэаграфіі, прыход кагорты харэографаў, абазнаных у сваім жанры і захопленых справай. Чаму я кажу менавіта пра гэты жанр? Таму што ён вылучаецца і падтрымліваецца на "Сожскім карагодзе" як галоўны напрамак, да якога, скажам так, падвёрстваецца ўсё іншае. Таму што і галоўная задача фестывалю ў Гомелі — падтрымаць народны танец, прыцягнуць да яго шырокую ўвагу, паспрыяць яго развіццю.

Прыемна зазначыць, што Беларусь у кантэксце сёлетняга фестывалю выглядала годна. У нашай краіне вырасла колькасць спецыялізаваных сярэдніх навучальных устаноў, школ з харэаграфічным ухілам, што, мабыць, уплывае на якасны вынік творчай працы. У ёй (прынамсі, падчас конкурснага прагляду) я не заўважыла звыклага стандарту, вядомых пастановачных штампаў.

У сваіх лімаўскіх нататках з нагоды колішняга "Сожскага карагода" я ўжо адзначала, што ў некаторых узорах народна-сцэнічнага мастацтва ўлада савецкага часу нібыта затрымалася на 80 гадоў: з калектыву ў калектыў вандруюць масавыя танцавальныя нумары з перапевамі на некалі актуальную тэму "дружбы народаў". Рэальнае жыццё расстаўляе ў гэтай тэме іншыя акцэнты. Лепш "танцаваць пра іншае". А значыць, трэба шукаць свае тэмы, што ўдаецца далёка не ўсім. Расчароўваюць, напрыклад, такія расійскія пастаноўкі, дзе, як і шмат гадоў таму, выходзяць на сцэну хлопцы-зухі ды пачынаюць, як пеўні, "высвятляць адносіны", выпінаючы грудзі адзін перад адным. Трэба ўрэшце пазбаўляцца зацяганых правінцыйных клішэ! Беларускія харэографы, паўтаруся, дастаткова пісьменна і творча распрацоўваюць танцавальны фальклор. І ўсё ж... Гран-пры гэтым разам не дастаўся нікому. Дарослыя артысты-аматары, на жаль, расчаравалі. Затое парадавалі работы харэографаў у дзіцячых калектывах.

Зазначу між іншым, што ўпершыню на "Сожскім карагодзе" адбыўся конкурс "Мім—2002", журы якога ўзначальваў прэзідэнт Расійскага цэнтра пантамімы Ілля Рутберг. Гран-пры атрымаў Аміран Шалікашвілі, мастацкі кіраўнік Грузінскага дзяржаўнага тэатра пантамімы.

**— Якія пастаноўкі вы адзначылі б зараз, амаль праз месяц пасля фестывалю, калі ўражанні страцілі непасрэднасць і трэба ўспамінаць?**

— Самае моцнае ўражанне было ад калектываў дзіцячых. Работа Аксаны Мяцельскай, кіраўніцы ансамбля з Пінскага вучылішча мастацтваў, пад назвай "Даўжок", дзе пластычны матыў будаваўся і набываў развіццё на аснове гарадскога побытавага танца. Гэты нумар заняў 1-е месца, падзяліўшы яго з "Калыханкай" ансамбля "Крутагорачка" з Дзяржынска пад кіраўніцтвам Галіны Пак, якая знайшла вобразнае, з метафарычнымі знаходкамі, вырашэнне сцэнічнага сюжэта. Рагачоўская дзіцячая школа мастацтваў паказала дасціпны танец "Малацілачка", які падзяліў 2-е месца з пастаноўкай Іны Асламавай "Там, дзе нараджаецца вецер" (гэты сучасны харэаграфічны нумар быў прадстаўлены гомельскім ансамблем "Золак"). Воб-



разнасцю ды сучаснасцю думкі запомніўся ансамбль "Юнацтва" з Бранска, які паказаў работу Алены Адарчанкі "Сяточная варажба". Своеасаблівымі "варыяцыямі на касмічныя тэмы" ўразіла пастаноўка Агне Рыцкявічэне "Зеніт" (віленскі ансамбль "Гама"). Самадзейныя артысты з Луганска тэхнічна, відовішчна танцавалі "Гапака". Студэнты Гродзенскага каледжа мастацтваў прадставілі вынаходлівы вальс "Баламут" Ніны Залеўскай, натхнёны матывамі гарадскога фальклору. "Візаві" з Таліна, хаця і не ўразіў харэаграфіяй, добра запомніўся сваім самабытным абліччам, народнымі строямі, пашытымі ўдзельнікамі ансамбля. Наогул, калектывы з Прыбалтыкі адметныя этнаграфізмам. Там не было традыцый народна-сцэнічнай харэаграфіі, не культываваліся масавыя самадзейныя танцавальныя калектывы, як гэта рабілася ў іншых рэгіёнах колішняга СССР.

**— Але ж і ў асяроддзі беларускіх фалькларыстаў, прынамсі, этнамузыколагаў, не вітаюць народнасцэнічнае мастацтва, проціпастаўляюць яму аўтэнтычны фальклор. Ці няма такога антаганізму ў фестывальным асяроддзі!**

— Тэма — для асобнай гаворкі, нават для дыскусіі! Вядома, далёка не ўсе спецыялісты прызнаюць сучасныя спосабы інтэрпрэтацыі фальклору. Еўропа, можна сказаць, падзялілася ў гэтай праблеме на два антаганістычныя напрамкі. З кансерватыўнага гледзішча — нельга зусім адыходзіць ад народнай асновы. Але ж як у такім разе ацэньваць зробленае, скажам, нашымі "Харошкамі" або "Песнярамі"? **Творчасць такога кшталту павінны ацэньваць не фалькларысты і этнографы, а мастацтвазнаўцы.** Мне самой давялося паездзіць па Беларусі, шукаць і запісваць танцавальны фальклор. Параўноўваю вынікі сваіх экспедыцый 50-х гадоў і 70—80-х. Выснова, на жаль, не суцяшальная: чысты фальклор адыходзіць разам з яго носьбітамі... А вось другасны фальклор дазваляе прадоўжыць жыццё традыцый у сцэнічных умовах.

**— Значыць, "Сожскі карагод" працуе і на традыцыі, і на перспектыву!**

— Так, бо ён падтрымлівае ўсё лепшае ў народна-харэаграфічнай пластыцы. Віцебск мае ўжо даволі шырока вядомы Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі. І вельмі добра, што поруч з ім сталее і набывае прызнанне харэаграфічны форум іншага кшталту — гомельскі "Сожскі карагод". Гэта вялікі плюс нашай краіне.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*НА ЗДЫМКАХ: імгненні "Сожскага карагода".*



**МУЗЫКА**

# АДНА СЯМ'Я, ЯКАЯ...

Пра што найчасцей гавораць сёлета сталічныя меламаны? Пра містычную сувязь паміж дзвюма сумнымі падзеямі: закрыццём Канцэртнай залы Беларускай дзяржаўнай філармоніі ды заканчэннем зямнога шляху нязменнага вядучага ўсіх асноўных яе імпрэзаў — Уладзіміра Шаліхіна. З ім прайшло 50 сезонаў, і ён успрымаўся ўжо як вечны медыум паміж публікай і музыкантамі. І немагчыма ўявіць, як перажыў бы ён сезон без галоўнай сталічнай залы, і немагчыма ўявіць святочным адкрыццё сезона ў гэтай зале — без яго...

Філарманічная сям'я страціла знакавую Асобу. І прыдбала клопату з дахам над галавой. Аднак, захавала сябе. Тры акадэмічныя калектывы: Дзяржаўны сімфанічны, народны аркестр імя І. Жыновіча, харавая капэла імя Р. Шырмы; камерны аркестр, Ансамбль салістаў "Класік-Авангард", "Свята", "Купалінка", "Камерата"; салісты-інструменталісты і спевакі, а таксама творчыя брыгады, паяднаныя ў адмысловую філармонію для дзяцей і юнацтва... Усе яны рыхтуюць новыя праграмы, запатрабаваныя слухачамі. Выконваюць т. зв. норму. Гастралююць па краіне. Буйныя выканаўчыя калектывы, каб не апынуцца ў вымушаным прастоі з-за адсутнасці канцэртнай пляцоўкі ў сталіцы, шукаюць і знаходзяць нагоду для замежных творчых вандровак, нават калі яны і не надта выгадныя. Так, шырмаўская капэла зноў пабывала ў Германіі, Акадэмічны сімфанічны аркестр выправіўся ў Ірландыю, у планах Дзяржаўнага камернага — Нарвегія...

З мінскімі канцэртамі цяпер куды больш складана. Пошукі альтэрнатывы філарманічнай пляцоўцы вядуць пакуль да такіх варыянтаў: Палацы культуры трактарнага завода, тэкстыльшчыкаў, ветэранаў, канцэртная зала "Мінск", зала ліцэя пры БДУ. Застаюцца і традыцыйныя месцы выступлення салістаў, камерных калектываў: Беларуская акадэмія музыкі ды Рэспубліканскі каледж пры ёй. А вось самую, бадай, зручную для філарманічнай публікі і гістарычна традыцыйную залу Дома афіцэраў (тут ладкаваліся першыя пасляваенныя канцэрты) сёння лягчэй атрымаюць арганізатары "папсовых" праектаў ці Магілёўская абласная філармонія, чым Беларуская дзяржаўная, для якой высокая арэндная плата не па кішэні.

Горкая іронія лёсу! Сталічныя артысты заўсёды з энтузіязмам адгукаюцца на запрашэнні выступіць перад вайскоўцамі. Па..дзякі, граматы за шэфскія (значыць, бясплатныя) канцэрты, праведзеныя філармоніяй, як зазначае яе кіраўніцтва, атрымалася ў такой колькасці, што для захоўвання гэтых, дакументаў варта ўжо шукаць асобнае памяшканне. Калі ж спатрэбілася падтрымка для самой філармоніі (напрыклад, ільготная плата за арэнду залы), дык "падшэфныя" не захацелі падзяліць груз яе праблем.

Што ж... Застаецца толькі ўздыхнуць над няспраўджаным высакародным учынкам галантных афіцэраў, якія маглі б (за памяркоўную плату, вядома!) прытуліць у сваім доме часова бесприытульных музыкантаў. І каламбур, кшталту: "Міністэрства абароны абараніла філармонію", лічы, прапаў...

•

Тым часам сезон поўніцца планамі ды надзеямі на іх ажыццяўленне.

Дырыжор Аляксандр Анісімаў, які мае даўнюю і плённую практыку творчага супрацоўніцтва з музыкантамі шэрагу заходніх краін, узначаліўшы Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі, намагаецца і тут замацаваць стабільны, дакладны, у нейкім сэнсе жорсткі, сучасны рытм працы. Усе леташнія мінскія планы маэстра выконваліся з высокай дакладнасцю, пакуль не пачалася "хвароба" канцэртнай залы. Заключная з шасці абвешчаных сімфанічных праграм пад кіраўніцтвам А. Анісімава (творы Я. Брамса) перамясцілася. "На перспектыву". А тут яшчэ — няўдалая спроба наладзіць стасункі аркестравага сямейства з публікай на "Славянскім базары" ў Віцебску.

Паводле слоў галоўнага дырыжора, ужо была дамоўленасць з Міністэрствам культуры і з дырэкцыяй фестывалю наконт правядзення ў Віцебску хаця б аднаго канцэрта, прысвечанага прыгожай сімфанічнай музыцы, дзеля чаго маэстра нават пакінуў рэзерв часу ў напружаным, расплісаным далёка наперад, асабістым творчым раскладзе. "Але потым, — паведаміў А. Анісімаў на вераснёвай сустрэчы з журналістамі, — нейкія людзі вырашылі, што гэта нікому не трэба, што гэта сапсуе "Славянскі базар". Няўжо Чайкоўскі горшы і менш славянскі кампазітар за іншых, прадстаўленых на гэтым фестывалі, — як Дабрынін, напрыклад?"

У самога маэстра ёсць багаты досвед правядзення такіх канцэртаў на Захадзе, нават на адкрытым паветры, з феерверкам, са званамі... Аналагічны прэцэдэнт — фестываль "Белыя ночы" ў Пецярбургу, запачаткаваны калісьці як выключна эстрадны, з удзелам Э. П'ехі, С.Ратару, В.Абадзінскага ды інш., але неўзабаве ўзбагачаны праграмамі музыкі розных жанраў класічнага кшталту, акадэмічнай, сур'ёзнай і, што пацвярджаецца цікавасцю публікі, аншлагамі, — запатрабаванай не менш, чым папулярнае забаўляльнае мастацтва.



**Пяць гадоў таму, падчас фестывалю "Беларуская музычная восень", адбыўся юбілейны вечар Дзмітрыя Смольскага. Кульмінацыя прыпала на фінал канцэртнай праграмы, калі прагучала Сімфонія № 9, у якой сольную партыю электрагітары выканаў Віктар Смольскі. Спалучэнне бетховенскіх традыцый са стылістыкай рок-музыкі; суперсучасны інструмент, які "спяваў чалавечым голасам" ды ўзрушваў слых віртуозным сплячэннем нязвыклых інтанацый і тэмбравых знаходак, — гэта ўражвала!.. Сёлета кампазітару споўнілася 65, а гады яго творчай дзейнасці склаліся ў прыгожую дату: "дзве пяцёркі". Мы чакаем (гл. у тэксце!), што адна з яго найбольш эфектных сімфоній прагучыць зноў.**

**С.Б.**

*НА ЗДЫМКУ: Віктар СМОЛЬСКІ падчас канцэрта 5.12.97 г.*

**Фота А. МАЦЮША**

•

Пра пачатак сёлетняга, 65-га філарманічнага сезона, які адкрыўся ў зале Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, "ЛіМ" паведамляў напярэдадні гэтай падзеі. Першы канцэрт, праўда, складаўся з твораў С. Рахманінава. Адзначыць 130-ю гадавіну з дня яго нараджэння рыхтуецца ўвесь музычны свет. І ў планах нашай філармоніі — не абмяжоўвацца адным канцэртам, а правесці ў Мінску "Рахманінаўскія дні". Што, дзе, калі? Адказаў на гэтыя пытанні пакуль няма. Як няма і простай афішы сімфанічных канцэртаў у сталіцы на бліжэйшы час.

Менш як тыдзень застаецца да традыцыйнага Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Беларуская музычная восень". Прагназаваць надвор'е на сёлетнюю "пятую пару года" не выпадае. Але на тое, што фестывальныя планы спраўдзяцца хаця б часткова, — можна паспадзявацца. Хаця б таму, што яны, як і заўсёды, не абмяжоўваюцца сталіцай, грунтуюцца на музычных, культурніцкіх асяродках усёй краіны. А яшчэ таму, што падрыхтоўкай заключнага канцэрта "Беларускай музычнай восені", замоўленага ў нашым Вялікім тэатры, займецца Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі на чале з А. Анісімавым. Між іншым, ён абяцаў на гэты сезон сваю інтэрпрэтацыю вядомай Сімфоніі № 9 Д. Смольскага, дзе сола на электрагітары выканае (як і раней, як і заўжды) В. Смольскі, сын кампазітара, класны рок-музыкант, які жыве ў Германіі.

Далейшыя планы аркестра? Падрыхтоўка прэм'еры новай партытуры Г. Гарэлавай (твор напісаны па замове самога маэстра). Супольнае выступленне з галандскімі перкусіяністамі, якія ўпершыню і з поспехам ігралі перад мінчукамі летась. На красавік, да чарнобыльскіх дзён, прымяркоўваецца выкананне сімфоніі Г. Малера, у якой гучыць ідэя ўваскрэсення, паўстання з нябыту. Летам, замыкаючы сезон, аркестр ушануе чарговы юбілей у сусветнай музычнай культуры, 200-годдзе Г. Берліёза: плануецца выкананне яго "Фантастычнай сімфоніі". Да таго ж, маэстра запрашае для ўдзелу ў праграме французскіх салістаў, скрыпача Ш. Аліўе ды спявачку Ф. Адэт, — рыхтуецца Скрыпічны канцэрт К. Сен-Санса ды фрагменты з оперы Ш. Гуно "Фауст". Зразумела, насычанае творчае жыццё аркестра звязана і з працай іншых дырыжораў: Пятра Вандзілоўскага, Андрэя Галанава, Міхала Казінца, Алега Лесуна, Карэн Ніксан (ЗША), Генадзя Праватарава, Вячаслава Чарнухі...

Найбольш надзейны арыенцір у сённяшнім канцэртным жыцці сталіцы — афішы Залы камернай музыкі, што на Залатой Горцы (касцёл Святога Роха). З верасня тут прайшлі разнастайныя праграмы, у якіх удзельнічалі вядомыя беларускія артысты, маладыя таленты, замежныя госці. Гучаў арган, хор, сольныя спевы, інструментальныя ансамблі, паэтычнае слова...

•

Прафесар Юрый Гільдзюк, які мастацкім кіраўніком Беларускай дзяржаўнай філармоніі працуе ўжо 20-ы сезон, пэўна, мог дазволіць сабе нядаўна вось такую мудрую і сакраментальную фразу: "Мы — адна сям'я. Якая жыве не багата..."

...Паміж нягодамі буднаў і шчасцем творчасці. Так і жыве.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

# УСПАМІНЫ ПРА ЛАРЫСУ ГЕНІЮШ

У Слоніме пабачыла свет кніга ўспамінаў Пятра Марціноўскага пра Ларысу Геніюш. Яна называецца "Наша Лорка".

Аўтар успамінаў, які жыве ў вёсцы Дзярэчын Зэльвенскага раёна, усё жыццё аддаў школе. Філолаг па адукацыі, ён шчыра сябраваў і сябруе з многімі беларускімі пісьменнікамі. Яго́ны дом у Дзярэчыне творчая інтэлігенцыя жартоўна называе домам літаратараў. Тутгасцявала амаль палова сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў. Пра свае дзярэчынскія сустрэчы Пятро Марціноўскі плануе напісаць і выдаць некалькі кніг. Першаю такой ластаўкай стала кніга ўспамінаў пра беларускую паэтку Ларысу Геніюш (1910—1983). Пётр Марціноўскі і яго жонка Ірына шмат гадоў шчыра сябравалі з Ларысай і Янкам Геніюшамі. Ларыса Антонаўна часта гасціла ў Марціноўскіх, ды і яны неаднаразова наведвалі хату Геніюшаў у Зэльве.

Пётр МАРЦІНОЎСКІ

Наша Лорка

Кніга "Наша Лорка" пачынаецца з успамінаў аб тым, як аўтар кнігі, Алесь Траяноўскі і Ларыса Геніюш ездзілі на матацыкле ў Гудзевічы да Алеся Белакоза, а таксама на радзіму паэткі — у засценак Жлобаўцы і ў вёску Палаўкі, што на Ваўкавышчыне. Там землякі яе ласкава называлі "наша Лорка": "Наша Лорка прыехала. Прыходзьце да нас...".

Пётр Марціноўскі цікава распавядае ў кніжцы і пра тое, як Ларыса Геніюш напісала і чытала яму верш "Зубры", як яна па-мацярынску клапацілася пра Уладзіміра Караткевіча, якім апантаным кнігалюбам быў Янка Геніюш.

У кнізе "Наша Лорка" змешчаны таксама тэксты аднаго пісьма і паштовак Ларысы Геніюш да Марціноўскіх, а таксама ўрыўкі з "Незакончанай паэмы" паэткі. Паэма прысвечана рэпрэсіям на Беларусі ў 30—50 гадах мінулага стагоддзя, падчас якіх шмат загінула беларускіх пісьменнікаў і палітыкаў:

*"на якой мове з табой гаварыць,*
*Знаеш расейскую,*
*Можа выклікаць перакладчыка,*
*Можа па-чэску?"*
*Гляджу адважна, не, не баюся:*
*"Не знаю рускай,*
*Вы жа міністр на Беларусі*
*Дык гаварыце, як тут належыць,*
*Па-беларуску!".*
*"Не, па-расейску ты загаворыш", —*
*Грыміць Цанава.*
*Мовы ён нашай знаці — не знае,*
*Ад злосці шэры.*
*Біч для народу, скула ліхая,*
*Піяўка на сэрцы!*
*Бесіцца люта і мне жадае.*
*Суддзі не суддзі,*
*Быццам не людзі,*
*Скалы сядзяць:*
*"За беларускасць няхай вам будзе*
*Лет 25!"...*

Акрамя малавядомай паэмы ў кнізе змешчаны вершы гродзенскіх паэтаў, прысвечаныя Ларысе Геніюш — Юркі Голуба, Дануты Бічэль, Міхася Скобл, Уладзіміра Мазго, Ірыны Навуменкі, Ірыны Войткі і іншых аўтараў. Друкуюцца ў кнізе і фотаздымкі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



**ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!**

**Адказы на пытанні анкеты мы жадалі б атрымаць не пазней як 1 студзеня 2003 года.**

**1. Што вы прачыталі ў гэтым годзе з беларускай літаратуры (рукапісы, публікацыі, кніжкі)?**

**2. Што перачыталі са "старога" і адкрылі ў ім новае?**

**3. Што найбольш уразіла з прачытанага?**

**4. Назавіце свой суб'ектыўны рад любімых вамі сучасных пісьменнікаў (да 10 чал.), паэтаў (да 10 чал.), крытыкаў (да 5 чал.).**

**5. Над чым працуеце сёння, які маеце літаратурны і жыццёвы клопат, і дзе што сваё мяркуеце надрукаваць у бліжэйшы час?**

Нарадзіўся ў 1936 годзе ў Мінску ў акцёрскай сям'і. Кандыдат філалагічных навук. Выдаў шэраг навуковых манаграфій і кніжку крытычных артыкулаў "Плошча Свабоды". Выступае і ў жанры прозы, і як сцэнарыст. Займаецца выкладчыцкай працай.

**Аляксандр СТАНЮТА:**

1. "Vixi" Алеся Адамовіча ў аднайменнай кнізе з трох яго апошніх аповесцей (Мн., ТАА "Ковчег", 2002).

Цяжка.

Наталля Арсеннева. "Выбраныя творы" (Мн., "Беларускі кнігазбор", 2002).

Расчараванне.

Раздзелы з "Міфапогіі Беларусі" і "Беларускай літаратуры і міфалогіі" Т. Шамякінай (Мн., "Мастацкая літаратура", 2002. — Мн., БДУ, 2001).

Апантанасць сваёй ідэяй + эрудыцыя = глыбіня новага.

Раздзелы з "Сентыментальнага палявання, або У крытычных сутарэннях" Ірыны Шаўляковай.

У пэўным сэнсе нават эратычная, як і належыць, энергетыка творчага масавыяўлення.

Часопіс "Кур'ер" — ці не апошні нумар, падпісаны Ігарам Герменчуком (красавік, 2002).

Тое, што трэба — і чаго не стае беларускай журналістыцы.

Часопіс "Мировой футбол" (Масква), пра сусветны чэмпіянат — 2002: "Вялікая прафанацыя".

Задавальненне; сам так думаў і пісаў.

2. Янку Купалу.

Дзённікі Івана Буніна.

3. Купалавы "Я не паэта" (кожны раз так з гэтым вершам у мяне) — і "Як спытаюцца нас". На газетным аркушы ("Народная воля", 20.IV.02.), у мільгаценні і гушчыні будзёншчыны, апошні верш проста працяў, дастаў у імгненне і да розуму, і да душы.

Дзённікі Буніна — інтымны, патаемны раман яго жыцця.

Стаіць перад вачыма і вычытанае ў Т. Шамякінай. Срэбная месяцава дарожка на вадзе, па якой памкнуўся прайсці і загінуў старажытны кітайскі паэт Лі Бо. Пра гэта, пішa аўтар, пэўна ведаў Максім Багдановіч ("Самнамбул"). Так-так, гэтая срэбная дарожка на вадзе... Спачатку мы імкнёмся прайсці па ёй, потым плывем. Адно каб плыць?..

4. Купала, Багдановіч, Гарэцкі, Адамчык, Разанаў, Брыль, Быкаў, Стральцоў.

Пушкін, Лермантаў (проза), Л. Талстой, Чэхаў, Бунін, Ахматава, Акуджава (песні).

Шэкспір, Хемінгуэй, Гамсун, Камю, Р.-П. Уорэн.

Ягор Конеў нарадзіўся 21 снежня 1970 г.

У 1994 годзе скончыў журфак БДУ.

У 1995 г. выдаў кнігу прозы "Вартавыя" ў серыі "Бібліятэка часопіса "Маладосць".

Выкладчык БДУ.

Сябра СБП.

**Ягор КОНЕЎ:**

1. З наватарскіх твораў найбольш спадабалася апавяданне Галіны Багданавай "Белая ружа Гаўдзі" ў часопісе "Беларусь". У той час, як многія нашы літаратары пішуць у стылі крытычнага рэалізму, яна, мне здаецца, прарываецца ў пост-пастмадэрнізм. З традыцыйных — лірычныя запісы "Вясна" Янкі Брыля. Чытаў з пачуццём белай зайздрасці — восьі мне б так пісацьу 85! Пэўна, трэба вельмі любіць наш шалёны і прыгожы свет, і мець вялікую спагаду да людзей, каб у такім узросце заставацца такім творцам.

2-3. Зборнікі "Танец з вужакамі" і "Рэчаіснасць" Алеся Разанава. Прыемна ўсведамляць, што жыву ў адну эпоху з геніем. І крыўдна ўсведамляць, што сапраўднае значэнне Разанава для нашай літаратуры будзе належным чынам ацэнена, магчыма, толькі пасля яго смерці.

"Дамавікамэрон" Адама Глобуса. Са шкадаваннем думаў — як не хапае нашай літаратуры такога пачуцця творчай разняволенасці, якое ёсць у аўтара. Гэта зусім не азначае, што трэба ўсім кідацца і пісаць пра інтымныя вопыты сваіх знаёмых. Аднак шлях да ўнутранай свабоды, без якой немагчымы плённы літаратурны працэс, пачынаецца, як мне здаецца, менавіта з пачуцця разняволенасці.

"Як жылі нашы продкі ў XVIII стагоддзі" Адама Мальдзіса. Ну, як не захапляцца Мальдзісам, калі ў яго́най кнізе што ні старонка, дык гатовы сюжэт для гістарычнага рамана!

4. Сучасныя беларускія пісьменнікі, акрамя вышэйзгаданых: Уладзімір Саламаха, Барыс Пятровіч, Анатоль Казлоў.

Паэты: Віктар Шніп, Віктар Гардзей, Алесь Бадак, Эдуард Акулін.

Эсэісты: Янка Сіпакоў, Валянцін Акудовіч.

Крытыкі: Уладзімір Гніламёдаў, Ірына Шаўлякова.

5. Аднойчы я быў у Кракаве і падняўся на мемарыяльны Капец Касцюшкі. І стоячы на пагорку, пазіраючы на далёкія Татры, раптам задумаўся: "А якім чынам харунжы з ліцвінскай глушы даслужыўся да генерал-маёра амерыканскай арміі?" Вярнуўся ў Мінск, стаў высвятляць. Аказалася, такая цікавая гісторыя, што будзе сорамна, калі нікому не распавяду. Два гады пісаў раман аб Касцюшкавых прыгодах у часы Амерыканскай Рэвалюцыі, ды ўсё не набяруся смеласці занесці ў рэдакцыю. А сёлета задумаўся: "Якім чынам забыты генерал з ліцвінскай глушы аказаўся Начальнікам Паўстання?" Стаў высвятляць. Аказалася, не менш цікавая гісторыя. І вось цяпер адчуваю сорам за тое, што нікому пакуль яе не распавёў. І адначасова ў думках звяртаюся да партрэта Начальніка, наракаю: "Што ты са мной робіш, Тадэ? (Так называлі Касцюшку сябры і даверaныя паплечнікі.) Колькі часу яшчэ займацца табой?" А ён маўчыць сабе, не зважае на мае нараканні...

# ЗАЛАТЫ ПЯРСЦЁНАК

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)**

— Ты з нашага горада? Чаму я раней ніколі цябе не бачыў? Ніколі... і на дыскатэцы...

— Я не хаджу туды.

— Чаму?

— Там сумна...

— Сапраўды сумна. Я й казаў заўсёды... Але цяпер і я болей туды не пайду ніколі... Скажы, як ты сюды трапіла? Часам не з неба?

— Не, — Каця нарэшце ўсміхнулася, — проста мяне зачынілі тут. А вы?

— Мы пралезлі вунь праз тую дзірку, — Кекс паказаў на акно.

— Якая маленькая! — здзівілася Каця. — І ты не параніўся? Вы што, выходзіць, рабаўнікі?

— Выходзіць... — спахмурнеў Кекс.

— Вось здорава! — засмяялася Каця.

— А ў мяне тата начальнік міліцыі!..

— Што-о?! — Кекс падхапіўся, учадзелую яго галаву як мятлою падмялі, разам ацвярэзеў. — Вось дык уліплі!

— Не бойся, дурненькі, я цябе нікому не выдам. Дарэчы, ты так і не сказаў, як завуць цябе.

— Кі... ладна, Кірылам, завуць мяне. Вось што, Кацюша, мы павінны зараз жа з табою знікнуць адсюль. Сама разумееш.

— Знікнуць? Разумею, але як?

— Праз дзірку, вядома.

— Праз акно, з другога паверха? — спалохалася дзяўчына, — Ды я не змагу.

— Зможаш! Я дапамагу табе. Абувайся хутчэй, парасон бяры і — пайшлі адсюль.

— І ты ж таксама босы.

— Мае боты на казырку засталіся. Пайшлі.

Ён спрытна скочыў праз разбітае акно, падаў ёй руку:

— Асцярожна... вось так, не спяшайся. Ну, малайчына! Вырасцеш — вазьму цябе з сабою... на магазін... Ну, давай, другую нагой пераступай. Эх, ну, што ты?!..

— Кірыл! Я, здаецца, парэзалася! — Каця нарэшце скочыла на казырок і — трапіла нагою на выстаўленая шкло.

Завыла-заскуголіла на ўвесь горад сігналізацыя. Кекс збялеў. Ён зразумеў, што ўсё скончана, нават не паспеўшы пачацца... Калабком скаціўся з мокрага карніза на зямлю:

— Каця, хутчэй, скачы!..

— Я не магу! Баюся, Кірыл!

— Каця, міленькая, я прашу цябе. Праз пяць хвілін яны прыедуць сюды... Ну, скачы ж, я злаўлю цябе...

І ён злавіў бы, ды яна раптам пакаўзнулася на мокрым казырку і юзам паляцела ўніз, ён не чакаў, і калі лавіў, не ўтрымаўся на нагах, абодва паваліліся на брудны коўзкі асфальт.

— Ой, нага! — ускрыкнула Каця.

— Што з нагою? Скрывіла? Трымайся за мяне. Можаш ісці? Не? Тады я панясу цябе...

З-за павароты пачулася сірэна, паказаўся міліцэйскі патрульны варанок з мігалкаю. Не сірэна выла, то Арханге́л трубіў, абвяшчаючы пра канец свету...

— Кідай мяне, Кірылка! — узмалілася Каця. — Кідай жа! Ты яшчэ паспееш уцячы.

— Ніколі я ўжо цябе не кіну...

Як праз сон помніць Каця — выскачылі з машыны двое ў камуфляжных бушлатах, збілі Кірылу з ног, мацюкаючыся, павалілі на асфальт, тварам — у брудную калюжыну, заламілі рукі, шчоўкнулі кайданкамі. І ўжо безабаронная пачалі лупцаваць нагамі, пакуль не запхнулі ў варанок.

Яна таксама ўпала на дол, але перадужала боль у назе, паднялася, закрычала:

— Завошта ж вы яго так? Завошта? Звяры вы, паганкі! Нелюдзі! — крычала і плакала адначас. — Вам бы толькі біць! Біць бы толькі, канавалы! Я тату ўсё раскажу!

Яны азірнуліся, падскочылі і да яе, таксама падхапілі пад рукі, волакам пацягнулі да машыны. Яна закрычала нема і паспрабавала ўкусіць аднаго з іх за руку.

— Ах ты, сцерва, яшчэ й кусацца. Ды я цябе зараз без зубоў!..

Нарэшце пры святле машынных фараў яна разгледзела сваіх катаў, а яны — яе. І — знямелі.

— Чакай, гэта ж, здаецца, дачка Канапацкага...

— Не можа быць! А ён шукае...

— А, што, бандзюгі, даскакаліся? — зласліва, дзіка зарагатала Каця ім у твар.

— Пардон, дачуша, памылачка выйшла. З кім не бывае? Выбачайце... гуляйце. І дадому час, бацька шукае. А мы вас не бачылі, дамовіліся? — яны асцярожна, на задніх лапках адступалі ад варанка, лісліва ёй, Каці, усміхаючыся. Нават узялі пад казырок.

А яна ўсё адно як здранцвела, не магла паверыць вачам сваім. Ніколі ў жыцці не бачыла яшчэ такой агіднай халуйскай нізасці. І толькі калі ўскочылі ў машыну, хлопнулі дзверцамі, газанулі, калі шалёна ірванулі з месца варанок, агоўталася, памкнулася бегчы наўздагон, але зноў пакаўзнулася, упала, закрычала ў адчаі:

— Куды ж вы?! Куды?! Спыніцеся. Выпусціце яго. Аддайце... Аддайце, прашу вас! Божачка! Вярні мне яго, вярні-і!.. — плакала, прасіла, пагражала, але яе ніхто не чуў, бо ніхто і не хацеў слухаць. Хіба толькі дождж па-свойму спрабаваў яе суцешыць, змываў з яе твару, з рук, з паліто, з парасону бруд, хаця і бачыў, што ўсё дарэмна.

Зноў паднялася. Па шчаках паўзлі ці слёзы, ці буйныя кроплі дажджу, падалі на каўнер, застывалі бурштынавымі пацеркамі. Лёгкі марозік упрыгожыў яе паліто шакаладнымі ледзяшкамі, а яна, учарнелая, капматая, падобная да таго пудзеля з універмага, усё стаяла, узіралася ў цемру, сціскаючы ў акрываўленым маленькім кулачку залаты пярсцёнак...

*2002 год аб'яўлены Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый годам культурнай спадчыны. На адкрыцці Тыдня беларускай культуры ў красавіку гэтага года ў Тэатры Пьера Кардэна ў Парыжы Генеральны дырэктар ЮНЕСКА Каіціра Мацуура сказаў: "Грунтоўная на традыцыях, але звернутая да будучыні, беларуская творчасць змагла шмат пачэрпнуць у багатай разнастайнасці сваёй спадчыны, каб выказаць на сучаснай арыгінальнай мове ўласную душу сваёй культуры. Таму я шчаслівы,што ЮНЕСКА звязана з гэтай прэстыжнай з'явай".*

*Прадстаўнік краіны, якая дае прыклад усяму свету -- як захаваць самабытнасць сваёй традыцыйнай культуры ва ўмовах глабалізацыі, на пачатку сваёй дзейнасці даў народам свету своеасаблівую ахоўную грамату — "Сусветную дэкларацыю культурнай разнастайнасці",якая была прынята XXXI сесіяй Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА ў Парыжы 3 лістапада 2001 года.*

*Прэамбула, 12 артыкулаў і вызначаныя 20 галоўных напрамкаў Дэкларацыі па культурнай разнастайнасці даюць выдатную перспектыву нашым працаўнікам культуры ў справе захавання унікальнай нацыянальнай спадчыны, самабытнасці ва ўмовах глабалізацыі. Асабліва важна, што ўвага акцэнтуецца на выкарыстанні сучаснай мультымедыйнай тэхнікі ў справе фіксацыі, надзейнага захавання на лазерных носьбітах нацыянальна адметных з'яў культуры для перадачы іх наступным пакаленням,што мы, на жаль пакуль не робім.*

*Першая палова 2002 года азнаменавалася на Беларусі дзесяткамі "круглых сталоў" па розных накірунках захавання тоеснасці культуры, якія сталі падрыхтоўчым этапам да Міжнароднага сімпозіума "Разнастайнасць моў і культур ва ўмовах глабалізацыі". Перавага на ім была аддадзена вельмі вострай на Беларусі моўнай праблеме,але гэта не адпавядала сутнасці самой Дэкларацыі пра культурную разнастайнасць (можа ў гэтым і прычына таго, што надзвычай важны для Беларусі міжнародны дакумент да гэтага часу не апублікаваны).*

*Назвы " круглых сталоў" напярэдадні сімпозіума гавораць самі за сябе: "Улада і культура", "Мова сродкаў масавай інфармацыі", "Мова, адукацыя і час", "Беларуская мова: Інтэрнэт і камп'ютэр" і інш. Найбольш блізка духу Дэкларацыі адпавядала канферэнцыя "Праблемы традыцыйнай культуры", якая была святочна арганізавана дакладна на Вялікадзень Беларускім фондам культуры і навукова-даследчай лабараторыяй беларускага фальклору Белдзяржуніверсітэта. Грунтоўныя даклады Мікалая Крукоўскага "Глабалізацыя, постмадэрнізм і нацыянальныя культуры", Леаніда Лыча "Традыцыйная культура як фактар захавання нацыянальнай самабытнасці беларусаў", Тацціяны Шамякінай "Народная культура ва ўмовах глабалізацыі" і іншых выступоўцаў раскрылі фатальнасць сітуацыі ў справе захавання культурнай разнастайнасці на Беларусі. Навуковыя разважанні былі дапоўнены паказам праграм лепшых рэгіянальных фальклорных гуртоў. Над Нямігай, у гістарычным цэнтры Мінска гэта гучала больш чым шматзначна.*

*Сімпозіум адбыўся ў Мінску 8 — 10 ліпеня 2002 года, яго адкрыў Каіціра Мацуура, ён зрабіў аналіз шматаблічнасці культурнай спадчыны народаў свету, заклікаў да ашчаднага захавання яе ва урбанізаваным грамадстве, глабалізаваным свеце, што асабліва важна для Беларусі. З аналітычнымі дакладамі на сімпозіуме выступілі акадэмік Аляксандр Вайтовіч, нямецкі вучоны Роланд Марці, французскі сацыялінгвіст Жан-Пьер Жанто, член-карэспандэнт НАН Украіны Рыгор Піўтарак і шмат беларускіх вучоных і пісьменнікаў. Удзельнікі ўхвалілі прапанову расійскага акадэміка-эколага Эрыка Сляпяна, ураджэнца Беларусі, аб правядзенні раз у два — тры гады ў Мінску пад дахам ЮНЕСКА форумаў у абарону культурнай разнастайнасці.*

*Прапануем "Сусветную дэкларацыю культурнай разнастайнасці", падрыхтаваную да друку ў навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору Белдзяржуніверсітэта.*

**ВАСІЛЬ ЛІЦЬВІНКА**

# СУСВЕТНАЯ ДЭКЛАРАЦЫЯ КУЛЬТУРНАЙ РАЗНАСТАЙНАСЦІ ЮНЕСКА

## 3 ЛІСТАПАДА 2001 г., 31-ая СЕСІЯ ГЕНЕРАЛЬНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІІ, ПАРЫЖ

Генеральная канферэнцыя,прымаючы на сябе абавязак цалкам забяспечваць выкананне правоў чалавека і фундаментальных свабод, абвешчаных у Сусветнай Дэкларацыі Правоў Чалавека і ў іншых прызнаных ва ўсім свеце заканадаўчых актах, такіх як дзве міжнародныя Канвенцыі ад 1966 г.,адпаведна па грамадзянскіх і палітычных правах і па эканамічных, сацыяльных і культурных правах:

- нагадваючы, што прэамбула Канстытуцыі ЮНЕСКА сцвярджае, што «шырокае распаўсюджванне адукацыі людзей у духу справядлівасці,свабоды і міру неабходны дзеля сцвярджэння чалавечай годнасці і з'яўляюцца святым абавязкам, які ўсе нацыі (дзяржавы) павінны выконваць у духу ўзаемнай падтрымкі і ўзаемакарысці»;

- абапіраючыся на артыкул 1 Канстытуцыі,які вызначае адным з абавязкаў ЮНЕСКА спрыяць «такім міжнародным пагадненням, якія б забяспечвалі свабоднае распаўсюджванне ідэй у форме слова і вобраза»;

- нагадваючы пра палажэнні ў справе культурнай разнастайнасці і рэалізацыі культурных правоў у міжнародных заканадаўчых актах, прынятых ЮНЕСКА (1);

- пацвярджаючы,што культуру трэба разглядаць як комплекс адметных духоўных, матэрыяльных, інтэлектуальных і эмацыянальных праяў грамадства або сацыяльнай групы, а гэта ўключае ў сябе, акрамя мастацтва і літаратуры (3), таксама стылі жыцця, спосабы суіснавання, сістэмы каштоўнасцяў,традыцый і вераванняў (2);

- зазначаючы, што культура знаходзіцца ў цэнтры сучасных спрэчак пра тоеснасць, сацыяльнае адзінства і развіццё эканомікі, заснаванай на ведах;

- сцвярджаючы,што павага да разнастайнасці культур, талерантнасць, дыялог ва ўмовах узаемадаверу і ўзаемаразумення з'яўляюцца лепшымі гарантыямі міру паміж народамі і бяспекі;

- імкнучыся да ўзмацнення салідарнасці на аснове прызнання культурнай разнастайнасці, усведамлення еднасці ўсяго чалавецтва і развіцця міжкультурнага абмену;

- усведамляючы, што працэс глабалізацыі, якому спрыяе развіццё новых інфармацыйных і камунікацыйных тэхналогій, хаця і з'яўляецца ў пэўнай ступені адыходам ад культурнай разнастайнасці, аднак стварае ўмовы для абнаўлення дыялога паміж культурамі і цывілізацыямі;

- усведамляючы, што ЮНЕСКА даверана асаблівая місія ў рамках сістэмы ААН: забяспечваць захаванне разнастайнасці культур і спрыяць ёй,

**абвяшчае наступныя прынцыпы і прымае дадзеную Дэкларацыю:**

### ТОЕСНАСЦЬ, РАЗНАСТАЙНАСЦЬ І ПЛЮРАЛІЗМ

**Артыкул 1. Культурная разнастайнасць: агульначалавечая спадчына.**

Культура ўвасабляецца ў розных формах у часе і прасторы. Гэтая разнастайнасць увасоблена ва унікальнасці і вялікай колькасці тоесных груп і грамадстваў, з якіх складаецца чалавецтва. Як крыніца абмену, абнаўлення і творчасці гэтак жа неабходная для чалавецтва, як біялагічная разнастайнасць для прыроды. У гэтым сэнсе яна з'яўляецца агульнай спадчынай чалавецтва і павінна прызнавацца і сцвярджацца на карысць цяперашняга і будучых пакаленняў.

**Артыкул 2. Ад культурнай разнастайнасці да культурнага плюралізму.**

Ва ўмовах усё большага адрознення грамадстваў неабходна забяспечыць гарманічнае ўзаемадзеянне паміж народамі і групамі, якія маюць розныя і дынамічныя культурныя тоеснасці, а таксама спрыяць іх жаданню жыць разам. Палітыка ўключэння ў гэты працэс і ўдзел у ім усіх грамадзян з'яўляюцца гарантыямі сацыяльнай еднасці, жыццяздольнасці грамадзянскай супольнасці і міру. Вызначаны такім чынам культурны плюралізм увасабляецца ў рэальнай палітыцы культурнай разнастайнасці. Неад'емны ад дэмакратычнага ладу культурны плюралізм спрыяе культурнаму абмену і росквіту творчых магчымасцяў, на якіх грунтуецца жыццё грамадства.

**Артыкул 3. Культурная разнастайнасць як чыннік развіцця.**

Культурная разнастайнасць пашырае магчымасць выбару для кожнага чалавека; яна з'яўляецца адным з чыннікаў развіцця,пад чым трэба разумець не толькі эканамічны рост, але і дасягненне задавальняючага інтэлектуальнага, эмацыянальнага, маральнага і духоўнага існавання.

### КУЛЬТУРНАЯ РАЗНАСТАЙНАСЦЬ І ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

**Артыкул 4. Правы чалавека як гарантыя культурнай разнастайнасці.**

Абарона культурнай разнастайнасці — гэта этычны імператыў, неад'емны ад павагі да чалавечай годнасці. Пад гэтым трэба разумець захаванне правоў чалавека і фундаментальных свабод,у прыватнасці правоў асоб,якія належаць да меншасцяў і да карэнных народаў. Ніхто не можа заклікаць да культурнай разнастайнасці, каб парушыць правы чалавека, гарантаваныя міжнародным правам, або абмежаваць іх дзеянне.

**Артыкул 5. Культурныя правы як спрыяльнае асяроддзе для культурнай разнастайнасці.**

Культурныя правы з'яўляюцца неад'емнай часткай правоў чалавека, універсальных,непадзельных і ўзаемазалежных. Дзеля росквіту творчай разнастайнасці неабходна поўнае выкананне культурных правоў, як гэта вызначана ў артыкуле 27 Сусветнай дэкларацыі правоў чалавека і ў артыкулах 13 і 15 Міжнароднага пагаднення па эканамічных, сацыяльных і культурных правах. У адпаведнасці з імі ўсе людзі павінны мець магчымасць самавыяўлення, творчасці і распаўсюджвання сваіх твораў на мове, абранай імі, і асабліва на іх роднай мове; усе людзі павінны мець доступ да якаснай адукацыі і падрыхтоўкі ва ўмовах,якімі поўнасцю забяспечваецца павага да іх культурнай тоеснасці; усе людзі павінны мець магчымасць удзельнічаць у культурным жыцці паводле свайго выбару і займацца самастойнай культурнай дзейнасцю пры ўмовах захавання правоў чалавека і фундаментальных свабодаў.

**Артыкул 6 . Культурная разнастайнасць для ўсіх.**

Забяспечваючы свабодную плынь ідэй у форме слова і вобраза, неабходна рупіцца пра тое,каб усе культуры мелі магчымасць самавыяўлення і маглі паведаміць пра сябе. Свабода слова, плюралізм сродкаў масавай інфармацыі, шматмоўе, роўны доступ да мастацкіх, навуковых і тэхналагічных ведаў, уключна з дыгітальнай (лічбавай) формай, а таксама магчымасць доступу да ўсіх культур, да сродкаў выражэння і распаўсюджвання інфармацыі з'яўляюцца гарантыямі культурнай разнастайнасці.

### КУЛЬТУРНАЯ РАЗНАСТАЙНАСЦЬ І ТВОРЧАСЦЬ

**Артыкул 7. Культурная спадчына як крыніца творчасці.**

Творчасць жывіцца каранямі культурнай традыцыі, але расцвітае ў кантакце з іншымі культурамі. З гэтай прычыны трэба захоўваць спадчыну ва ўсіх яе формах, павялічваць і перадаваць будучым пакаленням як суму чалавечага досведу і памкненняў, а таксама трэба спрыяць творчасці ва ўсёй яе разнастайнасці і натхняць на шчыры дыялог паміж культурамі.

**Артыкул 8. Аб'екты культуры і паслугі ў сферы культуры: унікальныя аб'екты.**

Ва ўмовах цяперашніх эканамічных і тэхналагічных перамен, адкрыцця шырокіх перспектыў для творчасці і інавацый неабходна звяртаць асаблівую ўвагу на разнастайнасць у сферы прапаноў прадуктаў творчай працы, на адпаведнае прызнанне правоў аўтараў і выканаўцаў і на унікальнасць аб'ектаў культуры і паслуг у сферы культуры, якія, будучы вектарамі тоеснасці, каштоўнасці і значэння, не могуць разглядацца як звычайныя паслугі або прадукты спажывання.

**Артыкул 9. Культурная палітыка як каталізатар творчасці.**

Забяспечваючы свабодны абмен ідэямі і творамі, культурная палітыка павінна ствараць умовы, якія б спрыялі ўзнікненню і распаўсюджванню разнастайных аб'ектаў культуры і паслуг у сферы культуры праз шэраг відаў культурнай дзейнасці, мэтай якіх з'яў-

(Заканчэнне на стар. 14)

ЛІМ-ЧАСАПІС

# У ЭФІРЫ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ — ЛІТАРАТУРА

Сёння ўжо можна падвесці пэўныя вынікі пачатку новага вяшчальнага сезона на Беларускім радыё. Якім жа становіцца яно, як прыжылася на яго хвалях айчынная і сусветная літаратура?

Вызначыліся тры асноўныя напрамкі: гэта аўтарскія і інфармацыйна-аналітычныя праграмы, а таксама чытанне арыгінальнай літаратуры.

Цікавай з'явай у эфіры становяцца аўтарскія праграмы. Гэта "Сентыментальнае паляванне" Ірыны Шаўляковай, "Брама" Навума Гальпяровіча, "Авансцэна" Святланы Шалімы, "Палітра" Галіны Шаблінскай. Кожная з іх вызначаецца непаўторнасцю, аўтарскім бачаннем праблем. З цікавасцю ўспрымалі слухачы гутаркі з паэткамі Ірынай Дарафейчук і Наталляй Капа, Алесем Пашкевічамі Вольгай Куртаніч, пісьменніцай Галінай Багданавай. Удала дапасаваліся да праграмы "Палітра" вершы Рыгора Барадуліна. Па-новаму загучаў "Літаратурны праспект", з'явілася паэтычная старонка "Жывы гук", дзе разам з Маргарытай Прохар да слухачоў звярталіся ў прамым эфіры Анатоль Аўруцін, Людміла Рублеўская.

Пачэснае месца заняла літаратура на канале "Культура".

Што ж чакае аматараў прыгожага пісьменства на хвалях Беларускага радыё на наступным тыдні?

**Першы Нацыянальны канал**

Панядзелак — у **"Радыёфакце" — "Кола часу"**, у **12 гадзін ночы — "Кароткія гісторыі"**.

**"Брама"** — аўтарская праграма Навума Гальпяровіча гучыць, як заўсёды ў **аўторак**, пачатак у **22 гадзіны 30 хвілін**. У гэты ж час у сераду — праграма Святланы Шалімы **"Авансцэна"**. Галіна Шаблінская ў чацвер запрашае да сустрэчы ў аўтарскай праграме "Палітра" з Васілём Зуёнкам. **"Сентыментальнае паляванне" Ірыны Шаўляковай — у пятніцу, у 22 гадзіны 30 хвілін.**

У **суботу Маргарыта Прохар** знаёміць з навінамі літаратуры ў **"Літаратурным праспекце"**, а ў **16.15** выступіць са сваім суразмоўцам у праграме **"Жывы гук"**.

У **нядзелю — "Кнігарня"** Святланы Дзевяткавай. І штоноч, пасля паўночы — **"Кароткія гісторыі"**, а гэта значыць — шэдэўры айчыннай і сусветнай літаратуры.

**Канал "Культура"**

**"Клуб дамаседаў"** у **панядзелак, аўторак у 11.00** — працягвае знаёміць са старонкамі рамана У. Караткевіча **"Чорны замак Альшанскі"**, у **сераду ў 11.20** — праграма М. Прохар **"Хранограф"**, у **чацвер** у гэты ж час — **"Натхненне"** В. Макарэвіча.

Літаратурны аўторак у інфармацыйна-публіцыстычным блоку **"Сімфонія дня"** пачнецца з **"Дзеяслова"** Л. Рублеўскай у **12.10**, у **14.10 — "Магія творчасці"** З. Каваленкі, у **15.00** — праграма **"Ліставанні"** І. Рыбіцкага, **"Таленты з глыбінкі"** М. Прохар у **15.20**, у **"Паэтычным радыётэатры"**, які пачнецца ў 15.40 — спектакль **"У горадзе валадарыць Рагвалод"** паводле творчасці А. Разанава, у **16.10 — "Гаспода"** Г. Шаблінскай, госць студыі жывога эфіру — член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, прафесар М. Мушынскі. Выпуск да 120-годдзя Якуба Коласа.

**Н. К.**

# ПЕРШЫ МІЖНАРОДНЫ

**конкурс выканаўцаў на народных інструментах імя І. ЖЫНОВІЧА**

*Урачыстае адкрыццё адбылося ўчора, 14 лістапада. Замоўлена больш за 80 удзельнікаў, з іх 57 — прадстаўнікі Беларусі. Журы ўзначальвае народны артыст РБ прафесар М. Казінец. Праграма конкурсных выступленняў прадугледжвае і выкананне абавязковых твораў беларускіх кампазітараў: Саната для цымбалаў В. Кузняцова, Таката (баян, акардэон) В. Малых, а таксама "Рандзіна" А. В'етана (домра-мандаліна, балалайка). Замоўлены 3 прэміі (першая — 1000 дол. ЗША), 3 дыпломы па кожнай намінацыі, узнагароды канцэртмайстрам. Прэміі ўручаюцца ў рублёвым эквіваленце па курсе НБ РБ на дзень выплаты.*

**15-17, I тур.** Зала 2-га корпуса Беларускай акадэміі музыкі (вул. Чычэрына, 5) — баян, акардэон. Зала ДМШ № 8 (вул. Варвашэні, 58) — цымбалы, домра-мандаліна, балалайка.

**18-19, II тур.** Тамсама.

**20, III тур.** Зала БАМ (вул. Інтэрнацыянальная, 30) — усе інструменты.

**21**, урачыстае закрыццё. Зала БАМ.

**Тэл. для даведак: 227-49-42.**

# СУСВЕТНАЯ ДЭКЛАРАЦЫЯ КУЛЬТУРНАЙ РАЗНАСТАЙНАСЦІ ЮНЕСКА

**(Заканчэнне. Пачатак на стар.13)**

ляецца самасцвярджэнне на мясцовым і глабальным узроўнях. Гэта адносіцца да кожнай дзяржавы. У адпаведнасці з яе міжнароднымі абавязкамі яна павінна вызначыць сваю культурную палітыку і рэалізоўваць яе сродкамі, якія лічыць адпаведнымі, аказваючы падтрымку развіццю культурнай дзейнасці ці выкарыстоўваючы адпаведнае рэгуляванне.

### КУЛЬТУРНАЯ РАЗНАСТАЙНАСЦЬ І МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

**Артыкул 10. Пашырэнне магчымасцяў творчай дзейнасці і распаўсюджвання яе па ўсім свеце.**

Ва ўмовах цяперашняга дысбалансу на глабальным узроўні ў абмене культурнымі аб'ектамі і паслугамі ў сферы культуры трэба ўзмацніць міжнароднае супрацоўніцтва і салідарнасць з мэтай садзеяння ўсім краінам, якія знаходзяцца на стадыі развіцця і на пераходным этапе, у заснаванні шэрагу відаў культурнай дзейнасці, якія былі б жыццяздольнымі і канкурэнтназдольнымі на нацыянальным (дзяржаўным) і міжнародным узроўнях.

**Артыкул 11. Пабудова партнёрскіх адносін паміж дзяржаўным сектарам, прыватным сектарам і грамадзянскай супольнасцю.**

Захаванне і падтрымка культурнай разнастайнасці, якая з'яўляецца крыніцай бесперапыннага развіцця чалавецтва, не можа быць гарантавана толькі сіламі рынку. З гэтага пункту гледжання трэба падкрэсліць прыярытэтнасць (6) дзяржаўнай палітыкі ў супрацоўніцтве з прыватным сектарам і грамадзянскай супольнасцю.

**Артыкул 12. Роля ЮНЕСКА.**

ЮНЕСКА ў адпаведнасці са сваімі мандатамі і функцыямі павінна:

1.Спрыяць увасабленню прынцыпаў, выкладзеных у гэтай Дэкларацыі, у стратэгічных планах развіцця розных міжурадавых арганізацый;

2.Служыць асновай для спасылкі і глебай, на якіх дзяржавы, міжнародныя ўрадавыя і няўрадавыя арганізацыі, грамадзянская супольнасць і прыватны сектар маглі б аб'ядноўвацца пры распрацоўцы канцэпцый, мэт і палітыкі на карысць культурнай разнастайнасці;

3.Прыкладаць намаганні па ўсталяванні стандартаў, папулярызацыі і стварэнні магчымасцяў у сферах, вызначаных гэтай Дэкларацыяй і ў рамках сваёй кампетэнцыі;

4.Спрыяць выкананню Плана дзеянняў, галоўныя напрамкі якога прыкладзены да гэтай Дэкларацыі.

### ГАЛОЎНЫЯ НАПРАМКІ ПЛАНА ДЗЕЯННЯЎ ПА ВЫКАНАННІ СУСВЕТНАЙ ДЭКЛАРАЦЫІ ЮНЕСКО ПА КУЛЬТУРНАЙ РАЗНАСТАЙНАСЦІ

Дзяржавы-сябры ЮНЕСКА абавязуюцца зрабіць адпаведныя крокі па шырокім распаўсюджванні Сусветнай Дэкларацыі ЮНЕСКА па культурнай разнастайнасці, у прыватнасці, для дасягнення наступных мэт:

1. Паглыбляць міжнародны дыялог па пытаннях, якія датычацца культурнай разнастайнасці, у прыватнасці, яе сувязяў з развіццём і яе ўплыву на фарміраванне палітыкі як на нацыянальным (дзяржаўным), так і на міжнародным узроўнях; у прыватнасці, актывізаваць дзейнасць па аналізе мэтазгоднасці прыняцця міжнароднага прававога акта па культурнай разнастайнасці;

2. Спрыяць вызначэнню прынцыпаў, стандартаў і практычных дзеянняў як на нацыянальным (дзяржаўным), так і на міжнародным узроўнях, а таксама форм папулярызацыі і мадэляў супрацоўніцтва, якія былі б найбольш эфектыўнымі ў справе захавання культурнай разнастайнасці і садзеяння ёй;

3. Спрыяць абмену ведамі і больш дасканалымі формамі дзеянняў у сферы культурнага плюралізму з мэтай аблягчэння ўключэння і ўдзелу у гэтым працэсе асоб і груп рознага культурнага паходжання ў грамадствах, якія складаюцца з розных культурных элементаў;

4. Пашыраць разуменне і тлумачыць сэнс культурных правоў як інтэгральнай часткі правоў чалавека;

5. Захоўваць моўную спадчыну чалавецтва і падтрымліваць існаванне моў, творчасці на іх і распаўсюджванне як мага большай колькасці моў;

6. Стымуляваць развіццё моўнай разнастайнасці – пры павазе да роднай мовы – на ўсіх узроўнях адукацыі, наколькі гэта магчыма, і спрыяць вывучэнню шэрагу моў з маладога ўзросту;

7. Спрыяць праз адукацыю станоўчай ацэнцы культурнай разнастайнасці і з гэтай мэтай удасканальваць як вучэбныя праграмы, так і падрыхтоўку выкладчыкаў;

8. Па магчымасці ўкараняць традыцыйныя метады педагогікі ў адукацыйны працэс з мэтай захавання і больш поўнага выкарыстання адпаведных культурнай традыцыі метадаў перадачы ведаў;

9. Спрыяць «дыгітальнай (у рамках лічбавых тэхналогій) пісьменнасці» і ўдасканальванню новых інфармацыйных і камунікацыйных тэхналогій, якія павінны разглядацца як адукацыйная дысцыпліна і як педагагічны сродак дзеля павышэння эфектыўнасці працэсу навучання;

10.Спрыяць моўнай разнастайнасці ў кібернетычнай прасторы і ўсеагульнаму доступу праз сусветную сетку да ўсёй інфармацыі ў грамадскай сферы;

11. Пераадольваць розніцу ў развіцці дыгітальных (лічбавых) тэхналогій у цесным супрацоўніцтве з адпаведнымі сістэмнымі арганізацыямі ААН, спрыяючы доступу краін, якія знаходзяцца на стадыі развіцця, да новых тэхналогій, дапамагаючы ім у засваенні інфармацыйных тэхналогій і спрыяючы распаўсюджванню дыгітальнымі сродкамі рэгіянальных прадуктаў культурнага працэсу і доступу гэтых краін да адукацыйных, культурных і навуковых дыгітальных рэсурсаў, даступных ва ўсім свеце.

12. Спрыяць вытворчасці, захаванню і распаўсюджванню інфармацыі рознага зместу ў сродках масавай інфармацыі і сусветнай інфармацыйнай сетцы і з гэтай мэтай спрыяць павышэнню ролі радыё і тэлебачання ў развіцці аўдыёвізуальнай прадукцыі высокай якасці, у прыватнасці, спрыяць усталяванню сумесных механізмаў, каб аблегчыць распаўсюджванне такой прадукцыі.

13. Распрацоўваць палітыку і стратэгію захавання і ўзбагачэння культурнай і прыроднай спадчыны, а перш за ўсё вуснай і нематэрыяльнай, а таксама змагацца супраць незаконнага гандлю аб'ектамі культуры і паслугамі ў сферы культуры.

14. Шанаваць і абараняць традыцыйныя веды, асабліва карэнных народаў; прызнаваць уклад традыцыйных ведаў, асабліва ў справу абароны навакольнага асяроддзя і выкарыстання прыродных рэсурсаў, і спрыяць гарманізацыі сучаснай навукі і рэгіянальных ведаў.

15. Спрыяць магчымасці свабоднага перамяшчэння творцаў, мастакоў, даследчыкаў, навукоўцаў і інтэлектуалаў і развіццю міжнародных праграм даследавання і партнёрства, у той жа час захоўваць творчыя магчымасці і спрыяць ім у краінах, якія знаходзяцца на стадыі развіцця і на пераходным этапе.

16. Забяспечыць абарону аўтарскіх і сумежных з імі правоў у інтарэсах развіцця сучаснай творчасці і справядлівай аплаты творчай працы, у той жа час падтрымліваць правы грамадства на доступ да культуры ў адпаведнасці з артыкулам 27 Сусветнай Дэкларацыі правоў чалавека.

17. Садзейнічаць узнікненню і актывізацыі дзейнасці ў сферы культуры ў краінах, якія знаходзяцца на стадыі развіцця і на пераходным этапе, і з гэтай мэтай супрацоўнічаць дзеля развіцця неабходных інфраструктур і ведаў, спрыяць узнікненню мясцовых рынкаў і доступу аб'ектаў культуры гэтых краін да сусветнага рынку і міжнароднай сеткі распаўсюджвання.

18. Развіваць культурную палітыку, уключаючы захады па аператыўнай падтрымцы і стварэнні неабходнай нарматыўна-прававой базы, якая была б накіравана на ажыццяўленне прынцыпаў гэтай Дэкларацыі ў адпаведнасці з міжнароднымі абавязкамі кожнай дзяржавы.

19. Прыцягнуць грамадзянскую супольнасць да справы вызначэння грамадскай палітыкі, накіраванай на захаванне культурнай разнастайнасці і садзеянне ёй.

20. Прызнаваць і падтрымліваць уклад, які можа зрабіць прыватны сектар у справу садзеяння культурнай разнастайнасці, і спрыяць з гэтай мэтай скліканню форумаў дзеля правядзення дыялогу паміж дзяржаўным і прыватным сектарамі.

Дзяржавы-сябры рэкамендуюць Генеральнаму дырэктару ўлічваць змест гэтага Плана дзеянняў пры рэалізацыі праграм ЮНЕСКА і паведаміць пра яго інстытутам ААН, а таксама іншым міжурадавым і няўрадавым арганізацыям, каб паспрыяць аб'яднанню намаганняў на карысць культурнай разнастайнасці.

1. Сярод іх, у прыватнасці: Фларэнційскае пагадненне 1950 г. і яго Найробскі пратакол 1976 г.; Міжнародная канвенцыя па аўтарскіх правах 1952 г.; Дэкларацыя прынцыпаў міжнароднага культурнага супрацоўніцтва 1966 г.; Канвенцыя аб захадах па забароне і прадухіленні незаконнага імпарту, экспарту і перадачы аўтарскіх правоў (1970); Канвенцыя па абароне сусветнай і прыроднай спадчыны 1972 г.; Дэкларацыя ЮНЕСКА па расах і расавых забабонах 1978 г.; Рэкамендацыя адносна Статусу творцы 1980 г. і Рэкамендацыя абароны традыцыйнай і народнай культуры 1989 г.

2. Гэтая дэфініцыя стаіць у адным шэрагу з высновамі Сусветнай канферэнцыі па культурнай палітыцы (MONDIACULT, Мехіка, 1982), Сусветнай Камісіі па культуры і развіцці (Наша творчая разнастайнасць, 1995) і Міжурадавай канферэнцыі па культурнай палітыцы дзеля развіцця (Стакгольм, 1998).

ВОДГУК

# АЎТАРЫТЭТНАЕ СЛОВА ПРА НАШ РАДАВОД

***Артыкул прафесара Язэпа Юхо "Імя табе — Беларусь" ("ЛіМ", 2002, №№ 37 і 38) не можа не прыцягнуць увагу чытача багаццем звестак з самых разнастайных крыніц. У нашых выданнях — перыядычных і навуковых — не надта пашырана такая, напрыклад, інфармацыя: "У сярэднявеччы існаваў міф пра трох братоў Чэха, Леха і Руса, ад якіх паходзяць імёны трох народаў: чэхаў, палякаў і рускіх. Гэты міф быў выкладзены ў Хроніцы вялікапольскай, напісанай на лацінскай мове прыкладна ў 1295".***

Інфармацыя такая з'яўляецца асабліва каштоўнай і павучальнай для тых, хто паспеў пазнаёміцца з апошнім выданнем рускай энцыклапедыі "Мифы народов мира", дзе ў другім томе на стар. 85 сказана: ***"ЛЯХ, в западно-славянской мифологии генеалогический герой, предок поляков (ляхов), брат Чеха, согласно преданиям, записанным в хронике 14 в. Вероятно, имя Л. образовано от латинского lego, «пустошь», «новь», «необработанная земля"***.

Маскоўскія энцыклапедысты-фантазёры перахрысцілі Леха ў "Ляха", згубілі Руса, а хроніку, створаную прыблізна ў 1295 г. у Гнезне або ў Познані, абвясцілі помнікам XIV стагоддзя. Так вось, яны ўзбагацілі "Міфы народаў свету" сваім уласным міфам, які аднак славы аўтарам ніяк не памножыць, ні прыдбаць не дасць рады. Ды яшчэ прыдумалі славечка "lego", якога ў слоўніках лацінскай мовы няма. У латыні, як быццам, ніколі не было і насавога гука "e".

У артыкуле "Імя табе — Беларусь" шмат новых і звестак і думак, як і ў артыкуле гэтага ж аўтара "Пра назву "Беларусь" у зборніку "Імя тваё Белая Русь" (Мінск, 1991). Абодва яны ўзбагачаюць чытача новымі звесткамі, на якія раней не ўдавалася натрапіць. Аднак і на гэты раз не ўсюды ўдалося паважанаму аўтару пранікнуць сваім дапытлівым позіркам. Вось ён, напрыклад, піша: ***"В. Тацішчаў паведамляе, што ў 1239 г. "вялікі князь Яраслаў Усеваладавіч хадзіў на Літву, баронячы смальнян, і перамогшы Літву, пасадзіў у Смаленску князя Усевалада Мсціслававіча, унука Рамана Мсціславіча". А тою літвою былі полацкі князь Святаслаў Мсціславіч, які захапіў Смаленск у 1232 г.***

***З гэтага паведамлення вынікае, што ўжо ў 1239 г. палачан называлі ліцьвінамі"***.

У адным месцы хочацца запярэчыць аўтару артыкула "Імя табе — Беларусь". Ён сцвярджае: ***"У цяжкай барацьбе супраць апалячвання і русіфікацыі наш народ вымушаны быў прымірыцца са стратай свайго слаўнага імя Літва і пагадзіцца на навязанае яму Маскоўскай дзяржавай новае імя Беларусь, якое паходзіць ад імя Белая Русь, якім у XV-XVI ст. называлася Маскоўская дзяржава". І яшчэ раз мы чытаем: "Адабранне ад нашага народа яго старажытнага імя Літва мела дзве прычыны: палякі стараліся навязаць імя Польшчы, а рускія — імя Русі, Белай Русі"***. Тутадчуваецца пераклічка з канцэпцыяй вядомага Янкі Станкевіча, які ў кнізе "Нарысы з гісторыі Вялікалітвы-Беларусі" намагаецца даказваць, быццам ніякай Беларусі не было, а была Вялікалітва.

У гэтай сувязі варта нагадаць некаторыя факты, якія ўсім як быццам павінны быць вядомымі, але чамусьці ў некаторых выпадках забываюцца. Аўтар "Прамовы Мялешкі" хваліць Жыгімонта І за тое, што ён «Литву и Русь нашу любительно миловал». У сваю чаргу Васіль Цяпінскі ганарыўся тым, што сам ён "Русін" "своей Русі услугуючий". А ці можам мы сёння забываць, што пра мову "рускую" пісаў Францішак Скарына або Статут Вялікага Княства Літоўскага? Ці знойдзе хто-небудзь тут згадкі пра мову "вялікалітоўскую" або хаця б проста "літоўскую"? Арыгінальна атрымалася б, калі б зямлю нашу мы сёння абвяшчалі Літвою, а мову называлі рускай (беларускай)? Няўжо нашы продкі карысталіся на сваёй зямлі чужой мовай? Праўда, літоўцы ў колішнія часы карысталіся беларускай мовай, якая была дзяржаўнай. Але ў беларусаў была мова свая.

Самі назвы "Літва" і "Русь" у колішніх крыніцах не атаясамліваліся. Пераканацца ў гэтым мы можам, чытаючы не толькі "Прамову Мялешкі", але і "Летапіс Самавідца", дзе, напрыклад, гаворыцца: ***"Также того ж времени***



***(у 1654 г. — У. К.) Дубровную, Оршу, Шклов, Копысь повыймано, и Могилев подался его царскому величеству, а там воевода зоставал и Поклонский полковник; и иные многія городы літовскіе Белая Русь; с чего и титул стал: и Белые России»***.

Праўда, Язэп Юхо паведамляе: ***"Пры вялікім князі Іване ІІІ тэрмін "Белая Русь" уносіцца ў тытул вялікага князя Маскоўскага. Пад Белаю Руссю разумелася і ўся падуладная Багдану Хмяльніцкаму Украіна"***. Аднак жа ў "Летапісе Самавідца" падуладная Багдану Хмяльніцкаму зямля ўсюды называецца Украінай. Пры выпадку варта нагадаць, што сам "Летапіс Самавідца", апублікаваны ў 1846 г., напісаны ў асноўным на беларускай мове, чаго ніяк не хочуць улічваць некаторыя навукоўцы. Яны карыстаюцца выданнямі, падпраўленымі пад нормы ўкраінскай мовы.

З гістарычнымі назвамі і звязанымі з імі разважаннямі не ўсюды ў артыкуле атрымалася гладка. Вось мы, напрыклад, чытаем: ***"Імя Польшча для нашай краіны пачало ўжывацца пасля Люблінскай уніі 1569 г. польскімі палітыкамі, якія падмянялі назву дзяржавы Рэч Паспалітая найменнем Польшча"***. Падобнае ў наш час можна сустрэць ў сур'ёзных навуковых крыніцах ды нават і ў падручніках. Такім аўтарам варта было б аднак зірнуць у польскія навуковыя крыніцы або ў энцыклапедыі, каб даведацца, што Польшчу называлі Рэч Паспалітая яшчэ і ў XV стагоддзі, задоўга да Люблінскай уніі. Ды і Польшча 1918—1939 гг., а таксама і сённяшняя Польшча захавалі назву Рэч Паспалітая. Словы "Русь" і "рускі" ў дачыненні да сённяшніх беларускіх тэрыторый усё больш выразна губляліся. А ці можна тое ж самае сказаць пра назвы "Літва" і "літоўскі"? Ці выпадкова Адам Міцкевіч называў сваю радзіму Літвою? Яшчэ ў першай палавіне XIX стагоддзя знайшліся аднак дастаткова адукаваныя і дасведчаныя людзі, якія зразумелі, усвядомілі, што Літва і Беларусь — гэта не адно і тое самае. Тэрмін Беларусь у нашым сённяшнім разуменні выкрышталізаваўся па сутнасці толькі ў XIX стагоддзі на тэрыторыі, якая калісьці лічылася рускай або літоўскай, бо некалі сама дзяржава называлася Вялікае Княства Літоўскае.

Пра тое, як Масква навязвала нам імя "Беларусь", дастаткова выразна сказаў сам аўтар артыкула ў іншым месцы: ***"У 1840 г. цар Мікалай І загадаў не ўжываць у афіцыйных дакументах найменне Беларусь і Літва, а таму было прыдумана нам новае імя "Северо-Западный край"***.

У асяроддзі супрацiўнікаў паўстання ў 1863 г. з'явіўся ў Вільні зборнік "Рассказы на белорусском наречии". Адкрываўся ён нарысам "Хто былі нашы найдаўнейшыя дзяды, і якая іх была доля да уніі". Пачынаўся нарыс сказам: ***"Старана, дзе жывуць цяпер пінчукі, мінчукі, віцебцы, магілёўцы, завецца Белаю Руссю; у гэтай старане з вельмі даўніх часоў жыў народ славянскі, родны з народамі, каторыя даўней жылі і цяпер жывуць у паўднёвых і ўсходніх рускіх краях. (...) Можна толькі сказаць, што цяперашняя Віцебская, Магілёўская губерні, маленькі кавалачак Пскоўскай і Смаленскай, значная часць Мінскай губерні з Пінскам, Мозырам і Туравам, кавалачак Віленскай да рэчкі Дзітвы і добры кавалак Гродзенскай з местамі Ваўкавыскам і Бярэсцем — былі тымі месцамі, дзе жыў беларускі народ"***.

У такім духу і стылі ў нарысе разгортваецца гісторыя Беларусі на працягу стагоддзяў, яе сумесны лёс з Літвою. І зусім натуральным успрымаецца такое, напрыклад, паведамленне: ***"З часам літвіны, каторыя жылі найбліжэй каля Беларусі, зусім страцілі сваю мову і пачалі гаварыць па-беларускаму"***.

Са зборнікам "Рассказы на белорусском наречии" можна сёння пазнаёміцца ў часопісе "Беларусь", 2001, № 7. Праўда, там змешчаны тры нарысы з пяці. Але яны даюць дастаткова выразнае ўяўленне пра змест зборніка.

Напрыканцы варта яшчэ раз паўтарыць: у артыкуле прафесара Язэпа Юхо небывала багата звестак з найразнастайнейшых крыніц, якія пакінулі нам мінулыя далёкія і больш блізкія стагоддзі.. І не дзіва, што ў працэсе чытання могуць узнікнуць нейкія пытанні ці наватзасцярогі, а нешта хацелася б і ўдакладніць.

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне паэту Анатолю СЫСУ з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора — смерці маці.**

НАЎЗБОЧ

# КАБ ЖЫЦЬ У КРОШЫНЕ

**(да 190-годдзя Паўлюка Багрыма)**

*"Зайграй, зайграй, хлопча малы,*
*І ў скрыпачку і ў цымбалы,*
*А я зайграю ў дуду,*
*Бо ў Крашыне жыць не буду."*

Што мы сёння ведаем пра амаль двухсотгадовага Паўлюка Багрыма? У адрозненне ад іншых нашых Паэтаў, у большай пераважнасці толькі тое, што самі пра яго й напісалі...

І ўсё ж прызнаем, што народ, які ўшаноўвае і мае патрэбу нават у такой СЦІПЛАЙ спадчыне, варты пашаны не менш самога творцы. Бо гэтак — роў да замчышча, верш да летапіса, пергамент да карціны — і складаецца наша гістарычная памяць, нацыянальная самасць. Колькі разоў ні быў у Крошыне, што пад Баранавічамі, а ўсё не магу зразумець, як у колішняй вёсачцы з дзесяткам-другім курных хатак мог *нарадзіцца* такі майстравіты ізгой з антыпрыгоннай вольналюбівай душой?! Бо і сёння там, і ў больш светлых, тэлерадыёагучаных дамах, людская свабода нараджаецца на гэты свет з цяжкасцю... А канаем мы ціха і неўпрыкмет. За дагледжанай магілай Паўлюка Багрыма — нашыя неўпрыглядзь. *"Нас тьмы, и тьмы, и тьмы"*...

Але, дасць Бог, мо неўзабаве *развіднее.*

Наастатак гэтай памятнай згадкі яшчэ ўспомнілася мне, што аднойчы, напачатку нашай незалежнасці праводзіўся рэспубліканскі конкурс аднаго верша, прысвечанага нашаму юбіляру. Першым (і чамусьці апошнім) пераможцам стаў тады паэт з Баранавічаў **Аляксей Белы.** Друкуем верш з невялікім скарачэннем, перапрашаючы ў аўтара (не падумайце толькі, што гэта якая палітычная цэнзура). Сціпласць — сястра таленту.

## КРАШЫН

**Паўлюку Багрыму**

І

*На каменнях з медзі кветкі*
*стынуць,*
*Што тут зробіш? Крыж. Малiннік.*
*Пуста...*
*Верш пасля сябе адзін пакінуць,*
*Выкаваць карункавую люстру.*

*І пайдуць павольна век за векам,*
*Як заўжды — ў чаканні лепшай*
*долі...*
*А карункам — Лёсу Чалавека —*
*Бог пазначыць месца у касцёле.*

*Не ў сталіцах, а у храме сельскім,*
*Дзе шапочуць дрэвы ля магілы,*
*Жаваранкі селі між цяпельцаў,*
*А ўзляцець ім не хапіла сілы.*

*Тут — аб Вечным думы. І аб Хлебе.*
*Тут — і сум, і шчасце — як ніколі!..*
*Птушкі, што спяваюць толькі ў небе,*
*Гнёзды павілі на жырандолі.*
..................................

ІІ

*Зноў на зямлі — адбітак пустаты,*
*Зноў сонца ціха стыне на усходзе...*
*Страсае час апошнія лісты*
*З самотных дрэў дваццатага*
*стагоддзя.*

*І час — свае каменні пазбіраць,*
*І з торбаю пайсці па белым свеце,*
*І зразумець, што песні — не гарадзь,*
*А ціха свецяць.*

*Так дзіўна свецяць, што і ў пекле —*
*рай,*
*І ты пры іх — нібы на раздарожжы.*
*Дык, можа, хлопча, ты і нам зайграй,*
*Каб стаў зноў свет цудоўным*
*і прыгожым.*

*А прыгажосць — заўсёды на віду,*
*Як кветкі, як на ясным небе — зоры...*
*Стагоддзямі глядзеліся ў ваду*
*Крыжы касцёлаў і крыжы сабораў.*

*Тут ставіліся шчыра да душы,*
*У палон тут жыта брала краявіды.*
*Кавалі тут спрадвеку лемяшы,*
*А калі трэба, то кавалі дзіды.*

*І слаўся над ракою белы дым,*
*І човен зноў выносіла на стрыжань.*
*І неслі коні, кованыя ім,*
*І да Навáградка, і да Нясвіжа.*

*Тут слухаў жаўрукоў вясёлы спеў,*
*Каваў падковы — знак шчаслівай*
*долі...*
*Ён нешта для людзей зрабіць паспеў,*
*А шчасце сваё выкаваць — ці здолеў?*

*Ён шчыра быў адданы рамяству*
*І слова ведаў велічную сілу...*
..............................
*І йдуць сюды дзівіцца хараству,*
*І проста пастаяць каля магілы.*

Памятайма пра сваё, каб не дбаць пра чужое.

**ЛеГал**



## АФІША ЛІСТАПАДА

**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**

**15** – "Спартак", А. Хачатуран
балет у 3-х дзеях
**17** – "Дон Кіхот", Л. Мінкус
балет у 3-х дзеях
**20** — "Карміна Бурана", К. Орф
балет у 1-й дзеі
"Кармэн-сюіта", Ж. Бізе-Р. Шчадрын
балет у 1-й дзеі
**22** — "Спячая прыгажуня", П. Чайкоўскі
балет у 2-х дзеях

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**

**16** – "Вяселле Фігара", В. А. Моцарт
опера ў 4-х дзеях
**17** (раніца) – "Пітэр Пэн", А. Будзько
мюзікл у 2-х дзеях
**19** – "Рыгалета", Д. Вердзі
опера ў 3-х дзеях
**21** – "Травіята", Д. Вердзі
опера ў 3-х дзеях

**Беларускі дзяржаўны музычны тэатр**

**15** – "Прынцэса цырка", І. Кальман
аперэта ў 3-х дзеях
**16** – "Даратэя", Ц. Хрэннікаў
камічная опера ў 2-х дзеях
**17 (раніца)** – "Залатое кураня", У. Уланоўскі
мюзікл для дзяцей у 2-х дзеях
**17** – "Ноч у Венецыі", І. Штраус
карнавал у 3-х дзеях
**19** – "Цыганскі барон", І. Штраус
камічная опера ў 2-х дзеях
**20** – "Капялюш Напалеона", О. Штраус
аперэта ў 2-х дзеях
**21** – "Дарагая Памела", М. Самойлаў
мюзікл у 2-х дзеях
**22** – "Галактыка кахання"
музычнае шоу

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**

**17 (раніца і вечар)** – "Паўлінка", Я. Купала
камедыя ў 2-х дзеях
**18** — "Смак яблыка", А. Дзялендзік
камедыя ў 2-х дзеях
**20** — "Свае людзі — паладзім", А. Астроўскі
трагікамічныя сцэны з жыцця глухамані ў 2-х дзеях
**23** — "Князь Вітаўт", А. Дудараў
легенды сівой даўніны ў 1-й дзеі

**Малая сцэна**

**15** – "Мы і яно", А. Аверчанка (прэм'ера)
"машынальная" камедыя ў 1-й дзеі
**17** – "Крывавая Мэры", Д. Бойка
вечаровы кактэйль у 1-й дзеі
**18** — "Тэатр п'есы", В. Скалабан
Да 120-годдзя Янкі Купалы "У жніўні 36-га"
**21** — "Саламея", С. Кавалёў
летапіс кахання
**22** — "Каварства і любоў", Ф. Шылер
мяшчанская драма ў 2-х дзеях

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага**

**15** – "У прыцемках", А. Дудараў
драма ў 2-х частках
**16** – "Свабодны шлюб", Д. Фо, Ф. Рамэ
камедыя ў 2-х частках
**17** – "Складаныя людзі, альбо Жаніх з Іерусаліма", І. Бар-Іосеф
нешта накшталт камедыі ў 2-х частках
**19** – "Амфітрыён"?
інтымныя сцэны з жыцця людзей і багоў у 2-х частках
**20** – "Ваўкі і авечкі", А. Астроўскі
камедыя ў 2-х частках
**21** – "Тэрмінова патрабуецца... "самазабойца", М. Эрдман
трагікамедыя ў 2-х частках
**22** – "Вар'ят і манахіня", С. Віткевіч
кароткая п'еса ў 3-х частках

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**

**15, 22** – "Жанчыны Бергмана", М. Рудкоўскі
псіхалагічная драма ў 2-х дзеях
**17** – "Чарнобыльская малітва", С. Алексіевіч
**19** – "Песні ваўка", У. Панін
драматычна-пластычная элегія ў 2-х дзеях
**20** – "Чорны квадрат", М. Адамчык, М. Клімковіч
кабарэ-дэтэктыў у 2-х частках без антракту
**21** (эксперыментальная сцэна) – "Палёты з анёлам", З. Сагалаў
**21** – "Толькі дурні сумуюць", Д. Альмагор
спектакль-прытча
**23** – "Балада пра Бландою", С. Кавалёў
сцэны кахання і нянавісці ў 2-х дзеях

Гастролі Мінскага абласнога драматычнага тэатра (г. Маладзечна)
( у памяшканні Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра)

**15** – "На другі дзень Сёмухі", Ю. Вута
сцэнічны жарт
**16** – "Без мяне мяне ажанілі", Ф. Крон
камедыя
**17** – "Білет у рай", Ю. Эдліс

**Дзяржаўны маладзёжны тэатр**

**19** – "Трамвай "Жаданне", Т. Уільямс
псіхалагічная драма ў 2-х дзеях
**21** – "Чорт выстаўлены аслом"
спектакль у 2-х дзеях паводле сярэдневяковых французскіх эратычных фарсаў
**22** – "Трызненне ўдваіх", Э. Іянэска
парадаксальная камедыя

### ПАДЗІВІСЯ!

*Лявон Тарасевіч меў 2 тыдні, каб распісаць, ператварыўшы ў "карціну для вытоптвання", 200 м² падлогі. З дапамогай сяброў ён прайшоў па цаліку прапанаванай прасторы, узараў яе 4-ма кіламетрамі ліній-баразнаў, звёўшы 2,5 тоны фарбаў ды дзесяткі пэндзляў. Адначасна ягоны асістэнт Войцах Зубаля "пісаў" сваё асацыятыўна-дакументальнае фотапалатно. Вынікам сталася унікальная выстаўка фатаграфій: "Лявон Тарасевіч у польскім павільёне на 49. Біенале мастацтва ў Венецыі". Яшчэ адну выстаўку склалі здымкі некалькіх іншых фатографаў. Адмысловае спалучэнне абедзвюх экспазіцый прадстаўлена ў Мінску, у Музеі сучаснага мастацтва, у межах праекта "Восень польскай культуры". Хто не бачыў — паспяшайцеся: заўтра выстаўка зачыняецца. Яе працягам будзе запланаваны на перспектыву Польскім інстытутам паказ уласна жывапісу Лявона Тарасевіча.*

**С. ВЕТКА**



# «БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ ВОСЕНЬ»

## XXIX Міжнародны фестываль мастацтваў




### Канцэрты ў Мінску

**20 — Акадэмія музыкі**

Дзяржаўны сімф. аркестр РБ. Салісты — навучэнцы Рэспубліканскага каледжа пры БАМ. Р. Кушняроў (кларнет), Я. Казела (скрыпка), А. Дулаў (віяланчэль), Г. Юхо (ф-на).

Інструментальныя канцэрты Л. ван Бетховена, К. М. Вебера, М. Бруха, К. Сен-Санса. Дырыжор І. Касцяхін, музыказнаўца А. Парэцкі.

**21 — Палац культуры ветэранаў**

Капэла "Sonorus". Мастацкі кіраўнік А. Шут. Салісты Т. Пятрова, І. Цемчанка, Н. Трашко, Л. Дубавы, А. Міхайлаў, чытальнік М. Казінін.

В. Казлоўскі, "Рэквіем"; Д. Даўгалёў, "Зорка Палын" (араторыя на вершы У. Пецюкевіча). Дырыжор праграмы М. Траццякова.

**24 — ПК тэкстыльшчыкаў (вул. Маякоўскага, 129)**

Беларускі дзяржаўны ансамбль народнай музыкі "Свята". Мастацкі кіраўнік А. Кашталапаў.

**25 — Нацыянальны мастацкі музей**

Канцэрт-рэквіем памяці Святаслава Рыхтэра. Салісты Белдзяржфілармоніі, а таксама стыпендыяты Спецыяльнага фонду Прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі. Капэла "Sonorus".

**27 — ПК трактарнага завода**

Мінскі дзяржаўны духавы арк. "Няміга". Музычнае тэатралізаванае дзейства "Няміга" — стрыт-шоу". Творы Д. Элінгтона, Д. Гершвіна, Д. Уільямса, Л. Вэберна, У. Ткачэнкі ды інш.

Салісты Я. Лятун, Д. Смольскі. Дырыжор В. Міхновіч, рэжысёр Г. Аладава.

**30 — Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр**

Закрыццё фестывалю. "Чайкоўскі-гала". Кантата "Масква", уверцюра "1812 год", Сімфонія № 6.

Дзяржаўны сімф. арк. РБ. Галоўны дырыжор А. Анісімаў. Акадэмічная харавая капэла імя Р. Шырмы. Салісты А. Бондарава, У. Пятроў.

### Зала камернай музыкі (пр. Ф Скарыны, 44а)

**19 — Інструментальныя творы** Г. Пёрсела, Ф. Шуберта, Я. Брамса, В. Карэтнікава граюць Ю. Герман (скрыпка), У. Хімарода (альт), Д. Скляроў (віяланчэль), Ю. Гільдзюк (ф-на).

**22 — Музыка для флейты і аргана:** Б. Марчэла, Я. ван Эйк, Г. Ф. Тэлеман, А. Вівальдзі ды інш.

С. Эрхард (флейта, Германія), К. Пагарэлая (арган).

**23 — гучыць кларнет:** І. Мазгавенка (Расія), Г. Забара, Мінскі квартэт кларнетаў; піяніст Ю. Гільдзюк.

Музыка Ф. Э. Баха, І. Кванца, Л. ван Бетховена, Д. Расіні ды інш.

**25 — Вакальная музыка XX ст.:** Д. Энеску, Б. Брытэн, Д. Шастаковіч, Д. Лыбін, А. Безенсон.

Спяваюць В. Сотнікава, А. Хмызаў, за раялем — А. Лузан, Т. Дуброўская, Д. Лыбін.

**26 — Струнны квартэт Літоўскай акадэміі музыкі** (клас прафесара П. Кунцы).

Творы Ё. Гайдна, В. Баркаўскаса, Ф. Шуберта.

**28— Спявае Г. Паўлянок** (г. Гомель): Э. Гранадас, М. дэ Фалья, Ж. Бізэ, Г. Ф. Гендэль, А. Скарлаці ды інш. У праграме ўдзельнічаюць А. Афанасьева (ф-на), К. Пагарэлая (арган, г. Полацк).

## ФОТАЗГАДКА АФІШЫ



Малады саліст з кларнетам адыграў канцэрт і глядзіць... на галёрку. Публіка наладзіла авацыю, пэўна, патрабуе: "Біс!" Гэты здымак зроблены ў 1980 годзе, калі новая зорка, на той час яшчэ мала каму вядомы лаўрэат 1-й прэміі Усесаюзнага конкурсу выканаўцаў на драўляных духавых інструментах Генадзь Забара меў гонар выступіць на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі з нашым Акадэмічным сімфанічным аркестрам. У кадры — знакамітасці: скрыпачы С. Асновіч (канцэртмайстар аркестра) ды Р. Асновіч і незабыўны кумір публікі маэстра Віктар Дуброўскі. З таго часу досвед Г. Забары, цяпер ужо заслужанага артыста Беларусі, лаўрэата міжнародных конкурсаў, дацэнта Акадэміі музыкі пабагацеў на безліч канцэртаў, творчых сустрэч, "бісоў", якіх паболее і на сёлетняй "Беларускай музычнай восені".

**С. Б.**
**Фота А. КАЛЯДЫ**





ЗАСНАВАЛЬНІК

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-8525**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8153**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-4404**
**літаратурнага жыцця — 284-4404**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-4404**
**паэзіі і прозы — 284-4404**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8153**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-4991**
**Тэл./факс — 284-8525**

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1642
Нумар падпісаны ў друк 14. 11. 2002 г. у 15.00

Рэгістрацыйнае Пасведчанне № 715

Заказ 2644

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12